Пролетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!

# АРШАНСКІ МАЛАДНЯК

Орган Аршанскае філіі Ўсебеларускага Аб'яднаньня Поэтаў і Пісьменьнікаў МАЛАДНЯК

№ 7 | КРАСАВІК | 1928

## ЗЬМЕСТ

Стар.

1. **А. Вечар**—Недапісаны ліст (*верш*) . . . . . . . . . . 3
2. **Зяма Півавараў**—З яўрэйскіх мотываў (*верш*). . . . . 6
3. **Юрка Гаўрук**—У маткі за пазухай (*апавяданьне*) . . 7
4. **Прыбыткоўскі, Ўл.**—Вершы . . . . . . . . . . . . 21
5. **М. Г.**—Хоцімка (*апавяданьне*) . . . . . . . . . . 26
6. **А. Вечар**—З кнігі „Мінулае“ (*вершы*) . . . . . . . 29
7. **Васіль Каваль**—У супрадках (*апавяданьне*) . . . . . 31
8. *Вершы*—З. Астапенкі, Сяргея Калугіна, Ларывона Максімава, Юлія Таўбіна, Я. Гоманава і Ганны Сапрыкі . . . . . . . . . . . . . . . . 37
9. **Яз. Вір**—Панскае права (*п'еса ў аднэй дзеі*) . . . . 43
10. **А. Аляксееў**—Хатнярка Лёнька (*поэма*) . . . . . . . 56
11. *Вершы*—А. Аляксеява, С. Законьнікава, У. Ермаковіча . 62
12. **Гэнрых Гэйнэ**—Лёрэляй (*пераклад з нямецкай мовы*) 65
13. **Ўільям Шэкспір**—Сонэты (*пераклад з ангельскай м.*) 66
14. **Ю. Гаўрук**—Дума (*верш*) . . . . . . . . . . . . 68
15. **В. Бухаркін**—Лірычны фэномэн . . . . . . . . . . 69
16. **Ўл. Прыбыткоўскі**—Індывідуальнасьць і сучасная літаратура . . . . . . . . . . . . . . . 82
17. **М. Гарэцкі**—Бядуля пасьля Кастрычніка . . . . . . . 87
18. **Народная творчасьць і мова**— М. Гарэцкі, Ю. Гаўрук, В. Каваль, М. Змушка . 91
19. **Бібліяграфія**—Ю. Гаўрук, А. Лясны, А. Аляксееў, М.Б—к.101
20. **Хроніка** . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А. Вечар

# Недапісаны ліст

Як многа дзён,
праведзеных ва сьне,
загіне ў жорсткую
жыцьця і думак замець...
Але змаганьню, працы і вясьне
заўсёды месца захавае памяць!

Таварышы!
Я атрымаў ваш ліст.
Паўсталі прада мной
шляхоў і часу далі—
і ў грудзі мне капэляю вайшлі
і думамі маімі заўладалі.

Я помню добра малады разгон
на берагох ракітавых Арэсы
і ведаю,—
ў завілінах мазгоў
тых дзён не зачарніць і не закрэсьліць.

Дык як-жа так?
Лявон, няўжо само
табе у галаву прышло такое глупства,
што ты, батрак,
пакінуў камсамол,
паміж завулкаў на рагу стаў.

У нас ня ўсё на вёсцы—дабрыня
Таму і чуткі поўзаюць,
як зьмеі...
Але, каб ты тугою набрыняў—
мой дарагі,
ніяк не разумею.

Ты не кажы:
„было з табою лепш...“
Даўно пара вам пра мяне забыцца!
А то і ў тым,
што падарожаў хлеб,
па-твойму выйдзе я павінен быццам.

Адну віну я толькі прызнаю...
Лягла задумай на смуглявым твары.
Дык што-ж!
Істоту вам аддам маю,
як лепшы друг ваш
і стары таварыш.

Пакінуў я
трыкутнікі ялін,
сказаў „бывай!“
кругляватасьці бярозак;
вядома ўсім, што кулакоў цьвяліць
такая нэндза і такая проза.

Пашоў туды,
дзе гоман гарадоў...
Яны заўсёды, друг, людзей умесьцяць.
Цяпер—студэнт.
Жыцьця майго „рондо“
на дзевятнаццаць рублікаў у месяц.

Цяпер мне, дружа,
роўна дваццаць тры.
З тае пары і я павышаў ростам.
Цяпер ня кружыцца
і ў заціш і ў вятры,
ня сьцеле вочы мне,
як здрада, злая ростань.

Разгорне нехта
камсамольскі сьпіс
і „пераростак“ стане поруч з імем.
Няхай! Няхай!
Калі мой дух ня сьпіць,
я буду з партыяй на зло суровым зімам.

Краіна наша ўся ідзе к вясьне,
галоп зьмяніўшы на трываласьць рысі,
і кожны дзень становяцца ясьней
другіх людзей і будучыны рысы.

Ужо і так, таварышы, няўсьцерп
старой зямлі балоцістая вохкасьць.
Вазьму з сабою малаток і серп,
каб больш ніколі
ня тужыць,
ня вохкаць.

Прыду да вас у блізкія гады...
і прыдуць многія шырокім крокам
пабудаваць такія гарады,
якіх ня бачыла жывое вока.

Але-ж, мінорам думак не расьцяць
Чакайце, любыя!
Прышлю другія весьці.

Я абарваў...
Ліста майго працяг
само жыцьцё іначай піша дзесьці.

Горы-Горкі, Акадэмія.
12/III-28 г.



Зяма Півавараў

# З яўрэйскіх мотываў

(Ліст у Амэрыку)

Майн фрайнт*), пагавару з табой,
Ты знаеш як у сэрцы плешча муць,
Хай будзе ў сэрцы зноў спакой—
Мэлёдый дзікіх ня люблю.
Майн фрайнт, пагавару з табой.

Алэйхем шолэм**)! ў нас цяпер вясна-
У кожнага так шчокі кармазыняць.
Прышла яна, прышла каго гукаў,
Прышла, каб кветкі кінуць.
Алэйхем шолэм! ў нас цяпер вясна.

Хай хто паспробуе адняць з душы імкненьні—
Таму ня будзе ў дзікай роспачы спагады.
Лепш сам пастаўлю час я на калені!
Люблю свой край, навошта мне Канада.
Хай хто паспробуе адняць з душы імкненьні!

Алэйхем шолэм! ў вас там сьмерць і холад,
А ў нас вясновыя гараць агні.
Стаіць як вялікан, як нейкі волат,
О Беларусь мая—Эрусалім!
Алэйхем шолэм! ў вас там сьмерць і холад.

Бывай, бывай! у нас цяпер вясна—
У кожнага так шчокі кармазыняць.
Прышла яна, каб кветкі рассыпаць
На дол душы даждмом і ліўнем.
Бывай, бывай! цяпер у нас вясна.

*) Мой дружа.
**) Здароў—вітаю.

Юрка Гаўрук

# У маткі за пазухай

Апавяданьне

Уся справа пачалася праз ката.

— Коцік, буркоцік, мармытка мая, лахмунчык, белалапенькі! Хадзі сюды, кіцінька! Ляж тут, золатца!

На прызьбе было дужа прытульна: падкурчаныя дошкі, а за дошкамі сухая гліна, чорная, як ток, паямленная ад зацяжных пасяданьняў— і ранічных і вячэрніх.

Хацінка ўдавы Паліванскай, падобная да хацінкі суседа, муляра Стася, падобная да хацінкі другога суседа, агродніка Штукана, праліпела доўгі век, але ўсё яшчэ нейк трымалася. Жыла ўдава Паліванская, жыла й хацінка. Тулілася ўдава да старэнькіх сьцен, як падлога да зямлі, і пакрысе, пакрысе, ад дзядоў да дзяцей, стала хатка такой прытульнай, што затуліла сваім застрэшшам усіх беспрацоўных ваколіцы. Няма табе дзецца дзе, альбо цябе выгналі — ідзі да Паліванскай: там знойдзеш куток; пакрыўдзілі цябе—не чакай літасьці ад бога, цалуй рукі Паліванскай, прасіся, маліся і будзеш выратаваны: прыме, як стрэчнага брата, пашкадуе і дапаможа.

Праўда, хадзілі чуткі быццам гандлявала яна крадзеным, але гэтаму ня верылі і лічылі нагаворам зайздросьнікаў, бо ўдава Паліванская трэці месяц як хварэла і ня то што на горад, нават на двор, здаецца, ня любіла выходзіць. Ну, вядома, кватаранты хадзілі, хто забароніць кватарантам, але гэта ня мае ніякага дачыненьня да гаспадыні-карміцелкі. Благая слава ня можа папсаваць добрага чалавека, а злыдню ўсунь у рот палец—адкусіць. Апрача таго, трэба дадаць яшчэ адзін факт, вельмі значны, да характарыстыкі кватарантаў удавы Паліванскай: гэты факт наложыць клямары на языкі ўсім недаверкам. Ці можа гультай красьці?— не. Ці можа недарэка красьці?—не. Гультай палянуецца, а недарэка хай толькі папрабуе, дык адразу і пападзецца. Ніхто ніколі не лавіў кватарантаў удавы Паліванскай, дык навошта плявузгаць дарэмна, не злавіўшы. Паліванская і склад душы такі мела, што каб якое свавольства, дык яна зараз-жа першая супраць: усякае свавольства карала строга і

на месцы, асабліва, калі яно парушала хатнія звычаі, альбо шкодзіла маемасьці.

Паліванская трымала ня толькі кватарантаў, у яе былі куры і дочка Маруська. Марусьцы пяць год—кволае, замысьленае такое стварэньне. Куры зіму й лета начавалі падпечкам—дзевяць штук разам з пеўнем.

Ахрэм, Пятрок, Павалка і Юзік жылі з Паліванскаю, цераз сенцы ў аднавокай каморы жыла асобна Люба Крупчык, незалежная старая дзеўка пры кату і пры кацяняці: мела дзесяціну зямлі і таму нічога не рабіла.

Дык вось, заспакоіўшы бульбіну тваражком, вышла Люба пасьля паўдня на прызбу пагрэцца, вынесла і коціка свайго рабенькага пачухаць яму сьпінку і палашчыць, выбрала самую ўтульную ямку, села, распрастала жывёлінку і разыгралася.

Сонца сьвеціць, верабейкі пырхаюць, адцьвітала ліпа пры плоце, гуў шэршань каля падваліны, сінегаловікі мухі цялёпкаліся ў прызбу.

— Золатца маё, клуначак мой!—казала Люба і слакатала пальцам кату жывот.

Разбэшчаны худы кот пруціўся на каленях, разваліўшы лапы, выхіляючы морду, і хрыпла бурчаў. Люба млела ад непатрачаных пачуцьцяў, ад буйнай асалоды сэрца пры завялых мазгох, і хіжае кацінае бурчаньне абуджала ў ёй далікатную дрымоту, якая неабходным дадаткам прымацавалася да яе з маленства.

Ах, як прыемна ў сорак чатыры гады захаваць дзіцячую бязьвіннасьць, ружовасьць шчок, тонкі пурпур вуснаў, альняныя кудры і кірпаты носік! Дробная постаць Любы красавалася на прызьбе, як нерасплесканы кілішак віна, як бясьсьмертнік у вагародчыку хуткацечных хвілін.

Тымчасам Паліванская бухнула цяжкаю клямкай, скрабанула дзьвярыма земляныя натопіны і выціснулася ў сенцы даставаць гарнушкі. Падняўшы няшчыльную засланку, яна хацела качарэжкай падсунуць бліжэй да сябе гладыш з параным малаком і вельмі зьдзівілася, што, доўга поркаючыся, ніяк не магла зачапіць гладыша. Гладыш яна паставіла з правага боку, але правы бок быў пусты. Тады яна борзда нагнулася і зірнула ў печ. З правага боку стаяў толькі гаршчок заціркі бяз накрывачкі: накрывачка скінута. Спалохаўшыся, зірнула яна ў другі бок і знайшла гладыш між чыгункоў абернуты, вышчарблены і хоць бы кропля малака.

— А-ей, а божухна! Што-ж гэта? Хто-ж гэта?—і Паліванская палезла з галавою ў печ.

З халоднае, мала паленае печы дыхнула на яе куродымам, з таўкаю і попелам.

Сумна кіўнуўшы галавою, Паліванская нюхнула яшчэ раз, бо паманулася ёй улавіць кашэчыя кісьліны. Так, кашэчыя кісьліны востра церабілі нос азызлым, брыдкім пахам.

— Каты, Любкін кот!—аж затраслася Паліванская.—Высмактаў малачко, пабіў гладыш, ды яшчэ й нагадзіў, каб ёй душу высмактала з яе катамі!

Паліванская пабялела ад гневу. Дабротная, сярэдняга росту жанчына, крыху прыпухлая, ні то ад хворых нырак, ні то ад лішняй флегмы, яна ня прывыкла злавацца, але непрадбачанае блюзьнерскае уварваньне паскуднага пястуна Любы Крупчык у сьвятыя мясьціны перакроіла шчасьлівы нораў яе сэрца. Яно паднялося, як падымаецца агонь, калі запаліць салому. Яно ўдарыла ў грудзі, як вялікі камень па салявым мяшку. Ад сярдэчнага бою пырснула іскрамі цела Паліванскай і захадзіла студзенем.

Яна да рэшты зьбялела. Лінялы блакіт вачэй вылупіўся праз шкарлюпку павек, каб разьліцца да памераў прадоннага возера. Паліванская не магла адразу здагадацца з чаго пачаць. Заўсёды ў думках, як струк з гарохам, нейк адразу высыпала ўсё, раскалолася нутром, як пасьпелы струк.

Люба, седзячы на прызьбе, калыхала ката ў прыполе, а Паліванская моўчкі сьціскала адзервянелымі рукамі гладыш, ахвяру нядбайства.

— Божухна мой,—ціха прастагнала яна,—гэтакі быў гладыш! Дваццаць год служыў, як сёньня куплены, нябожчык Ігнат колькі з яго аднае масьлянкі папапіў, з варэньнем прастаяў паўгода, яшчэ з Цюціна сьмятану насіла ў ім, каб аплесьці—зносу ня было-б. А тут, трах, бах—вось і быў гладыш. І калі-ж гэта, каб ён здох? Ці яму наедку мала? Засланка прычынена была?—прычынена. Хай бы засланку скінуў хоць, а то ўлез нішкам, вывернуў, а пасьля яшчэ й нагадзіў.

На апошнім слове Паліванская зрабіла націск, выгаварыўшы „г“ цьвёрда.

Цьвёрдае „г“ павялічыла меру абразы да надзвычайнасьці,—і тут яе вуха пачула за дзьвярыма шалясьценьне нязнаных пяшчот.

Паліванская паставіла гладыш на тапчан і, так, як была, з неапраўленаю спадніцаю, баржджэй вышла з сянец.

Люба, увабраўшы шыю ў плечы, чысьціла каціны падбародзіч ад скочак.

Ото-то! яшчэ адна, маё золатца! ня рухайся, ляжы лёгенька, золатца!—кешкалася Люба.

— То ты гэта скочак шукаеш, сьцерва ты!—абарвала Паліванская сьветладушны Любін занятак. Ускінуўшы рукі, як шалі, падаткнуўшы паўразы хвартука, яна была падобна да багіні правасудзьдзя.

Люба Крупчык, зьбітая з панталыку рэзкім наступам Паліванскай, пакінула пароцца ў каціным падбародзічы і ўтароплена глянула на разьюшаную гаспадыню. Пакольні ласкі спыніліся, кот таксама крыху падазрона разгарнуў вочы і паволі пачаў растапырваць зрэнкі.

— Катоў плодзіш, пустапарожніца, шарпуха? Гаспадарку кацінную завяла, каб цябе на могілкі завялі? Кашэчаю маткаю стала? Сама сьпіш да паўдня, а каты вунь што вытвараюць? Гладыш быў, як цамантовы, а раструшчыў, як арэх, твой кот, лайдачка ты! Яму малачка насёрбацца, каб ты смалы насёрбалася разам з ім? Гэта-ж улетку ў печ улезьці? Ня вылезьлі твае вочы, транта!

Люба прабавала разявіць рот, але Паліванская сыпала і сыпала шротам лаянкі.

— Ты ведаеш, што твой кот мне нагадзіў у печы? чаму ён табе на прыпол не нагадзіць, скажы мне? Скажы, кажу, бо галаву праб'ю, за каўтун ды й выкіну?

Паліванская залілася румянцам.

— А чаму вы печы, як сьлед, не зачыняеце?—нясьмела апраўдалася Люба.

— А! дык ты гаспадыня ў маёй хаце? Сваёй ня маеш, а мне парадкі наводзіш? Хваробу, не давядзецца. Я цярпела цябе як добрую, а ты мне вунь што? Дзе твае бэбахі?

Пагроза выкінуць за парог убогія бэбахі працьверазіла Любу.

Паліванская раздулася, як багровая хмара. Срэбны пот пачаў скачвацца ўніз, апавяшчаючы гром і маланкі.

Пакатая роўніца твару ў межах наміткі перасеклася праменьнем лютасьці, як ластаўкамі рака.

Пазыходзіліся кватаранты. Сонны гэні іхняга жыцьця адляцеў на сухі лес, упуджаны крыкам жанчын і сьвежасьцю гісторыі.

Юзік збудаваў быў сабе вынегу на дровах, падлажыўшы, дзе трэба, калодку, дзе трэба, кажух, бо любіў здаровыя пацягушкі на вольным паветры. Ён стаў паводдаль. Ахрэм з Пятром, як Гэркулесы, пазіралі з сянец, падпёршы лажбінамі сьпін трупехлыя вушакі, і толькі беднаму Павалку, што вечна быў у раздабытках, не пашанцавала засьведчыць падзеі. Дзеўчынка Маруська, якая дагэтуль званіла ў конаўку недзе за хатаю, падбегла таксама. Яна цяпер калупала ў носе каля каменчыка, вывучаючы багацьце матчынай мовы.

— Чаго вы грозіцеся, дарагая? Калі мой кот вам гладыш пабіў, то я адкуплю гладыш.

— Купі сабе мужа, распусьніца!

Паліванская карпанула ў балючае месца.

Люба скочыла ад крыўды, ашчаперыўшы ката, і вызьверылася.

— А гусь памятаеш, зладзейка, памятаеш?..

— А-а, гусь? Ты мне пра гусь? Ах, ты...

І тут здарылася нешта жудаснае.

Паліванская схапіла ката за хвост, вырвала яго з рук і са ўсяго размаху плюхнула Любе ў твар. Жалобна зароўшы, кот толькі кеўкнуў,

а Люба голасна заякатала ад болю, бо кот, перавярнуўшыся, упусьціў кіпці глыбока ў шчокі. З ружовых шчок вылезла там-сям чырвонае мяса.

Ададраўшы ката ад Любінага твару, Паліванская папусьціла ім у плот.

— Вось, знай, гадаўка! Падліжы цяпер!

Люба паласкала кроў сьлязьмі, няпрытомна ўздрыгваючы.

Плакала і Маруська.

— Паспытала гусі, дык бяры-ж, мая любая, свайго коціка і пашукай сабе лепшае кватэры!—лагодна папрасіла Паліванская.

— А ты чаго тут таўчэшся? чаго нюні распусьціла? Марш да хаты! — крыкнула яна на дачку.

Цытадэля Паліванскай, верны вартаўнік людзей і курэй, магутны абаронца роўнага, як нітка, бытаваньня, стаяла напагатове, каб увабраць распушчаныя нюні.

Маруська схавалася.

— Вы гэта ня добра, гаспадыня!—ня змоўчаў Юзік.

— От, кладзіся ў свой бярлог! Мо' ня выкачаўся яшчэ? Цэлыя гаршкі твае, цэлыя!

— Ня добра, кажу, вот!

— Чаму ты тады нічога не казаў? А цяпер дык і надта добра!

Паліванская патупала да хаты парожняя, як капшук.

Пятро і Ахрэм сукланіліся і далі ёй дарогу, як найсьвеншаму біскупу.

— Ой, куды-ж я? Што-ж яна з мяне зрабіла? Што яна зрабіла? Юзік, братка, я ёй падтыкачка? Ты бачыў, братка? Я-ж ёй не падтыкачка, катом па твары біць. Глядзі як пакалечыў! А каб-жа ў вока? Бронь божа, каб-жа ў вока? гэта-ж я бяз вока-а...

І Люба завыла, уявіўшы сябе бяз вока.

— Ну але, каб-жа ў вока? Але-ж і так твар добра раскавелены,— згадзіўся Юзік.

— Калі мала, каб яшчэ прыдбала,—пажадаў падкусьлівы Пятрок.

— Ты, Любка, пляткарка: гэта табе за вялікае пляткарства. Вельмі-ж языком меньціш, не пашкодзіць, калі кот кіпцюром памяньціў,—дадаў Ахрэм.

— Каб ты, Ахрэм, нагу зламаў, якая я пляткарка?—Ані табе паратанку, ані парады, ну й людзі на сьвеце, каб ім бог не памог!

— Гэта цябе, кацінаю падлу, бог на сьвет пусьціў і пакаяўся. Сьвет гнюсіць, злыбеда, а яшчэ й наракае!—адазвалася з сянец Паліванская.

— Я вам, даражэнькая, сьвету ня гнюшу. Вы-б роднага тату за гладыш прадалі. Удавецеся сваім гладышом!

— Удавіся катамі, дрэнь!

— Ад такой-жа чую.

— Шлында!
— Чаго вы лаецеся?
— Шлында!

Стрыманы Юзік ня стрымаўся і ўзьлез на дрывяныя палаткі. Ен любіў прэць зімою на печы, а летам на сонцы. Чалавек нявыразнага пахаджэньня, ён заўсёды прыгаварваў: на печы, як у маткі за пазухай, а на сонцы, як у бацькі за плячыма, вот.

Асыпалася неба цяплом, ня шумела ліпа пры плоце, па рыжай барадзе Юзіка прабегла цішыня і пасьлізнулася аб вочы. Які ён харошы, Юзік, у празрыстых вопратках, на дрывяных палатках, падперты локцем! Які ён харошы і зграбны ў сваіх бесклапотных лятуценьнях за плячыма ў бацькі! Яму напэўна будзе сьніцца саладуха.

Ахрэм і Пятрок пашлі сьледам за гаспадыняю.

Пятрок мабыць латацьме свае сьвяточныя порткі.

Пісьменны Ахрэм возьме „Ниву“ за 1905 год, што дасталася гаспадыні ў спадчыну ад кватаранта-вучня, пачытае пра японскую вайну і скажа: была вайна японская, была вайна германская, усё вайна ды вайна—гэта шчасьце, што я карнавухі.

Разбрыліся дзівакі, адна толькі Люба Крупчык уздыхала сьлязой, каўтаючы боль і горнасьць у пякучы шлунак сваёй дзявоцкасьці—у кароценькім андарачку, белай кофтачцы, а ў косках сіняя стужачка, басонаж, швэндалася пакутніца, па двярэ, расьціраючы падэшвамі цьвёрды пясок.

Дзе твой заступнік, Люба? Дзе анёл твайго сэрца? Да каго ты прыхіліш апэцканую катом галованьку?

Скрамянела зямля, ня ўзораная плугам, і пячэцца дзікаю крапівою. Трэскаюцца ногі. Тарахкае фурманка па вуламцы, валачэ за сабою шэрую летнюю парахню. Крывенькая брама загарадзіла ад сьвету падвор'е.

Па шырокім, апушчаным падвор'і пахаджала Люба і плакала — з вялікае хмары малы дождж.

Пасьля гнулася, рвала лісткі трэпатніку — налажыць лекі на раны, і падвязалася анучачкай, што вісела на плоце.

Сохла, зьбедніўшыся на каменчыку, а нарэшце пашла ў камору перабіраць бэбахі: пашла, не абсохшы.

Цытадэля Паліванскай, як умелы хірург пасьля адказное опэрацыі, зашывала ўсе парэзы і прабоіны, каб ніштo, апрача ледзь прыметнага струпу, не нагадвала, што ў ліхую гадзіну быў калісьці сьмяртэльна парушаны абмен матэрыі.

Трушком пераваліўшыся цераз парог, Люба сьціпленька прысела на маркоту, ці то на ложак, даліваць астаньнія сьлёзы.

Паліванская сьледам за ёю прыстукнула сянечныя дзьверы: пляйстар на ўсе струпы і балячкі.

---

У каморы было так вузка, як у гіпсе.

Выцягнуўшы з-пад ложка куфэрак, Люба перш-на-перш палічыла грошы — адзінаццаць рублёў семдзесят капеек. Загарнула іх зноў старанна ў шаўковую хустачку і схавала пад самы ніз.

Далей выкаціла слой палатна, панюхала і падумала: сарочак са тры будзе, нават доўгіх, такіх як я хацела. Перабрала пакамечаныя спаднічкі і выняла кофту, важную кофту, з жоўтага сатыну, пышную, хоць на графіню надзень. То была вясельная Любіна кофта, у якой яна гуляла на чужых вясельлях, калі запрашалі за шаферку.

Адлажыўшы кофту, выняла турэцкі капот, цётчын падарунак, вялікі, паласаты, з буфамі. Нябожчыца цётка казала ёй, канаючы: насі здаровенька, Любачка! бачыш—палоса ў палосу пяюць, каб ты так пела, не нарадавалася ў жыцьці сваім. І, памераўшы капот, Люба зарыдала на словы цёткі, прыкленчыла пад блаславеньне і пацалавала шчодрую руку.

Падай мне грамнічную свечку, мае дзеткі,—праказала цётка.

Паслухмяна кінулася Люба к покуці, дастала абкапаную грамнічную сьвечку ў паперачцы, ды так у паперачцы і падала.

Урачысты агонь сьвечак, бясплодны плач і хаўтуры—усё гэта праміналася, праміналася.

Поўная хата гасьцей, мядовае коліва, жалобны гармідар, а яна ня стыкалася, ня брала ані лыжачкі стравы, усё не магла забыць як залялапалі гразёю труну нябожчыцы.

З апалым сэрцам успаміала яна як у халодную раніцу плінталася, абдрыпаная, сьледам за протэсамі. Званы званілі: кнам, кнам, кнам!.. Божа-ж мой, якая была гнілая восень! а як прыступілі к магіле, дык там бурая вада. І труна нябожчыцы—бурага колеру, і такая сьлізкая, калі забівалі века, а як плюхнулі ў яму, нават ніхто не самлеў, толькі плакалі нейкімі сырымі брыдкімі сьлязьмі.

Расчуленая капотам, Люба зачыніла куфэрак.

Коўдра мая няўдалая, купіла-б коўдру—чаравікі стапталіся,—засмуцілася Люба, узьдзяваючы на босу ногу чаравікі.

Хіба пагадаю!

Куцыя чатыры шыбіны, прыгожыя ад вясёлак і лою, праціўныя пагоднаму дню, не маглі налюбавацца на марнатраўную школку агродніка Штукана і зьбіралі адтуль цемень.

Хацелася запаліць лямпу, але гэта на сьмех людзям. І таму асьвятляла Люба завэдзганыя шуканьнем шчасьця карты яснымі вачамі сваімі.

Туз, дзевятка, казённы дом, клопаты. Нечаканыя клопаты. Крастовая дама з умыслам, дамяшаецца чырвенная.

Якая гадкая кабала: адна чорная масьць!

Што было? Крастовы кароль з казённага дому.

Ну але, Янкі з міліцыі жонка прыходзіла ночвы пазычаць. Дурная баба—ночваў сабе ня справіць!

Што будзе? Валет віновы, дзесятка віновая, дзевятка красьцей: дарога мабыць альбо п'янства.

Ці споўніцца жаданьне? Цьфу, ня споўніцца!

Чым сэрца супакою? Чырвенны кароль з грашыма. От, каб бог даў!

Рознастайныя вобразы чырвеннага караля выціснулі з памяці цёт-чын капот, і цяпер магнэс яе быў далёка, далёка: там, дзе пачынаецца шчасьце і канчаецца сьвет.

Люба скінула анучку і трэпатнік. Расчасаўшы бяззубым грабянём кароткія косы, прыставіла люстэрка, трывожна пасмакавала пісугі і дзіркі, а затым адшукала ў шуфлядцы пушачку з пудрай „Украінка“ і скупа пачала мазацца.

З-пад лаўкі вылезла нешта дыба-цыбатае і заенчыла: еў, еў!

— Псік, здохліца, што ты еў? Упынку на вас няма, каты халерныя!

Кацяня схавалася ў кошык.

У фіялкавым шалі з раскошным бантам Люба нагадвала трапяткую, фантастычную мімозу.

Быццам з вазону, выпяліся падвітыя буклі, прыпадобіўшы маладжавы твар да грады з макам і свойскай лебядою, перарэзаны разорамі.

Выстраіўшыся ў недачэпнае хараство, Люба замкнула камору. Нянавісьць да Паліванскай прымушала ісьці ў людзі шукаць кватэры.

---

Як толькі скрыпнула фортка, беспатольная Люба адчула лёгкасьць і таемны пах. З рову павеяла змыдлінамі, варанай цыбуляй і тым асаблівым смуродам, які ёсьць у кожнай хаце.

А ціха-ж было! А пуста-ж было! І каменны цяжар усмактала-б зямля, поўная непазбыўна-смаглай корці.

Чаравікі з гузікамі трацілі глянц па разьежджаных каляінах, бо асьцерагаліся страціць абцасы між блёкату і цындалею на кладках.

У каго мне спытацца?—разважала Люба.

У Варывенькі спытаюся? Ня пусьціць: сям'я вялікая. У Юрчыхі спытаюся? Чорт ведае якая занурыстая, ня пусьціць. От у Стася хіба? Хоць на прызьбе парасплю. Гарбачонак? Куды да яго ўсунешся ў будку, ачмурэеш каб і пусьціў, басалай гэты. Івановы ня пусьцяць. Кендзержыцкія скажуць—няма: разбыхаліся занадта. Васіліна? Кныра шукае, а не кабеціну, ня пусьціць. Ага! гэта-ж у Тэклі можна, Мар'яна з дзіцем выбралася, то мяне і пагатове прыме. Добра, рубель які дам і добра.

Люба Крупчык зусім раздабрэла.

Яна парашыла ісьці спачатку да Тэклі, каторая жыла каля Бардадынскага касьцёлу за казармамі на Сабачай вуліцы.

Тэкля, шчырая прыяцелька Любы, інача́й драгунская кабыла, бо так дражнілі часамі Тэклю непрыяцелі, была для Любы самым каштоўным радыё-прыемнікам. Навіны Барынава завулку разносіліся па Сабачай вуліцы, як ветрам па полі, а навіны Сабачай вуліцы, папаўшы ў цытадэлю Паліванскай, прыпраўленыя і стоўчаныя, як у ступе, языкамі, смакаваліся па ваколіцы ня горш, чым якія вантрабянкі.

У садку па-за вагнутым разбураным плотам стаяла хатка, ні то капліча, ні то трупярня: дужа вышкі модныя, крытая дранкамі, ды яшчэ комін вушасты. Сюды кіравала ступы свае Люба.

Тэкля была дома, сядзела на парозе і займалася цікаваю бабскаю справаю: скубла курку.

— Добры дзень, Тэкля!

— Ціндобры, Любачка! Ого, як ты выфранцілася! Ці ня замуж ідзеш?

— Ну але, Тэклечка, іду кватэры шукаць. Ці гэта твая курка, ці купіла?

— Мая. Вось, ня тут кажучы, воля не пературавіла, дык сёньня надзьмулася і ні ў рот. Я ўзяла й зарэзала. Дохнуць куры нешта. У мяне ўжо дзьве прысьмердлі на гародзе. А тут, ня ўрокам кажучы, трэцяя ходзіць, дык я ўзяла й зарэзала, думаю зварыць супчык.

— Хай гаспод крые і засьцерагае, гэта ня йначай як пошасьць.

Тэкля кінула жменю пер'я ў рэшата і раптам уталопілася ў Любу.

— Хто гэта цябе пакалупаў, мая дарагая?

— Мая дарагая, гэта-ж яна мяне катом, катом!—запыхкаўшыся залепятала Люба і разгорнілася.

— О-ёй-ёй!—спачувала Тэкля,—першы раз чую каб катом. Ня пры нас гаворачы, у Вусьцінінай пляменьніцы ад ліхое рукі ўся губа выгніла. Я табе гаварыла: ня вер Паліванскай. Я ведала, я ве-едала! Ці-ж ня спраўдзіліся мае словы, га?

— Яна фуліганка і зладзейка. Я ёй прыпомніла гусь, дык яна мяне катом за гэта, а што-ж яно віна, калі яно божае сатварэньне: гладышычак малака пакаціў, падумаеш бяда вялікая?

— Якую-ж ты ёй гусь прыпомніла?

— А, мая дарагая, а, мая залатая! Каб ты хацела ў романе, то гэтак ня выдумаеш. Па ўсім завулку трубілі. Анэкдота ды й годзі. А тут ня хлусьня, а самюсенькая праўда. Каб я так жыла, калі хлушу.

— Што ты пляцеш? Якая гусь?

— Сама на свае вочы бачыла: агроднікава гусь. Ці ты ня чула?

— Ня чула.

— Няўжо табе дагэтуль ніхто не казаў?

— Не, яшчэ ня чула. Чаму ты гэтак рэдка прыходзіш да мяне? Як прышла на Тройцу, дык і заракл́ася і адцуралася: я — ня я і хата не мая.

— Далёка, мая дарагая.

— Лётаеш, як ганчак, і не далёка, а да мяне далёка.

— Дзякуй, мая дарагая, я заходжу.

— То кажы пра гусь.

— Я-ж кажу: стаю на дварэ, бяжыць агроднік. Так і так, суседка, недзе гусь адбілася, можа ў вас часам?

А якая гусь,—пытаюся,—белая ці сівенькая?

Так і так, суседачка, сівенькая.

А даўно прапала?

Ды не. Учора з пашы абедзьве прышлі, а сёньня вышла толькі беленькая.

От яшчэ ўкралі, бронь божа,—кажу.

А ён: дык ці-ж гэта ў нас зладзеі завяліся?

Стаіць, як мыла зьеўшы.

А тут якраз Маруська Паліванскае падслухоўвае: вядома, дзіця—слухае, што старыя кажуць.

У нас у пецы гусь.

То што ты, дзеўчынка, кажаш? адкуль у вас у печы можа быць гусь?

У нас у пецы гусь. Павалка плынёс, а мамка абадлала.

А якая ў вас гусь, беленькая ці сівенькая?

Павалка плынёс сівенькую, а мамка абадлала ды пел'е ў галсцок.

А каб ты спрахла, гэтакае дзіцянё, усё і выказала.

— Разумная дзеўчынка!—згадзілася Тэкля.

— Зірнулі, мая мілая, ў печ, аж там гусь смажыцца на вялікай скаварадзе.

— А-а-а?!

— Дальбог! Ажно сок цячэ.

— А-а-а?!

— То гэта ён за чаплю, ды за тую гусь. А дзе-ж, кажа, твая мама пер'е схавала?

Пел'ецка ў запецку: будзе падусацку лабіць.

Во якое дзіцянё, так і адказвае.

— Разумная дзеўчынка!—згадзілася Тэкля.

— То выбягае тады Паліванская: чаго гэта там гамоняць у сенцах? А заірдзелася, а, сястрычка-ж мая!

Ах, ты, кажа, вылівак, чаго гэта тут брэшаш?—гэта на дачку. А Штукану: выбачайце даражэнькі, мне Павалка прынёс, кажа—на табе гаспадыня. Гусь, як гусь, я ня ведала, што гэта ваша.

— О, я ведала, што яна так скажа.

І Тэкля кінула жменю пер'я ў рэшата.

— А што крыку было, што гвалту. Прасьціце за выраз, мая дарагая, выскачыла, як у вадзе купаная.

— Аддала-ж хаця гусь?

— Ды не, дзе там аддала? Ён ня ўзяў. Кто-ж гэта возьме аблупленую? Ці-ж гэта з печы браць?

— А-а-а?! Я-б узяла. Ды хаця-б ёй морду папаквэцала, брыдзе гэтай, аж пакуль не нацешылася-б. Хай бы знала як гусей красьці.

— Вось бачыш, ты сама тое кажаш, дарагая, а яна мяне катом абняславіла, п'яўка гэтая.

— А што, бачыш? праўду я табе казала ці не? як сказала, так і выйшла. Цяпер ты, мая галубка, і знакі маеш.

— Але, Тэклечка, ня ўжывуся з ёю. Пусьці, золатца, як-небудзь памяркуемся.

— То гэта ты кватэры, а я гляджу чаго гэта ты выфранцілася гэтак.

— Ну але, кватэры.

— А-а-а?! Чаму-ж ты мне раней гэтага не сказала, мая галубка? Я-ж кватаранта ўзяла. Перабраўся пазаўчора.

— Хто?

— Антолькі Глухое сын, той, што боты правіць: шавец, майстар, мая дарагая, усё залатоўка ў хаце будзе, а ня з хаты, калі трэба там падмёткі якія падлажыць альбо латачку.

— Шкада, ах, як шкада!

— Скажы-ж ты мне, мая дарагая, дачку-ж яна біла? Няўжо-ж так такі й дарвала?

— Хто яе ведае, мо' з тыдзень на мяне ваўчком паглядала, нават і не падыходзіла.

— Хто?

— Маруська. Я-ж ня бачыла, можа й біла.

— А! ваўчком паглядала? То была біта. Кажу табе, напэўна была біта. Гэта яна ня так паглядала.

А, скажы-ж ты мне, мая дарагая, раней яна да цябе падыходзіла?

— Чаму-ж не падыходзіла!

— Вось гэта я й кажу. Тут бяз розаг не абыйшлося, я так і думала, што не абыйдзецца.

Тэкля даскубала курыцу.

— Худавата, паважыла яна курыцу на далоні. На два супчыкі ня будзе.

— Цяпер лета, куры павінны жыраваць.

— Выпшыкалася, збалеўшы.

— А ты крэйду ёй давала?

— І вугаль давала.

— Ну, а як, ела?

— Ела.

— Шкада, мая дарагая, што ты кватаранта ўзяла. Я-ж на цябе гэтак спадзявалася!

Люба сьцюпцілася, безнадзейна пазіраючы на курыцу.

— То я-ж пайду.

— Бывай, мая дарагая! Каго, каго, а цябе першую-б.

— А можа параіш куды?—спыталася Люба ў вароцечках.

— Куды табе параю, калі адных салдат панашывалася сем мільёнаў. І ўшыецца і ня выпхнеш, мая дарагая.

Любіна цела зноў зацьвіло на вуліцы фіялкавым шалем, а Тэкля стаяла з курыцаю сьпічастая, як антэнна.

Так то я цябе й пушчу, галоту,—падумала яна пра сябе.

Цілім! цілім! чам, чам, чам, чам-чам! бом!

Уга-а!—на вячэрню ўжо!—і Люба набожна наблытала два крыжы. Вярнуся да Стася!—і яшчэ раз перахрысьцілася.

Ад садоў дыхнула цёплаю ўтомаю, заварушыліся бэры і антонаўкі, пушыстым воблакам садзіўся пыл на купіны і лагі. Сонца сьвіцілася тым сьпелым бляскам, ад якога вянуць турботы, выплываюць жаданьні, заскарузлае сэрца лопаецца тупа і пакорліва. Было ня дужа позна, ня дужа рана, ні тое ні сёе: дабрачынная пара, калі для адных зьдзейсьніваюцца авансам нядзельныя сны, а другія зьбіраюцца на шпацыр, скінуўшы лёгкі багаж свайго нічога.

Была субота—дзень сёмы Пану Богу твайму.

Станіслаў Віславус, пасьля васьмігадзіннае працы, пабольшанае прапорцыянальна прыродзе, гнуўся над ражкай і паласкаў бруд.

Яго жонка, Стасёвая, крышыла бурачнік і весела адгырквалася на парасячыя піскі слаўным словам—аюц.

За прыкладам жонкі, Станіслаў выцяг з-пад бэлькі скрутак тытуну і, так, як быў, у мулярскім гарнітуры, барджджэй разлажыў сячкарню.

— Мама, што такое пранцы?—запытаў вучоны Банадысь, сын Станіслава.

— Гэта ёсьць такая верамейчаска балесь.

— Якая то балесь, мамачка?

— Хвароба така пашкудна веранічаска. Дзе ты чуў?

— Мадам Пыжова аблаяла гэтак Пыжа.

— То брыдкая лаянка, мае дзеткі. Не паўтарай хаця ў клясе!

— Не, мамачка, я не паўтараў у клясе.

Дарагая мамачка, перакажы мне як гэта лайдак жаніўся і крычаў, што печ паб'е.

— На то ён лайдак, мае дзеткі. Лайдакі заўсёды выбяруць сабе яку-небудзь камлыгу, гругана якога альбо кравацішчу мяса. Ты-ж, мае дзеткі, харошы: ты выбярэш далікатну, зграбненьку.

— Вядома зграбненьку, мамачка,—нашто мне кравацішча.

— Стась, прынясі рэзкі!—цэбар ня даваны.

— Зараз.

— Кінь сусьлю, гавару!

— Зараз.

— Ідзі, дзеткі, пабуськай тату: хай рэзкі прынясе.

— Ня буду буськаць: хай скіне перш вапну.

— Стась, пайдзі рэзкі прынясі, ды скінь вапну!—а то Банадысь ня будзе цябе буськаць.

— Зараз.

— О-о, нечага маравіца да нас паўзе?!

Гаў, гаў, гаў, гаў!..

— Ш-ш! маўчы Тэсік,—гэта Любка.

— Добры вечар вам!

— Добрага здаровечка!—прывіталася Стасёвая, разгарнуўшы паясьніцу з пытальніка ў клічнік.

— Але-ж у цябе і твар падрапаны, Любка?!

— Каты, Дамяніся Францаўна.

Люба расказала сваю крыўду стрымана і, як здалося Стасёвай, крыху паважна.

— Стась, хадзі сюды! Любку каты падрапалі—на кватэру просіцца.

— Што, такі цюкнула Паліванская?—запытаўся Стась, не кранаючыся з месца. Густы дым, як заслона, падымаўся ўгару па яго пакручастых вусох.

— Мае дарагія, як сабе хочаце, а гэта не палюдзку так рабіць. Твар—не бярэзіна!

— Усякі твар бывае, ёсьць і горшы за бярэзіну,—сказаў Стась.

Вучоны Банадысь падышоў бліжэй да Любы, каб агледзець твар і праканацца:

— Каты паходзяць з драпежнае пароды тыгрысаў і дужа ладна драпаюць.

— А, скажы-ж ты нам, ад каго паходзяць людзі, мае дзеткі?

— Ад малпы, мамачка.

— Ты сам, Банадыська, добрая малпа,—засмучона прамовіла Люба. Дык ці прымеце, гаспадынька? Мне хоць бы вуглік. Два рублі дам.

— Чатыры дай і то няма дзе.

— Ох, ліханька!—квола ўздыхнула Люба.—Яму ад бога, а ён ад малпы...

— Стась, калі ты мне рэзкі прынясеш?—годзі цацкацца!

— Пасьля сваркі—смачней скваркі,—сказаў Стась і згроб з жарон павасьмінку.

— Ты ня журыся, Любка: сапраўды няма дзе. Што табе значыць памірыцца з Паліванскаю.

— Ой, дзе вы дасталі такую рысачку?—зазьзяла Люба, угледзеўшы тлустую гаспадыніну кошку.—Якая мілая рысачка?

— Яна ў нас даўно.

— А я й ня бачыла вашай рысачкі.

Ні то суцешная, ні то задуманая, Люба пашла да хаты.

— Я сам—малпа, і ты—малпа!—крыкнуў усьлед вучоны Банадысь.

Гаў, гаў, гаў!.. водгульлем адазваўся Тэсік.

---

Праз мутнае вакно ледзь адсьвечваўся пунсовы захад.

І калі, затаміўшыся, Люба Крупчык нарэшце лягла на сваю маркоту, рабы кот ткнуў яе мысаю ў заплюшчаныя вочы і падлез пад коўдру, ласьліва фуркаючы.

Яны зьвіліся цесным клубочкам.

Сьпявалі салдаты вячэрнюю зару і краталі жабы.



Прыбыткоўскі, Ўл.

* * *

Часамі поўніцца
            істота музыкай,
а часам жыламі
            праьлецца рызыка.
      Ï ход сусьветных завірух
      прывёў-бы у шыбчэйшы рух.
Часамі шукаеш
            дзявочае ласкі,
жальбуеш, што маці
            ня ведаў з калыскі.
      А што мне маці, альбо дзяўчына?
      сонцавай ласкі, а ня лучыннай!
Часамі бурнаю
            іскрышся вераю,
часамі золкасьцю —
            дажынкі выраю.
      А ўбачыць-бы інакшы сьвет
      скрозь барыкадны сьвіст завей.
Гора, а часам
            і радасьць праз зурны
авечкам і небу
            пастух выльле горны.
      Часамі задумны, суровы, бы камень —
      я рызыкую буйна часамі.
Ï ведай, моладасьць,
            разумнай рызыкай
аздобіш дзіўнаю
            сьвет яснай музыкай.

1926 г.

Прыбыткоўскі, Ўл.

* * *

...не разумею вясёласьці хмельнай,
не разумею.
Жудасьць завісла над людам.
Крышыць стыхія стыхію...
і ў зьменах
жудасьць.
Вырваны з пеннага гвалту марскога
зьведае дзікасьці сьвятасьць!
...стыне у жылах...
донны,
каменны,
жудасны
скрогат...
і радасьць.
...і дарога ня ў ліле́ях у новае,
а праз шэрую кроў.
І шэрасьць
не скаланула-б
суровую
скронь.

Ды і ў сьветлым
ад хмельнасьці бурнай
чыста:
нават рух шасьцярні
па загаду сусьветнае рады!
І запануе скрозь урачыста
суровая радасьць.

1927 г.

Прыбыткоўскі, Ўл.

## Драма мамы

„Ну, сыночак,
спаць пара“.
Дровы ў грубцы гараць.
У коміне завеі...
плюшчацца векі.
„а-а-а... а-а-а... лю-лі...
ўсе ка-ты па-сну-лі—“
а з-за вуліц цесных
рабочыя песьні:
„рраз-два...
друж-
на...
рраз-два..
ра-
зам...
ма-
лой-
чы-
кі—рраз...
кра-
саў-
чы-
кі—два...
рраз-два..
друж-
на...
рраз-два..
сіль-
на...“
„Ну, сыночак, спаць!
пайду грубку даглядаць.“

Ма-
мач-
ка
ці-
хань-
ка
хустку на плечы.
Бацькаў гадзіньнік
згрэбла ў кулак.
Дзе-ж яна
гора
залечыць?! —
Спрытнай рукой
знаёмыя дзьверы
і ў шэры
кабак!

У коміне завеі . . .
сплю-
шчы-
лі-
ся векі.
Сон...
зара...
дзень—
бон-
дар і-
дзе.
„Бон-
дар,
бон-
дар
я!..“
...сонца!
Іскры
на вокан лёдзе,
сястра іграе
пальчыкам на шыбах.
Я ня жыў з сястрой у лагодзе,
але да сонца
імкнуўся
шыбка.

„Дзе мама і папа“—
пытаюся,
калупаючы ў носе,
а пад носам
чорненькі грыб.
„Мама ў кабаке,
а папа ў паравосе“.
і пальчык на шыбе:
скрып...
А з-за вуліц цесных
рабочыя песьні:
„ма-
лой-
чы-
кі—рраз....
кра-
саў-
чы-
кі—два...“
А на вуліцы сьнег,
чужыя дзеці
ў башмаках,
дзьверы сумнеюць
супроць замка.
...холадна... сумна...
мамачка!
я цяпер ня плачу,
я твой сын
цьвярозы
разумны
запрагаю ў плуг
стальную клячу.
Я ня плачу...
Ты мяне
гадавала
ў нядолі ды горы.
Гэты скарб дарагі
ніколі ня страчу:
ні на сьцежцы бяз сьледу,
ні на дарозе прасторнай.

1928 г.

М. Г.

# Хоцімка

Шкадую, чаму я ня скульптар, каб зьляпіць яе вобраз ці выразаць яго — так, як некалі, быўшы малым, ляпіў з гліны ці выразаў з дрэва розныя прыемныя фігуркі.

Толькі цяпер зьляпіў-бы ці выразаў-бы не маленькую фігурку, а вялікую і гордую постаць тэй жанчыны-барацьбіткі, што ня схіляючы галавы ідзе сваім шляхам жыцьця.

Ї яшчэ думаецца мне: якія вы няпэўныя, шляхі нашага жыцьця! Пакуль няма такой машынкі, што змалку прызначала-бы мяне ісьці ў скульптары, я блукаюся па дарогах, па якіх, можа, зусім ня варта было-бы мне ісьці.

А нарэшце, і галоўнае: пакуль няма магчымасьці ісьці шляхамі без каменьня і калючак, ідзём як трапіцца... Ї слава хай будзе таму, хто і на гэтых цярнёвых сьцежках мае твар і вочы, як у бачанае мною хоцімкі.

* * *

Я бачыў яе ў летні дзень, перад самым вечаровым змрокам, у 1926 годзе, на станцыі Талбага́, за Пятроўскім заводам, у дзікім і яшчэ шмат каму страшным Забайкальлі.

Пачаўся гэты мой дзень хмарна ў паветры і хмарна ў маім сэрцы, быўшы мне ў пляцкартным вагоне трэцяе клясы, з рознымі інтэлігентамі і гандлярамі, пасьля начавое вакзальнае куламесы на станцыі ў Іркуцку і колькіх гадзін язды ў сьцюдзёным, але не праветраным купэ.

Спаць было мулка, я варочаўся, нарэшце пачаў глядзець у вакно і залюбаваўся на панурую вадзяную веліч Байкала. З другога боку—горы, і некаторыя высачэзныя верхавіны іх у хмарах-тумане́. Па гарах лес. Пры дарозе часам голыя скалы. Прыгожа.

Ї так праз увесь дзень у вагоне было нудна і няцікава, і я жыў з прыродаю. Тут усюдых прыгожая, хоць і пустынная мясцовасьць Даліна ракі Селянгі, а вакол горы і горы. Вось пераезд па масту, і на беразе акопы—тут была дзяржаўная мяжа Далёка-Ўсходняе рэспублікі. Драцяных загародак трошку. Кусты. Тут водзіцца омуль і дарагая рыба сьцерлядзь.

Потым—хвайнячок на пяску, як у Віленшчыне. А перад Верхняудзінскам—казармы, вёрст за 7—10. Якая казёншчына і нуда! Верхняудзінск—зараз сталіца Бурацкае рэспублікі, але бурацкага там, на станцыі, я нічога ня ўбачыў, апрача некалькіх, страшэнна ўбогіх, спрацаваных, спаленых сонцам і абшарпаных, буратаў-работнікаў. З Верхняудзінску, як вядома, ідзе дарога на Кяхту і Ургу, у сэрца Манголіі, але ўсё яшчэ грунтавая, а не зялезная. Там-жа на вакзале я зьеў абед за 60 к. і не наеўся смашна, толькі смагла напіўся, бо пагода, нарэшце, разгулялася: каб ціха, дык на сонцы, пэўна, градусаў 25-30. Але вецер даволі буйны. А у нас на Беларусі, калі і павее гэткаю парою, дык ціханькі ветрык, і вось на такой гарачыні, за гэтыя 60 к., трэба было, да рэвалюцыі, два дні жаць, не разгінаючы сярэдзіны, ад рана да познага вечара...

І ўзноў горы, толькі ўжо воддаль, у сінім тумане. І аблокі плывуць у іхных верхавінах, толькі рэдка. Нарэшце, вось яны—сьнегавыя горы... На станцыі Гархон прычапілі паравоз яшчэ адзаду, „таўкач",—на гару паедзем. На гэтай станцыі бачыў я буратку—старую, зморшчаную, з прыплюшчаным тварам і з касіцаю, у нейкай спадніцы і кохце бруднага колеру, у мягкіх боціках, з пугаю, бедную і добрую. А з боку ад дарогі, далёка на аблоньні, убогія бурацкія улусы-зімоўнікі. І бедныя дзяўчаткі, ці-то дзеці перасяленцаў, ці-то работнікаў на чыгунцы, прадаюць ягады, суніцы, зусім яшчэ белабокія і дробныя-дробныя.

Так ехаў я гэты дзень.

* * *

Станцыя Талбагá. Ад вечара. Сьцюдзенавата. Пуста на станцыі. Толькі адна баба, на бедным століку, з убітымі ў зямлю ножкамі, нешта прадае.

Усе туды бягуць і бачаць, што прадае нейкіх смажаных ліньκоў ці што, і дзьве ці тры бедныя ляпёшкі.

І паглядзелі, і адходзяцца...

Яна высокая, і на першы погляд—з мужчынскім, загрубелым і чырванаватым, тварам. А на гэтым твары... на гэтым твары—такая жыцьцёвая горкасьць, толькі-ж незлавімая і пад такою-ж моцнаю пячаткаю цьвёрдасьці і быццам пагарды... Галава ўзьнятая высока, і невялікія, але глыбокія і жудасна-разумныя вочы пазіраюць не на блізкіх, а на далёкіх.

А ля спадніцы два дробныя хлопчыкі, як зьвераняткі каля маці. Худыя дзеткі, і вочы ў іх не па ўзросту: шмат ужо бачылі.

Ніхто ў яе ня купіў ні ліньκоў ні ляпёшак. Дый просіць яна за такога невялічкага і несамавітага ліньκа 20 к. Тут усё дорага, і кожны гэта ведае, толькі як купляць, дык ня хочацца плаціць. А яна яшчэ і ня дужа набіваецца сваімі ліньκамі.

Цягнік зараз пойдзе, ля століку застаўся адзін я, ліньκоў я, з сваёю нерашучасьцю, напэўна ўжо ня куплю, калі дагэтуль ня купіў, але мне хочацца сказаць ёй што-небудзь ласкавае.

Я чую ў яе акцэнце нешта роднае, хоць гаворыць яна даволі добра парасійску, і я пытаюся:

— А вы не з Магілеўшчыны перасяленка?

— З Хоцімску я... калі можа ведаеце,—адказала пабеларуску.

— Ведаю. Летась сам быў у Хоцімску.

— Ну як там цяпер жывуць людзі?

— А нічога... Лепей, як даўней... Папраўляюцца.

— Добра, хоць папраўляюцца. Зьбіраюся і я паехаць назад... Можа, як-небудзь...—і пагладзіла мужчынскаю, загрубелаю рукою, але далікатна, як жанчына і маці, пагладзіла мімаволі, ня бачачы, меншага хлопчыка па галоўцы.

І хлопчык яшчэ больш укруціўся ў спадніцу.

Цягнік крыкнуў, і я пабег, шкадуючы, чаму ня купіў хоць аднаго лінька ў зямлячкі.

* * *

Мой другі дзень пачаўся ў тым самым вагоне, у тым самым купэ і на тэй самай вышняй задняй паліцы, так сама даволі рана, але ўжо далёка на ўсход, каля станцыі з такою любаю назваю: Яблыня.

Я адчыніў вакно і пазіраў праз яго на сьвежую раніцу. Прыслухаўся: зязюлька гдзесьці кукуе: ку-ку! ку-ку! ку-ку! Але шум цягніка заглушае зязюльцы голас.

Перавал цераз Яблыневы горны хрыбет, а бачу—пасеяна бульба. Ну ці так уяўляў я сабе некалі гэтую веліч прыроды!

Не, кажуць, перавал мы праехалі начою, гэта было кілямэтраў 15 на ўсход ад станцыі Сахонда, а цяпер мы зьяжджаем.

Сонейка, цёпла і ціха, кукуе зязюлька, а суровы вобраз хоцімкі стаіць мне ўваччу.

І сум і радасьць змагаюцца ў маім падарожным сэрцы.

Хай будзе так.



А. Вечар

# З кнігі „Мінулае“

* * *

Ня хілі пад ветрам галаву
Залатою кветкаю, дзяўчына!
Бо і я па белых паплавох
Паплыву, сумуючы, вачыма.

Нарасталі: і журба і торф
Над балотам сівымі вякамі.
Я расстаўлю дум маіх прастор
Ці рассыплю з галавой на камень.

Пад пяяньне сьнегавых завей
Я паеду ў горад срэбных даляй.
Нехта незнаёмы там заве
Самых моцных і за ўсіх удалей.

Дык паслухай! Ну навошта боль
І смуга над хмурымі палямі.
Шчэ ня раз спаткаюся з табой
Пад бярозамі і тапалямі.

Я вярнуся зноў, мая краса!
Я прыеду.. Дык чакай і помні.
У цяні бярозавых прысад
Спыняцца пародзістыя коні.

Пастаяць хвіліну і... няма!
Толькі вецер, як сабака, ззаду.
Будзе можа і тады зіма,—
Няжывы, няпахкі росквіт саду.

На сяле, пры хаце, ля варот
Я спытаюся: „Алеся дома?“
Твой маленькі брацік пальцы ў рот
І вачэй ня зводзіць з агранома.

Ну бывай! Апошні зрок лаўлю...
І хачу парадаваць, а .. нечым!
Ня хілі, дзяўчына, галаву
Як нажом паранены сланечнік!

* * *

Усё мяняецца.. праз год ці два
І я ня той і ты зусім ня тая.
Ці не затым я сэрца раздаваў,
Каб заквітнела радасьць залатая?

Табе я лепшае сваё аддам:
Душы поэты кветавую нежань.
Каханая! Ты прада мной, як здань,
У май пахучы, і ў пуховы сьнежань.

Усё мяняецца... і я і ты.
Затым любоў быць можа вечна новай,
Бо ў садзе душ прыгожыя кветы
Растуць заўсёды на старой аснове.

* * *

Ах восень-румза! пасярод алей
Навошта блытаеш аголенае вецьце?
Апалае лісьцё ўжо не падыме вецер
І не пагоніць, не памчыць далей.

Апошнім пацалункам брудны глей
Пасадзіць пляму на прыгожым квеце,
І ўсё, што голае было на сьвеце,
Здаецца восеньню яшчэ галей.

Мінулае! васеньняю сьлязою
Цябе аплакаў адзінокі птах
Над рэчкаю пад рэдкаю лазою.

Імчацца дні на звонкіх капытах...
Я не магу адным і тым застацца.
Краса! Даруй... я зьменны як.. мастацтва.

Васіль Каваль

# У супрадках

Выпаліўшы ў печы ды напаіўшы пойлам карову, Усьціньня ўзяла грэбень пад паху з дзесяцю мычкамі, сказала нявестцы, каб тая нанасіла вады, а сама пашла ў супрадкі к суседцы сваёй Тацяне.

Аджа-ж на вуліцы чуўся гоман і сонейка такое ветлае і ласкавае было, як і перад вясною, што ажно са стрэх капала ды лужыны стаялі пасоленыя сьнегам. Двое коняй, выпушчаныя з пуні, грэліся; адзін—худы, з узлахмачанай грываю, паклаў жылістую шыю сытаму каню на храсткі; абодвы яны нешта жавалі, а худы каняга ўсё махаў кароткім і вышчыпаным хвастом. Качаўся на сьнягу сабака, пеўні засьпявалі з аднаго канца вёскі. Усьціньня падумала, што ўсё гэта знача к перамене пагоды (скора будзе вясна)— і зусім усьцешылася...

У хаце ў Тацяны адно вакно заткана жупаном, дошка вывалілася з варот, страха чуць не на зямлю апусьцілася, карова высунула галаву, мычыць з саломінаю ў зубах.

— Няма парадку,—падумала Усьціньня ды пашкадавала Тацяну.

А ўвайшоўшы ў цёмную хату без падлогі, сказала ветла:

— Дабрыдзень!

— Дабрыдзень, цётка Усьціньня!

— Захацелася мне, Тацянка, даведацца цябе. Управілася гэта я ў хаце ды й думаю: зайду-тка во' пагляджу, як жыве Тацяна, а то ня ты к нам, ні мы к табе...

— Якое ўжо тут жыцьцё,—адказала Тацяна,—ня жыву я, а марнею. Адна-адзінёханька...

Усьціньня прымасьцілася з грэбенем ля вакна, распастрыла мычку ды пасьлюняўшы пальцы правае рукі, каб лягчэй выскубаць лён, вывела доўгую нітку; потым далонямі пакруціла, нітка стала крутою і, не адрываючыся ад пражы, прамовіла:

— Горш ды няма, калі гэтае бязладзьдзе ў нашым быту завядзецца. Ой, як страшна...

Тацяна, гушкаючы калыску, прывешаную за бальку альняною вяроўкаю, нахілілася тонкім станам над дзіцём і сумна адказала:

— Страшна, цётачка, нават жыць ня хочацца тады...

Усьцiньня пакiнула верацяно, паклала рукi—чорныя на далонях ад сажы i зморшчаныя—к сабе на каленi. Перабiраючы ў пальцах канцы хусткi, супакойна i разважна пачала:

— Жывым-то яно ў труну нiхто не палезе. Жыць будзе, сястрыца мая, як жывецца... Толькi дужа цяжка... Б'ецца во' так чалавек, б'ецца— ня дасьць бог шчасьця-долi, дык ён змарнуецца ды вухам аб зямлю— i ўсё тут.

Тармошачы на руках дзiцёнка, нiзкiм i сiпаватым, трошкi сумным i прызвычаеным да гэтае гаворкi голасам гаварыла Тацяна.

— Толькi вось, цётачка—я-ж маладая.. Столькi я пражыла—гора адно бачыла. А жыць мне дужа-дужа хочацца. Ды каб гэта ўсё сваё было—i двор, i гаспадарка—якая йна ня ёсьць...

— Раз маладая,—перабiла Усьцiньня—дык i сiла ў цябе ёсьць, а ёсьць сiла ды здароўе—усё ты перанясеш, мая рыбухна... Вернецца Саўка—i ўсё пойдзе па другому... Жыць будзеш...

Усьцiньня гаварыла бойкiм голасам, бодрачым, упэўнiвала, што ўсё спраўдзiцца i гэта весялiла змучаную Тацяну. Пялёнкi пахлi кiсла. Завярнуўшы ў iх дзiцё, беражлiва паклала ў калыску i, нахiлiўшыся над ёю, стала даваць дзiцёнку цыцкi. Як перабiрала пальцамi альняныя валосiкi на галоўцы сына, на сэрца хлынула тады супакойная i лёгкая хваля радасьцi ў маладое жанчыны, а з гэтым снаваўся ўспамiн, як нiткi ў спрытных руках Усьцiньнi.

— Расьце сынок... Адзiн гадочак толькi яму споўнiўся...
Чаму ён такi дробненькi? Мусiць, ня так гадуецца. Узрашчу-ж яго! От раскажу яму, як вырасьце:
— Рос ты i радзiўся бяз бацькi, у горы гадавала цябе.
Распусны бацька твой—пакiнуў нас, можа й ня вернецца назад...
Сыночак ты мой любы!

I голасна прамовiла Тацяна:

— Цi-то доля мая такая...

— Доля, мусiць.

— Ото-ж i я... Цi-ж я горшай дзеўкаю за ўсiх была—цi зломак якi, цi калека? Не хварэла нi разу. I ўсё, цётачка мая, працавала... дзень... ноч... Усё думала: от буду я хораша жыць, шчасьце мне будзе вялi-iкае...

Устала, выпрамiлася, узяўшыся за пачопкi калыскi, стала гушкаць:

— А-а-а... Сьпi мой дзетка, сьпi мой малы,--а-а-а!

Хустка ў яе з галавы зьбiлася на патылiцу, косма русых валос закрыла бледную шчаку; з-пад потнай грубай сарочкi вiдаць белыя з жоўтымi плямамi грудзi.

I зашпiльваючы сарочку ды папраўляючы хустку, казала Тацяна неяк нараспеў, па песеннаму:

...А няма гэтага шчасьця. Дзе яно? Ліха яго ведае.

Ці краскамі зацьвіло маё шчасьцейка, ці быльлём парасло на мяжы?

Усьцінья дадала, сучачы нітку на верацяно:

— Як у песьні тэй—шчасьце за сінім морам. А дзе тое сіняе мора?— Краскамі зацьвіло. А дзе тыя краскі?—Дзеўкі парвалі... Эха-ха!—вось яна доля наша—бабская!

А Таццяна, прыняўшыся за пражу, сьпяшаючыся, пачала расказваць— бяз журбы, з жаданьнем расчыніць тое, што дзеецца ў душы.

— Яшчэ бацька-нябожчык, як дзеўкаю была, казаў: ня йдзі ты, дачушка, ні за багатага, ні за прыгожага. Шукай ты чалавека па сабе,— каб ён быў добрым і спрытным да работы. Моцны чалавек нічога, кажа, не баіцца, спрытнасьцю ў працы ўсё здабудзе, а пры добрым ды ласкавым жыцьцё будзе мілым...

— Праўда, любая мая. Добры чалавек заўсёды пашкадуе і не пакіне пры бядзе, а злы чалавек, як зьвер зарычыць...

— Не паслухала я бацькі. Нашла і багатага і прыгожага... Не скажу, каб дужа любіла, ды што ты зробіш. Толькі вось характарам ня ўдаўся ён...

— Уся іх парода такая,—заўважыла Усьцінья,—калі непарадак які, дык ён, як зьвер, накінецца вэпсам—гу-у!

— З месяц пажылі хораша. А тады беспарадкі ў сям'і сталі. Падзяліўся бацька. А яно-ж во' так, калі разам ды ў лад, дык усяго й многа, здаецца, а падзяліліся—хатка старэнькая, няма каня, кароўка адна. А Саўка прывык гуляць, піць стаў, перастаў работаць. Адна я за ўсім цягайся ды цягайся. І так мне апрыкрыла ўсё—і любоў тая загінула. А ён: „паеду, кажа, на заработкі—зароблю грошы"...

Толькі гляджу я, дык, мусіць, зусім не таго ён хацеў. Прадаў, што можна было, а ці вернецца?—сама ня ведаю.

Хоць і вернецца—усёроўна жыцьця ня будзе...

— Вернецца—ня йдзе ён дзенецца; ад свайго не ўцячэ...

І трохі супакоеная, Таццяна рукавом сарочкі выцерла вочы. Пад вачмі ў яе цені заклапочанасьці, на пераносіцы тонкая складка маршчынкі і завостраны тонкі нос.

Закрычала надрывіста дзіцё...

— Чаму яно крычыць так?

— А хто-ж яго ведае...

— Ці ня крыксы? Дай-тка я, Таццянка, пакалышу, а табе мо' зрабіць што трэба, дык ты не зважай на мяне...

Таццяна стала падмятаць земляную падлогу, а Усьцінья, ласкава гледзячы ў зморшчаны тварык дзіцяці, гойдала калыску і пявуча-грубаватым голасам гаварыла:

— А ў мяне якраз было гэтае, што і ў цябе. Пажаніліся мы з сваім. І веры можа не дасі—ні кала, ні двара ў нас. І дужа мы прыялі адзін

другому—усюдых разам. Доўга так жылі, пакуль ня ўзьбіліся на сваё. А цяпер вось, дзякаваць богу, і сына жаніла. І радасна мне, галубачка мая, што як пагляджу, дык парадачак у нас...

Усьціньня—баба круглая, і нейкая прыткасьць адчуваецца ў яе рухах і голасе; і вось тая самая ўцеха, пра якую яна гаворыць, ляжыць у складках шырокага роту, блішчыць з маленькіх вачэй. І постаць яе ў новай спадніцы ў тры ніты—белая краска з жоўтаю—туга перацягнутая ў поясе і голас пявучы,—зьліваюцца ў адно, быццам яна апавядае прыгожую песьню, дзе над жыцьцём зацьвілі краскі.

Чорныя вуглы ў хаце, чорная столь, трошкі холадна...

Тацяна—як-бы ў зайздрасьці да Усьціньні—сказала:

— Так і жыву. Усё ён пакінуў на мяне, аб усім галава баліць. Прыгажосьць мая зьнікае... Першаю-ж дзеўкаю на сяле была. А песеньніца-ж была. Да чаго любіла іх?

— Мінецца яно ўсё. Усё дымам будзе... Я й сама ахвотніца да песень. Чым так сядзець ды сумаваць—давай засьпяваем. Я воʻпачану, а ты памажы мне.

Усьціньня пакінула верацяно, прыхілілася галавою к сьцяне.

— Вось песьня гэтая. Зусім, здаецца, пустое дзела. А жыць нам без яе няможна—у жніво, у каляды, у супрадках—дык усюдых з песьняю гэта-ж цяпер мала сьпяваюць. Тут табе пра ўсё сказана—і пра гора тваё, і пра радасьць тваю. Сьпяеш—і лягчэй стане! Забудзешся.

І дзьве жанчыны згадзіліся засьпяваць песьню, каб „лягчэй стала."

Зачала Усьціньня ціха і пявуча:

— Піця-а, людзі, гарэлачку, а я буду во-оду.
Не кажыце майму ро-о-оду.

Тацяна, пасьлюняўшы пальцы, прыгнуўшы галаву к грэбеню, падхапіла мэлёдыю жаласна і тонка:

— Што-я я ту-ута-а гару-у-ю...

І тады ўжо спляліся галасы ў адзін пяшчотны і сумны да сьлёз.

А скажыце майму ро-оду,
Што я ту-у-та па-ануючы.

Усьціньня паклала правую руку на грудзі, ды павольна ківаючы галавою, стала гаварыць песенна-грубаватым голасам і высокім:

— Па-айду ў са-адок, сарву цьвят-ок,
Са-аўю-ж я вя-ано-о-ок.

Тады Тацяна кінула верацяно, сашчапіла на грудзёх рукі ды, ківаючыся ў рытм песьні, звонка ўторыла Усьціньні:

— Прынясу-ж я тэй вя-ано-чы-ык
Ды на ціхі Ду-унаёчы-ык...

Захапіўшыся песьняй, Усьціньня ўстала з лаўкі на падлогу, закінула кверху галаву, быццам у полі п'е яна ваду са збана.

А ў тым-жа вяночку тры красочкі зьвялі.

Пяшчотна і ласкава, словамі маці, Усьціньня спытала:

— Знаць ты, мае ча-адулінька,
тры нядзелькі ляжала?

Тацяна сумна адказала тонам пакрыўджанае ў песьні жанчыны:

— Не ляжала, матуленька,
я ні дзень, ні нядзельку.
Я на-а мо-оры ку-упалася-а—
Там мая до-оля заста-алася-а...

Народжаная недзе ў вялікіх пакутах і смутку, з сэнсам набалелае душы і цажкае долі, гучэла песьня ў старэнькай хатцы, вырывалася на вуліцу, прыхіліўшыся моцна да зямлі, разьбягалася засмучонымі песеннымі зыкамі...

...Дзяўчына сушылася на беразе. Падсьцерагло яе няшчасьце. На купіне заснула, а доля ўзяла ды й патанула.
А поле шырокае засталося не аратым, лугі зялёныя някошанымі, жыта ядранае—нежатым.
Ї вось ідзе яна--маладзёшанька--к свайму татухну на нараду:
— Парадзь, парадзь, татулечка, як мне гора гараваці?
А татухна родны кажа так:
— Гаруй, гаруй, чадулюхна, калі гора ўнялося. Гэта твае замужжайка неўдалося.
— Неўдалося, татулечка, што няверна дружына.
Знаць, мне век гараваці—
дробны сьлёзухны раняці...

Сьціхла песьня. Прымаючыся за верацяно, Усьціньня сказала, глыбока ўздыхнуўшы:

— Вось і сьпелі песьню. Усё неяк лепей, чым так сядзець. То-то яно бабскае жыцьцё!

А Тацяна, выціраючы непакорную сьлязу, прагаварыла:

— Устрывожыла мяне песьня... Многа мне чаго ўспомнілася. Дай хоць ты мне, цётачка, нараду якую. Ня ўцямлю, як і жыць далей буду.

— Скажу табе адно: толькі не гаруй. Молада ты 'шчэ. Ня прыедзе Саўка, не падабаецца табе—ну, і ліха на яго! Знойдзеш другога. Многа такога дабра ёсьць. Ды табе-ж толькі што за дваццаць...

Ужо весялей прагаварыла Тацяна:

— Напішу яму ліст.—Ці прыедзеш ты Саўка? Ня прыедзе—і чакаць ня буду...

Перабіваючы Тацяну, загаварыла Усьцінья:

— А яшчэ такое чула: ёсьць у горадзе, кажуць, нейкі жанаддзел па нашых, знацца, жаночых справах, быццам (як пашло роўнапраўе), дык нашы інтарэсы забараняе. Гэта-ж мне Цімошыха расказвала. Мужык яе чуць у труну не ўвагнаў, як толькі што, дык і пачынае лупцаваць яе. Дык схадзіла яна, родная мая, расказала ўсё па парадку. Не прасьцілі яму. Адседзеў у турме месяцы са тры, а пасьля—малінавым стаў.

— Дык ці не схадзіць-бы й мне?—папытала Тацяна.

— Схадзі, галубачка, схадзі. Што там ня будзе, але схадзі. Можа дапамогу якую дадуць. Шкода во' што нічога ня ведаем мы з табою. Парадзься з людзьмі, напішы ліст да Саўкі, ды й схадзі—тут-жа недалёка..

— Я й сама ня ведаю, што яму напісаць?

— А што пісаць? Садзіся во' ды й пішы,—ты-ж троху, здаецца, умееш сама.

— Напішу, дык троху прачытае. Вучылася-ж я ды й забыла ўсё, думаць няма калі, а яно-б часам і прыгадзілася.

Тацяна з-за божніцы дастала нядаўна куплены ліст паперы і маленькі аловак, адкінула абрус са стала. Селі за сталом побач.

— Ты пішы, а я падказваць буду,—гаварыла заботліва Усьцінья.

Тацяна ўзяла ў рукі аловак, нізка нахілілася над папераю, прытрымліваючы левай рукою, а Усьцінья паклала рукі на стол, дыхала ў твар Тацяне і гаварыла:

— Пачынай так... Дарагі ты мой муж Саўка Хвёдаравіч! Кланяюся я табе ад сырой зямлі да белага твайго ліца. І жадаю я, твая верная жана Тацяна, усяго слаўнага і добрага здароўя... Напісала? ..

Літары выходзілі буйнымі, няроўнымі, пісаць не спраўлялася...

— Чаму ты, дарагі муж, не даеш аб сабе весткі. Дзе ты цяпер? У якой зямлі? Ці ўцёк ты сумысла ад мяне за акіян-сіняе мора? Ці ты забыў мяне ды нашоў другую? Прыяжджай цераз тыдзень, бо жыць мне адной няможна. Ня прыедзеш—бог з табою. Ссушыў ты ды зиудзіў мяне. Буду адна шукаць свайго шчасьця-долі...

Усьцінья ўздыхнула.

— Ну, досыць з яго. Калі хоча жыць—дык прыедзе, а не—знойдзеш сваё. Тваё ад цябе ніколі не ўцячэ...

Ліст быў запячатаны. Тацяна рашуча папраўіла хустку на галаве і сказала:

— Сколькі гэта я карылася яму?

І ня было на твары ценяў заклапочанасьці, зьніклі яны, як ад сьвету зьнікаюць, ад новае сьветлае думкі, якая прышла ня скора, але поўнасьцю ахапіла.

І старая ўсьцешаная цётка Усьціньня вясёла прамовіла:

— Так-то яно лепш будзе. Цяпер-жа людзі, кажуць, пачынаюць неяк жыць па новаму, па другому.

І спрытна і вясёла зазьвінелі верацёны.

* * *

Так у сонечна-зімовы дзень, перад вечарам, у старэнькай хатцы пад грабянямі, расказалі дзьве жанчыны аб сваім жыцьці ды шчасьці-долі.

---

## Зьмітрок Астапенка

* * *

Усё, што ў душы, як іскра, захавана,
Выбухне часам і кветкай блісьне—
І загалосіць струнай злататканай
Аб жыцьці і вясьне.

Думкі глыбокія ў сэрцы так доўга хавалі!
Сьпейце, гадуйцеся! Прыдзе вясна—
Усё расквітнее ў сусьвеце у Маі.
Прыдзе вясна!

Вы, мае думкі, таксама гадуйцеся, сьпейце!—
Усё, што ў сэрцы юнацкім таю...
Выльлю вясной на расквечанай флейце
Думку сваю.

23/II - 28 г.
Амсьціслаў

---

Сяргей Калугін

# Помню вечар

Помню—шумелі асіны,
Марылі, мабыць, аб нечым...
Помню—бліскучым па сінім
Зоры запаліваў вечар.

Помню я вечар той сіні
Ў белым асьнежаным полі—
Золатам сыпаўся іней,
Лапы разьвесілі хвоі.

Там у гаі за палянкай
Сьнегам халодным, сыпучым
Мчаліся гонкія санкі
Птушкай з высокае кручы.

Ветрыка ціхаю хваляй
Чуць калыхаліся бярозы.
Сонныя сьнежныя далі
Срэбрам застылі ў марозы.

Хочацца крыкнуць „сьпяшайся!“
Час скарыстайце зімовы.
Хочацца мне усьміхацца,
Ціш рассупоніць размовай.

Помню я вечар той сіні
Ў белым асьнежаным полі—
Золатам сыпаўся іней,
Лапы разьвесілі хвоі.

Ларывон Максімаў

# Ноччу

Ноч... цішынь... і
водбліск месяца па стрэхах,
бліскае ад зорак высь...
І па срэбнай плыні
пракацілась рэха,
гулы праняcьлісь.

Штось таеміць
бор у задуменьні...
Енчыць кпініста сава.
Ціш і цемень...
Між сівых праменьняў
ледзь шуршыць трава.

Вочы рэжа,
песьціць вочы месяц
мітульгой—агнём...
Эх, бязьмежжа!..
Ноччу ціхі песьні—
галасісты днём.

І паволі
ноч панікла долу,
захаваўся месяц у бары...
Эх, раздольле!..
Песьняю вясёлай
прывітаю сонца на зары.

Юлі Таўбін

* * *

Агаркі зары дагарэлі,
А песьні ў душы не згарэць.
Т. Кляшторны

*С. Фаміну*

Ня звонам,
Ня песьняй іскрыстай,
Што стогны раджае ў грудзёх,
Трывожу забытую пристань
Даўно пазакрэсьленых дзён.

Калісьці ў далёкія годы
Мы сьнілі цудоўныя сны—
І многа прыгожых мэлёдый
Ўлівалася ў сьпевы вясны.

Цяпер тыя сны пазбыліся,
І зьдзейсьнена палкая яў,
І новыя песьні у высі
Віхор навакольны памчаў.

Я знаю—юнацтва праходзіць,
Я знаю—мінаюць гады...
На кожным крутым пераходзе
Мы сілы губляем заўжды.

А ўсё-ж я рассыплюся ў трэлях,
Ня кіну напеўную медзь.
„Агаркі зары дагарэлі,
А песьні ў душы не згарэць..“

## Я. Гоманаў

* * *

Як чырвоны залаціўся шоўк,
Як пылаў усход залататканы,—
З звонкаструннай лірай я прышоў
Маладой краіне на спатканьне.

Не разьвеяць сонечную яў
У праменьнях буйную такую...
О, краіна родная мая,
Росквіт твой у песьні адсьвяткую!

* * *

Змоўклі струны звонкае гітары...
Як заўсёды—ў думках малады...
Вёскі сьпяць. За рэчкай сьпяць гушчары,
І начы нязьведаныя чары
Палілісь на сонныя сады...

Расьцягнулісь цені на разлогі,
Закурыўся палыновы хмель;
Зьбіўся белы месячык з дарогі—
Апусьціў свае крутыя рогі
У вады халодную пасьцель...

Ганна Сапрыка

# Сяўба

Паказалась з-за лесу ўжо сонейка,
  Скрозь туман выглядае, як блін...
Запражом у калёсы мы коніка,
  Жыта сеяць паедзем на клін.

На калёсы паложаны бораны,
  Пасканныя са збожжам мяхі,
І сявалка з папругай аборванай
  І саломы снапы для ляхі *).

У полі ціха. Туманам акутаны
  Поле, рэчка, і луг і лясы.
І ні мошак, ні птушак ня чутна—
  Пахаваліся ўсе ад расы.

Тут мяшкі расстаўляем па пахаце,
  Бацька сее рукою зярно,
Я-ж са жменяй саломы пад пахаю,
  Значу, дзе пакладзецца яно.

Цягне конь барану дзеравяную—
  Тая рэжа камлыгі зямлі;
Разрыхляем зямельку старанна мы,
  Каб расьці лепш зярняты маглі.

---

*) *Увага рэд.* Ляха, ляшыць—вызначаць саломаю дзе падае жыта на ральлі. Я буду сеяць, а ты ляшыць. Ляшэньне пашырана на Амсьціслаўшчыне.

Яз. Вір

# Панскае права

П'еса ў аднэй дзеі

## Асобы:

1. *Дзед Язэп*, 92 гады.
2. *Ганулся*, 65 г.—дачка Язэпа.
3. *Агапа*, 40 г.—замужняя ўнучка Язэпа.
4. *Ясь*, 25 г.—малады мужчына, прыехаў нядаўна з гораду, дзе працаваў на фабрыцы.
5. *Паўлюк*, 50 г.—Селянін, бацька Яся.
6. *Юзік*, 13 г.—хлопчык, брат Яся.
7. *Князь Драпелла*, 35 г.—багаты пан з суседняга маёнтку.
8. *Швэнцар*, 30 г.—аканом князя, немец.

Пастушкі—хлопцы і дзяўчаты, ад 12 да 14 г.: *Пятрусь*, *Алесь*, *Міхась*, *Кася*, *Зося*

Паліцыянты.

Сяляне.

Дзея адбываецца ў Заходняй Беларусі.

Паша. Направа лес. Налева сям-там раскіданыя лазовыя кусты. Збоку плот. Гарыць агонь, навакол якога сядзяць пастушкі—хлопцы й дзяўчаты. Поруч з імі сядзіць на купіне дзед Язэп, плятучы лапаць.

### Зьява 1-я

*Пятрусь* (пячэ на ражне сала). Вы, хлопцы, прынесьлі-б трохі з лесу дроў, вось бачыце-ж, што агонь скора згасьне. Маё сала задымілася і пры такім агні не сьпячэцца.

*Юзік* Твая, браце, якраз чарга ісьці па дровы, дык зьбегай ды сам прынясі.

*Міхась* Во, йшчэ чаргі нейкае пільнуецца. Можа не ўвярэдзішся, калі сходзіш ды прынясеш, ногі, здаецца, лёгкія маеш.

*Юзік* Я маю лёгкія ногі, а ты надта лёгкі язычок.

*Міхась* Ах ты, жаба разьлезлая, яшчэ будзеш спрачацца, забыўся, пэўне, як я цябе чвякнуў каля мастка?

*Юзік* Дык то было каля мастка, але-ж ня тут—на грудзе. Ты можа хочаш зноў падужацца, дык асьцярагайся, бо костачак сваіх ня зьлічыш, дарма, што нядаўна зьеў скварку.

*Міхась* Ах ты, галапупак жаўтароты, дык ты яшчэ будзеш пашкурацца? Я вось табе пакажу як дужацца! (Скідае вопратку і закасвае рукавы).

*Юзік* (таксама скінуў вопратку і падкасвае порткі).

*Пятрусь* (есьць сала, сьмяецца). Ці ня думаеш ты, Юзік, чарцей на балоце ганяць, што порткі падкасваеш?

*Юзік* Так спраўней, бачыш калошы ў портках доўгія ды целяпаюцца, як кішкі, а калі падкасаць, дык будзе шмат лепш. (Закасвае пасьля гэтага рукавы, плюе на далоні і пацірае рукі).

*Міхась* А ну, падыйдзі, цяля нялізанае!

*Юзік* Ну й падыйду, давай! (Падбягае да Міхася і хватае яго ў пол. Дужаюцца з хвіліну засопшыся, пасьля чаго Юзік кідае Міхася пад агульны рогат дзяўчат і хлопцаў). А што? Хваліўся?

*Міхась* (нездаволена). Я дрэнна ўзяўся, давай яшчэ раз.

*Юзік* (бадзёра). Добра, я згодзен. (Дужаюцца другі раз, але Юзік зноў кідае Міхася аб зямлю).

*Зося* Вось табе і маеш, Міхасёк, хваліўся сваею сілаю, а цяпер вось і скапыціўся.

*Міхась* (устае незадаволены). А ты, чаго яшчэ зубы выскаліла, як Сымонава жаробка? Маўчы, бо зараз...

*Юзік* Што зараз? Біцца можа будзеш? Не, браток, цяпер наша ўзяло, досыць табе кідаць мяне ды хваліцца, што два разы паваліў мяне каля мастка. А Зосі не чапай: вось яна табе паясок вытча.

*Зося* Яму паясок? Хаця-б і ня выткала? (Сьмяецца). Каб хаця трохі быў дужэйшы, а то, як гнілы гарбуз. (Усе рагочуць).

*Міхась* (трасе кулаком на Юзіка). Чакай, прыдзе пара.

*Юзік* (з ухмылкаю). Прыдзе пара, на сьвятога Пятра. Я, брат, буду яшчэ дужэйшы як цяпер, бо кожны дзень раніцаю і ў вечар разам з Ясем робім гімнастыку, у нас на двара Ясь абяцаў зрабіць турнік. (Да ўсіх). Глядзеце, якая пруткая мая рука. (Згінае руку і паказвае). Праз які час (ківае на Пятруся) я з ім сашчаплюся.

*Пятрусь* Ты сёньня надта разышоўся. Здаецца цябе не чапаю, дык і маўчы, бо я табе ня Міхась. (Пазірае на Міхася і сьмяецца).

*Юзік* З табою сварыцца ня буду, але-ж і маўчаць ня варт: што за карысьць?—лепш буду сьвістаць полечку. (Сьвішча).

*Дзед* А ты, сынку, ня сьвішчы.

*Юзік* Чаму?

*Дзед* Бо вецер падымаецца. Сьвістаць ня можна.

*Юзік* Хай падымаецца, таквеля бяды. (Сьвішча яшчэ мацней). Ты, дзед, лепш скажы нам, ці дужаліся хлопцы даўней? Ты-ж таксама, як і мы, пэўне быў некалі хлопцам, га?

*Дзед* Даўней? чаму-ж ня дужаліся. Бывала валы пасучы, зьбярэцца гэта нас хлапцоў колькі ды й пачном дужацца. А то яшчэ лепш у маёнтку, як гэта калі-небудзь у сьвята пан Завіша выбера здаровых хлапцоў, дасьць яшчэ гарэлкі ды й пачнуць яны дужацца, ну, а яму, вядома, цікава пазіраць, рагоча, ўзяўшыся за бокі.

*Юзік* А ты, дзед, добра дужаўся?

*Дзед* Чаму-ж не... (кашляе). У свой час, калі яшчэ быў малады, здаровы. Цяпер ужо страціў сілу і здароўе, стары, ў магілу пазіраю, а раней... (кашляе).

*Юзік* А дзе-ж ты, дзед, страціў здароўе?

*Дзед* Дзе страціў? Было дзе, сынку, страціць; за прыгонам шмат дарма здароўя палажыў. Вось я-ж яшчэ капаніцу капаў, што ў Кухціцах, пры старым пане гэта яшчэ было. Панаганяюць, бывала, людзей здалёк, грабароў з доўгімі рыдлёўкамі, ды народ з ваколічных вёсак. Вясною часам захаладае, а мы па калені ў вадзе ды гразі... Скажаш, бывала, што хворы, не даюць веры, ды яшчэ бізунамі б'юць. Тады нават і хварэць забараналі.

*Юзік* Дурныя былі людзі, што слухалі паноў. А я дарма не працаваў-бы ў паноў, я не рабіў-бы паншчыны ніколі, нізавошта.

*Дзед* Хэ-э, сынку, дзе-ж-бы гэта ты дзеўся? Тагды-ж за кожным даглядалі войты, цівуны, дазорцы. У хату прыдзе цівун альбо войт з бізуном, ды пачне гразіцца, а то й біць. Бывала, яшчэ пеўні не запяюць, а ўжо войт стукае палкаю ў акно, ганяе ў маёнтак малаціць. На полі сьвету божага ня відаць, мяцеліца, мароз, завея, а людзі ідуць, няма дуру.

*Юзік* А я схаваўся-б у лес.

*Пятрусь* Зімою, мяцеліцаю ў лес?

*Юзік* Калі ня ў лес, дык інакш дзе-небудзь. Я бег-бы на край сьвету, але паншчыны не рабіў-бы.

*Дзед* Былі такія, што й працівіліся, не хацелі хадзіць на паншчыну. Некалі ў Бурых быў Лук'ян,—здаровы, дужы чалавек, дык ён з маленства не хацеў хадзіць на паншчыну. Ён хаваўся, уцякаў, не начаваў дома. Ідзе араць, сякеру бярэ з сабою, прывяжа к ёй пастронак і калі яго йшлі лавіць людзі з маёнтку, дык ён яшчэ здалёк махаў сякерай і гразіў, каб блізка не падыходзілі...

*Юзік* Вось гэта быў маладзец!

*Дзед* Такім чынам ён жыў на свабодзе гадоў дзесяць, але нарэшце пан даў загад, канечне, злавіць яго. Зрабілі аблаву, ачапілі яго навакол і злавілі. Пасьля гэтага прывялі яго да маёнтку, прыгатавалі розаг з гострымі сучкамі, паставілі на дзядзінцы тапчан і прывязалі да яго Лук'яна.

*Хлопцы* (якія да гэтага уважліва слухалі дзеда). Ах, як гэта страшна!

*Юзік* Ну і што-ж?

*Дзед* (кашляе). Назьбіралася шмат народу, абступілі навакол, хто сьмяецца, а хто й плача. Разгневаны пан сказаў біць Лук'яна розгамі датуль, пакуль на яго сьпіне не застанецца цэлага месца. Білі яго так моцна і доўга, што аж страшна было, а ён—а ні зыку, толькі зубы сьціснуў так, што аж кроў пацякла. Пасьля яго браты забралі дамоў і, не даходзячы да вёскі, вось там на поплаве, аж да вечара вымалі сукі ад розаг з яго цела.

*Юзік* А што з ім было пасьля гэтага?

*Дзед* Што? Захварэў ён моцна пасьля гэтага... сухоты ці што там на яго напала, зрабіўся чалавек, як саломка, лёгкі, і праз нейкі час памёр.

*Юзік* Як шкада мне яго! Эх, чаму ён не забіў пана, не запаліў яго палацаў?

## Зьява 2-я

Выбягае з-за кустоў Кася.

*Кася* (з выразам спалоху на твары). Ой, хлопчыкі мае, ой, Зосечка! Сядзела там на грудзе, пільнавала, каб быдла не пайшло ў панскае збожжа ажно тыц з-за жыта два паны, адзін з іх быццам сам князь з маёнтку—у кучме, высокі, са стрэльбаю, курыць; другі нейкі надта страшны,—шапка нейкая рабая, ў скрыначкі, з гузічкам пасярэдзіне, сьвітка зялёная, на нагах ні то боты, ні то чаравікі, сам чырвоны, цыбаты і якраз падобны на таго чорта, што ў нас на абразе. Гэты пан у кучме й кажа мне:—Куды ты, шчанё, пусьціла быдла? Зразу я ня спужалася, адно сэрца маё з нячэўку крыху затахкала, ды кажу яму:—Быдла-ж, панок, ня ў збожжы, я пільную, ніводная карова ў збожжы ні разу ня была. Але-ж калі я так сказала, дык яны да мяне як прыскочаць, ды калі сталі крычаць, асабліва той страшны, дык у мяне аж ногі анямелі. Ад страху думала, што яны мяне біць будуць, пасьля апамятавалася і колькі хапіла сілы, пабегла сюды. Ох, як моцна тахкае маё сэрца!

*Пятрусь* А ты, Кася, ня лжэш? Можа гэта табе так здалося, а можа жартуеш?

*Кася* Ой, што ты! Хіба я шалёная ці што? Я добра ня ведаю хто яны такія. Можа хіба чэрці, бо мне калісь баба апавядала, што даўней тут яны зьяўляліся панамі, паненкамі, коньмі. Можа гэта мне здалося, але-ж я там усё бачыла, усё гэта было.

*Дзед* Бываюць такія здарэньні, што й чорт захоча пажартаваць над хрышчонаю душою. Некалі апавядалі, што іх вось там у канцы палос процьма было. Едзе чалавек з кірмашу і ў лесе ня йначай убачыць што-небудзь: ці пана ў багатым адзеньні, ці каня ў прыгожай вупражы, ці сытую карову. Гэта, вядома, ні пан, ні конь і ні карова, а сам нячысьцік, ня пры нас кажучы.

Дык вось, раз ехаў чалавек. Бачыць ён, што стаіць конь, ды такі прыгожы, што ён першы раз такога бачыў. Ён зьлез з воза і памкнуўся браць каня: той стаіць, такі рахманы, нюхае яго. Чалавек забраў гэтага каня, прывязаў да воза ды паехаў. Едзе ён, едзе, і ўсё дамоў не пападае. Езьдзіў ён аж да тэй пары пакуля пеўні не запелі. Конь зьнік у адзін момант, а чалавек гэты апынуўся па пояс у гразі вось там у спадовым рове.

*Юзік* Я чуў гэтых баек шмат. Наш Ясь сьмяецца з гэтых баек і вось што ён казаў: некалі людзі любілі піць гарэлачку. Нап'ецца чалавек на кірмашы, выедзе адтуль п'яны, а прыехаўшы ў лес, саб'ецца з дарогі ды ўгразьне дзе ў балоце, ці ў рове, а там яму здаюцца чэрці, і коні, і паны і ўсё, што хочаце.

*Міхась* (пазірае ў даль). Вось нехта там здаецца йдзе між кустоў.

*Пятрусь* Але-ж ідуць. Праўда, ўдваіх.

*Кася* Ой, гэта яны, тыя самыя. Зосечка, сястрычка, схаваймася, бяжэм хіба ў лес, уцякайма, я баюся! (Уцякаюць).

*Міхась* Дзяўчаты, дурніцы вы, стойце, не ўцякайце! Гэта-ж князь з аканомам, вярнецеся! Зося, мы-ж з табою летась князю вароты ў сяле адчынялі, памятаеш капейку нам кінуў?

*Зося* (з-за куста). Ай, я баюся яго, ён на тым тыдні набіў пастуха, што авечкі пасе, дык боязна каб і нас не набіў.

*Юзік* Няўжо князю холадна, што ён улетку кучму носіць.

## Зьява 3-я

Уваходзіць князь Драпелла з аканомам. Хлопцы зьбіліся ў кучу і засланілі сабою дзеда

*Князь* Ну, хто-ж вам дазволіў тут пасьвіць быдла? Ня чулі пэўне бацькі вашы, што я ім сказаў. Забыліся пэўне, што я загадаў, каб больш нават ня краталіся да гэтага месца без майго дазволу. Тут павінна быць ня паша мужычая, а сенажаць для маёнтку—мая сенажаць! Разумееце, што кажу, чорныя дзікуны? Ну, чаго-ж зьбіліся ў кучу, як авечкі, баіцёся нябось? (Да Міхася). Чый ты будзеш хлапчук? (Вымае з кішэні блёк-нот). Як прозьвішча твайго бацькі?

*Міхась* (праз плач). Паночак, не запісвайце, мой тата бедны, вы ў суд хочаце падаць. (Плача).

*Князь* Дурань ты, ня плач! ты граматны, у школу хадзіў?

*Міхась* Ха-адзіў.

*Князь* Ну, калі хадзіў да школы, павінен ведаць як тваё прозьвішча, як бацьку завуць?

*Міхась* Тата завецца Антось.

*Князь* А прозьвішча?

*Міхась* Прозьвішча—Галенчык.

*Князь* (Запісвае ў блёк-нот). Ты, маладзец. А скажы цяпер як прозьвішча гэтага хлопца? (Паказвае на Пятруся).

*Юзік* Калі ты, Міхась, скажаш, дык дабра табе ня будзе, наўздаём колькі ўлезе.

*Князь* (гнеўна). А ты хто такі шчанюк? (да Міхася, паказваючы на Юзіка) Як прозьвішча яго бацькі?

*Міхась* Я баюся казаць, ён цяпер дужэйшы за мяне, дык наб'е, калі скажу

*Швэнцар* (да князя). Diesen Wilden muss man erschreken dann er wird selbst seinen Namen sagen*) (Зьнімае з пляча стрэльбу і цэліцца ў Юзіка. Той закрывае рукою галаву і адступае за плот. Швэнцар адводзіць рулю ўгару над галавою Юзіка і страляе. У гэты момант Юзік з-за плоту кідае камень у Швэнцара і ўцякае. Хлопцы моцна плачуць і адступаюць у бок).

*Дзед* (устаючы, да князя). Паночак, ваша сіяцельства, нашто-ж так дазваляеце пужаць дзяцей? Яны-ж нічога благога не зрабілі. Скажэце гэтаму пану хай ён гэтак больш не жартуе. (Паказвае на хлопцаў). Яны-ж малыя.

*Князь* А скуль-жа ты ўзяўся, стары хаме? Дык і ты тут з гэтай блазнотай! Ты правадыр іх, ці што? Замест таго каб іншым даць раду, ты сам ня слухаеш таго, што сказаў я—князь. Хіба ты ня ведаў, што я забараніў гнаць сюды быдла? Хіба ты ня ведаеш, якое права панскае, а якое хамскае? А-а? (Падыходзіць да дзеда і б'е яго стэкам па галаве).

*Дзед* (бяручыся за выцетае месца). Паночак, ясны князёк, за што вы мяне старога, за якую правіннасьць? Я век зжыў, сыноў пагадаваў, выпраўляў у салдатчыну, прыждаў унукаў і ніхто мяне гэтак ня біў ніколі нават за прыгонам, а гэта-ж...

*Князь* За прыгонам цябе ня білі? Ах ты, пень трухлявы, дык вось і дуру шмат загэтым у тваёй бязглуздай галаве. Ты павінен і маладым рэстлумачыць, што гэта сенажаць панская. Разумееш ты, старая варона?

*Дзед* Разумею, ваша сіяцельства, як-жа не разумець.

*Князь* Ну, дык вось запамятай! Князь сказаў вашым мужыком ня гнаць сюды быдла, хай паслухаюць, пакарацца, ды ня гоняць, бо князь з вамі жартаваць ня будзе. Сказаў раз, другі, а там у вастрог пасадзіць, у Нясьвіж. Як-жа можа быць, каб вы ня слухалі? Як можа быць, каб мужык гнаў сваё быдла аж да вакон маіх палацаў? Тут павінен быць прыгожы луг, мой уласны луг і ён тут будзе. Разумееш? Хэ-хэ-хэ. (Дастае з портсыгару папяросу і закурвае).

---

*) Гэтага дзікуна трэба напужаць, дык ён і сам скажа сваё прозьвішча.

*Дзед* (уздыхнуўшы). Разумею, чаму не. Але-ж, паночак, князёчак залаты! Дазвольце мне вам сказаць. Гэта месца спрадвеку было ў нашым карыстаньні. Ніхто ніколі ня памятае, каб яно калі было панскім, скарбовым. Мае прадзеды і дзяды пасьвілі тут, я сам тут яшчэ з маленства пасьвіў валы і цяпер вось праўнукі. Даўней пан Завіша не ўтранцаўся да гэтае пашы, графіня таксама некалі не забараняла пасьвіць, а вы хочаце забраць гэту пашу, як я чую, у сваё панскае карыстаньне. А дзе-ж нам тагды дзецца? Вось быў нам дадзены калісьці сэрвітут, па лясох, значыцца, пасьвілі, а пасьля, як засталіся вы тут, дык лес парэзалі на кварталы, пачалі сячы, ды зноў сеяць, а па пасевах пасьвіць забаранілі... Паночак, дзе-ж дзецца? Зьлітуйцеся над беднай вёскай, такога абшару, якім уладаеце вы, з вас хопіць, а нам і гэта крыха неабходна, бо цяжка настала жыць.

*Князь* А-а, дык у цябе й розум знайшоўся? У тваёй спарахнелай галаве хапае розуму сказаць з мяне хопіць. Ці ня комуністы ты? (Рагоча). Пень ты глухі! Ты ведаеш з кім гаворыш? Ты ведаеш, што ўся ваша вёска нічога ня зробіць насупраць мяне. Я ведаю, там у вас ёсьць „разумныя“, якія мужыкоў набухторваюць, якія мне грозяць, але я жартаў ня люблю. Мужыкоў так правучу, што яны будуць памятаць доўга. (З ухмылкай да Швэнцара.) Мужыку трэба вось што! (Трасе стэкам Швэнцар сьмяецца, ківаючы галавою ў знак згоды). Яму трэба бізуна, гарапніка, тагды ён будзе цішэй вось гэтай травы. Я сказаў і так будзе, як я хачу. А ты, стары, памятай з кім гаворыш! Я цябе яшчэ мала частаваў? Больш хочаш?

*Дзед* Я-ж нічога, я не... не хацеў, паночак.

*Князь* (да ўсіх). Ну, дык выбірайцеся адгэтуль, зганяйце ваша быдла, каб больш тут сьледу вашага ня было.

*Дзед* Быдла? Куды? Ну, згонім. Куды-ж яго гнаць? Пане, дзе-ж тваё сумленьне?

*Князь* О-о, дык ты й так умееш гаварыць, стары пёс! (Падыходзіць і моцна штурхае дзеда ў галаву).

Хам'ё, мужыччо! З імі будзь добры, дык яны табе ліха.

*Дзед* О-ох! Паночак, людзі, ратуйце! (Падае на зямлю, на губах відаць кроў).

## Зьява 4-я

Падыходзіць пастушок Алесь, твар яго белы спалоханы.

*Алесь* Ой, хлопчыкі, парабкі забралі ў двор каровы... там таксама й стражнікі і парабкі і яшчэ нейкія з маёнтку. Мужчыны нашы пабеглі адбіраць, б'юцца... бяжэм і мы! (Бягуць і зьнікаюць за кустамі).

*Швэнцар* Ха-ха-ха! Мі тоопра шпушалі гэтых фэрап'эф. Тэпээр поолш нэ потрафіт зуды хнат біідль. Трэпа рапіт апляф. Забіром біідль за штыкэ па дэсят злоот, заплятат і капут, поолш нэ потрафіт. На

той нэдэль па мой шлёф запрал з паша пенць штыке біідль, фахнал уф абора. Праш цэлі дэнь у вэтшар прышля баба і хоча брацъ карофа. Я сказаф ёй па дэсят злоот з карофа. Она штала цэлёфат мой рука і нога, а я вігналь. Сафтра кроош прынэшля. Хе-хе-хе!

*Князь* Ну, што, стары, чаму-ж не бяжыш ратавацъ быдла? Уставай, чаго разьлёгся, хіба-ж моцна выцяў?

*Дзед* Э-эй, што казаць. Жартуеце, паночкі, вам жарты наўме. Не пашанавалі нават мае сівае галавы, старасьці. Грэх будзе вам за гэта вялікі. Мне жыць на гэтым сьвеце ня доўга засталося, але тут памерці я не хачу. (Кашляе).

*Князь* А, ты яшчэ жыць хочаш? Плюнь, дзед, хіба табе не збрыдла на гэтым сьвеце? Як памрэш, дык у рай пападзеш (Рагоча, пазіраючы на Швэнцара, той таксама рагоча).

*Дзед* Ды я-ж не сказаў, што жыць хачу, я хацеў толькі сказаць, што ў гэтым балоце не хачу паміраць, хачу памерці дома, у сваёй хаце як людзі, ці-ж я злачынец які?

*Швэнцар* (Падыходзіць да дзеда і кратае яго нагою). Ты, штоо, шкатына ляшыш? Калі мувіш ш кнааш, пафінн штаяйт. Ты зольдат бііль? Нэ бііль, то ты швына, нэ шнайш паратак.

## Зьява 5-я

За сцэнай чуцен шум, гоман людзей чымсь незадаволеных. На сцэну выбягае заплаканая Агапа і, плачучы, кідаецца да дзеда.

*Агапа* А дзедухна, а родненькі, ці-ж ты яшчэ жывы? Што-ж яны табе зрабілі? Я чула, мне казалі дзеці, што цябе забілі. Божа мой, мілы мой, за што-ж яны цябе, дзядулінька? Пан, князь, што ты зрабіў? Ты абязьвечыў майго старога дзеда! За што?! Зьвер ты, злыдух, недавярак! Шыбеніцы на цябе няма? (З дзікім выразам на твары хватае галавешку і мкнецца выцяць князя, але Швэнцар да яе, вырывае галавешку, адкідае ў бок і, пакаціўшы Агапу, пачынае яе біць нагамі).

*Агапа* Во-ой, людцы мае, ратуйце!

## Зьява 6-я

Убягае Ясь. За ім дарослыя хлопцы, дзяўчаты, кабеты й мужчыны. Усе ўзброены вілкамі рыдлёўкамі, каламі і інш.

*Ясь* (да Швэнцара, трымаючы ў руцэ тоўсты кол напагатове). Прэч, рыла сьвінячае! Не чапай яе, досыць таго, што дзеда забілі.

*Швэнцар* А ты хто пуутэш? Нэ крытшы!

*Ясь* (злосна замахвае калом). Я кажу табе прэч, інакш гэты кол паламаю на тваёй сабачай галаве, сабака!

*Швэнцар* (спужаўшыся). Я... я ны... нытшога (Адступае. Навакол князя і Швэнцара зьбіраецца натоўп узброеных сялян).

*Швэнцар* (баязьліва да князя). Wir sind mit wilden Menge umringt.*)

*Князь* Haben Sie nicht Angst, wir haben Rewolwer.**)

*Ясь* Добрыя ты, князь, жарты знайшоў разам са сваім аканомам, як гэта ў вас розуму хапіла біць старога чалавека, страляць у дзяцей?

*Нехта з грамады* Гэта іх цяпер трэба пастраляць, адабраўшы ад іх стрэльбы.

## Зьява 7-я

Уваходзіць Ганупя. Выцірае хвартухом заплаканыя вочы, ідзе да дзеда.

*Ганупя* А татачка, мой, а родненькі! што-ж гэта з табою здарылася? Ці жыў ты мой гаротненькі, нядужанькі, дзе-ж цябе выцялі? (Бярэ дзеда за галаву і, ўсхліпваючы, разгладжвае яму валасы. прызіраецца ў твар).

*Нехта з грамады* З імі няма чаго валаводзіцца, гэтага немца трэба адвучыць забіраць у маёнтак каровы, ды й князя папросім больш ня біць старых людзей. (Сярод грамады праносіцца гук нездаваленьня супроць князя і аканома. Апошнія занепакоены).

*Князь* Я прашу вас, братцы, ня ўзрушайцеся. Пагаворым з вамі як і належыць добрым людзям. Нашто нам сварыцца, мы суседзі і я зусім не хачу і ніколі не хацеў вас пакрыўдзіць. Я-ж, бачыце, і ў суд не падаваў, я хачу гэту справу ўладзіць ціха, пасуседзку, вось, бачыце, я-ж сам да вас прыйшоў, ведаючы што вы пойдзеце на згоду са мною. (Да Ганусі). А ты што, бабка, плачаш? Ці ня дачка будзеш гэтага старога, шкадуеш, любіш, як відаць, ты яго моцна? Хэ-хэ-хэ.

*Ганупя* Але-ж, паночак, дачка. Ды й як-жа яго не шкадаваць? О-хо-хо-хо. (Плача)

*Князь* (дастае з кішэні партманэт і вымае адтуль грошы. З усьмехам да Ганусі). Ціха, бабка, ня плач! Вось ты бачыш што гэта? А-а! На, завядзі старога да хаты на печ, купіш яму што за гэта. Чаму-ж ты пусьціла яго сюды, калі так шкадуеш? (Ганупя плача). Не раві, баба, брыдка плакаць, бачыш, з цябе сьмяюцца ўсе людзі.

*Ганупя* (бярэ грошы й цалуе князя ў руку). Дзякую, паночак, князёчак даражэнькі, залаценькі мой... Дзякую, сонейка маё яснае, ніколі не забудуся, бога буду маліць.

*Дзед* (кашляючы й вохаючы, памалу ўстае).

*Князь* Во, паглядзі, баба, ты дарма галасіла, ён-жа ўстае, гэта-ж ён трохі пажартаваў. (Рагоча).

*Ясь* (узрушана). Князь! Ты за каго нас лічыш, каго перад сабою бачыш, людзей сапраўдных ці быдла? ты хочаш мяне, пасьля і нас усіх давесьці да таго, каб мы зрабіліся зьвярамі і разарвалі цябе, як сабаку, разам з тваім аканомам. Яшчэ мала вам зьдзекаў, яшчэ

*) Мы абкружаны дзікай грамадою.

**) Але-ж не пужайцеся, у нас ёсьць рэвольвэры.

мала гэты бедны люд лізаў вашы крывавыя брудныя рукі і тут ты яшчэ пачынаеш сьмяяцца. Знаю я, знаем мы ўсе як вы да сялян. Думаеце, што ў сялян, у гэтых вякамі прыгнечаных людзей няма розуму, няма пачуцьця? Ёсьць! у іх ёсьць і пачуцьцё помсты і за сваю крыўду селянін часам пасьмее адамсьціць. (Моцна сьціскае ў руцэ кол і мкнецца йсьці да князя, але Агапа і інш. утрымліваюць яго).

*Агапа* Яська, братачка, ты не чапайся! Хай мы дурныя бабы будзем адказваць, што хоць раз у жыцьці дазволім сабе палаяць гэтых сабак. (Паказвае на князя і аканома падыходзіць да Ганусі). Мамачка, ён,— гэты крывасос, сьмяецца з нас і з цябе, закінуўшы табе твае вочы гэтымі грашмі. Дай мы аддадзім іх яму назад, хай ён праглыне іх сам! (Бярэ грошы ў Ганусі і зварочаецца да князя). На, я табе даю назад твае брудныя грошы. (Кідае грошы князю ў твар). Гэта дадатак да тых грошай, якія заўчора дала вось гэтаму гаду (паказвае на аканома) бедная ўдава Сымоніха. (Да аканома). І як гэта табе было зрабіць, безьязыкі ты чорт, яе хлопчык займаў і пасьвіў наняўшыся чужое быдла, хацеў што-колечы заробіць, а ты крошкі забраў ад беднае ўдавы. Добры знайшлі заработак! Забяруць сілком каровы там, дзе захочуць, ды плаці па два рублі.

*Дзед* О-ох, няма дабра на сьвеце! Пойдзем, Ганнуся, дамоў, нешта мне холадна, толькі вось быдла ў маёнтку, хлопец казаў...

*Ясь* Ідзеце, дзедка, спакойна дамоў, быдла мы адабралі.

*Гануся* Хадзем, татка! (Выходзяць).

*Ясь* Але-ж гэтых фальварковых палупанкаў мы сёньня добра пачаставалі каламі. Дасталося й касіеру, і пісару і гэтаму бязрукаму. Вось, як толькі мы даведаліся, што забіраюць быдла ў маёнтак, зараз пабеглі наперад пераймаць. Нагналі іх аж у самым маёнтку, нават ужо абору адчынілі, каб загнаць быдла, але мы тут пачалі іх так сьвянціць каламі, што яны нямаведама дзе паўцякалі, а мы тым часам занялі быдла й прыгналі назад на пашу.

*Князь* А я, братцы, раю вам не цягацца больш са мною. Вы, пэўне, чулі расейскую прыказку: „с силачем не борись, с богачем не судись“. Усёроўна, колькі вы са мною не цягайцеся, мой верх будзе. Вы павінны запамятаць раз і назаўсёды, аб чым я гаварыў ня раз, што гэта месца па праву належыць да майго ўласнага маёнтку. Я вам і плян магу паказаць. А што вы, як кажаце, карысталіся гэтым месцам доўга, дык гэта было звычайнае непаразуменьне. Ну, пакарысталіся, я за гэта грошай ад вас не вазьму, скажэце „дзякуй“ і будзем жыць згодна, інакш справа будзе перададзена ў суд і, вядома, вы будзеце вінаваты, я ў гэтым упэўнен.

*1-я жанчына* (падыходзіць да князя, узяўшыся ў бокі). А скулу, ты, пане, ня хочаш?

*2-я жанчына* А дулю ты не каштаваў? (Дае князю фігу. Усе рагочуць).

*Князь* Вы ашалелі! Не забывайцеся з кім маеце справу. Як вы сьмееце? Такая зьнявага... Гэта вам дарэмна ня пройдзе.

*Агапа* (іранічна). Гэта-ж ты ня думай, нібы ня ведаем хто ты?—Крывасос, распусьнік, вось хто ты! Ня страш, калі ласка, бо мы не баімося, пойдзем у вастрог, садзі нас туды ўсіх. А цяпер ты нас ня ўкусіш, ды й сваім сабакам (паказвае на аканома) не зацкуеш, бо і ён падагнуў хвост як цюцька. (На аканома кідаюць шышкі, агрызкі, жартуюць).

*1-я жанчына* І як табе ня брыдка ўлетку кучму насіць, хіба-ж няма за што купіць лягчэйшае шапкі? Э-э, а яшчэ і князем нібыта завецца.

*Нехта з грамады* Гэта-ж пустадомак, блазьнюк! (Усе сьмяюцца).

*Князь* (гнеўна). Я забараняю вам так лаяцца і кажу наперад, што вы за гэта пойдзеце ў вастрог.

*Ясь* І тут, князь, ня кепскі астрог. Такое жыцьцё ў панскіх абцугох немагчыма! Тваё самадурства даводзіць нас ня толькі лаяцца, але і рашуча змагацца.

*Князь* Ты што-ж такі сьмелы, краснамоўны—бальшавіком пахнеш?.. Ты будзеш ня тутэйшы? Каламуціш ты вёску, ой глядзі!..

*Ясь* Знаёміцца з табою, князь, я не знаходжу патрэбным. Што за карысьць ведаць табе хто я такі? Калі пахну бальшавіком, дык гэта для мяне зьяўляецца вялікім гонарам, а вось ты, князь, пахнеш гнільлём. Я добра даведаўся хто ты такі і перакананы, штоваспан зусім нікчэмны і пусты чалавек. Ведаю, як ты гуляеш у кафэшантанах Варшавы, ведаю, што ты толькі за вечар у Парыжы прайграў сто тысяч злотых, ведаю, што жабраку лянуешся даць грош, а на вецер кідаеш тысячы злотых дзеля забаўкі. Ашуканствам ты хочаш тысячы з беднаты сьцягваць, а пасьля гэтага ў пахучых заграічных салёнах распусту купляць! Ад такіх трутняў, як ты, стогнуць крэсы. Гэта вы, паны, дармаеды і чужаедцы, павінны будзеце згніць у вастрогах за гвалты і зьдзекі, а ня мы.

*Князь* Ты якое права маеш закранаць маё асабовае жыцьцё? Што табе да таго? Як ты сьмееш? Цяпер мне ясна, што ты за птушка. Чырвоны бандыт! Маскоўскі паслугач! Начытаўся запрэтных лісткоў, супроць мяне каламуціш і бунтуеш сялян!? Папомні, што за гэта ты ня мінеш астрогу. А мне за такую зьнявагу ты дорага заплоціш!...

*Ясь* (з ухмылкаю). Шкада, што я ня маю сто тысяч злотых, я зараз-бы табе заплаціў. А ўсё-ж такі, колькі табе трэба? (Апускае руку ў кішэню). А-а, шко-ода! Было пяць грошай ды й тыя бягучы згубіў, а каб не такое здарэньне, аддаў-бы, канечне, пану-князю. (Усе сьмяюцца).

*Агапа* А можа табе заплоцім мы—бабы? Нас садзі ў астрог, на нас падавай скаргу, хай мы, жанкі, будзем вінаваты.

*Усе жанкі* Хай нас садзіць у вастрог, мы вастрогу не баімся, пойдзем туды ўсе.

*1-я жанчына* Я пайду першая ў вастрог, а за гэта, шаноўны князе, цьфу (плюе) табе ў вочы.

*Нехта з грамады* Жанкі, плюйце ўсе на яго!

*Жанкі* (усе). Го-о, злодзей! Крывасос! Згуба! (Абступаюць князя навакол. Ён адмахваецца стрэльбаю, але яе вырываюць. Князь уцякае, а за ім бягуць, плюючы на яго).

*Агапа* (паказвае на аканома). А гэтага цюцьку трэба крапіваю высячы. Жанкі, дзяўчаты, дайце крапівы, нахвошчам яму ногі, каб больш не хадзіў займаць у маёнтак наша быдла. (Швэнцар уцякае, а за ім бягуць жанкі з лаянкай. Усе зьнікаюць за кустамі, адкуль даносіцца сьмех і жарты. На сцэне застаюцца толькі хлопцы і мужчыны).

*Нехта з грамады* Ха-ха-ха! Добра іх справадзілі, о то дадуць, нябось папомняць! (Усе сьмяюцца, жартуюць, паказваючы ў той бок, дзе жанчыны валтузяць аканома).

## Зьява 8-я

Убягае з-пад лесу Юзік. Ён занепакоены, зьбялелы, засопся.

*Юзік* Ох, уцякайце хутчэй, бо ў лесе, вось там каля карчоўя ў алешнічку, паліцыянты, з гміны прыехалі напэўна. Яны накіраваліся сюды. Я бег сюды колькі ў мяне хапала моцы, каб сказаць вам. (Падыходзяць зацікаўленыя жанкі і бацька Яся—Паўлюк).

*Ясь* Гэта іх навялі тыя сабакі, якіх мы разагналі, адбіраючы быдла. А паліцыянты, як добрыя служкі, ўраз зьявіліся. Ну, што-ж—няхай. А нам, хлопцы, баяцца няма чаго. Калі на тое пайшло, дык трэба іх так турнуць адгэтуль, каб яны памяталі, што мы ня хочам зносіць крыўды, што мы ўмеем змагацца і будзем змагацца. Ня бойцеся, што яны добра ўзброены—у нас сілы больш. Апрача гэтага кала ў мяне ёсьць яшчэ й чорненькі сабачка. (Вымае з кішэні рэвольвэр, паказвае і зноў кладзе ў кішэню).

*Нехта з грамады* Пабачым, што яны нам запяюць.

*Паўлюк* Ясечка, сыночак мой, лепш вы ўсе схавайцеся, не пачынайце з імі бойкі, хай яны падушацца; пасьля будзе шмат цеганіны, ды мала што можа здарыцца.

*Ясь* Я сам не баюся нічога. Я птушка пералётная—сёньня тут, а заўтра ў іншы кут. Жывы ў рукі паліцыянтам ніколі ня дамся.

*Хлопцы* Мы таксама не баімся, хай ня кваляць нас чапаць.

*Юзік* Калі паліцыянт паквапіць зачапіць Яся, дык я расквашу яму галаву.

*Ясь* Ты ў мяне малайчына, з цябе выйдзе здольны барацьбіт.

*1 хлопец* Вось яны йдуць. Аднаго з іх я добра ведаю: ох, гад—сярдзіты.

*2 хлопец* А я ўсіх добра ведаю. Здаецца горшых сабак, як яны, на сьвеце няма. У мяне яшчэ ад леташняга выпыту ў пастарунку на сьпіне

малюнкі засталіся. (Усе хлопцы падыходзяць да Яся і пачынаюць радзіцца. Пажылыя мужчыны занепакоена круцяць галовамі. Жанкі адыходзяць у куток сцэны і зацікаўлена чакаюць, што будзе далей).

## Зьява 9-я

Уваходзяць узброеныя паліцыянты, размахваючы шаблямі.

*1 паліцыянт* Чаго тут пазьбіраліся? Паўстаньне?

*Ясь* А вам што да таго? Прышлі абараняць вяльможнага пана?

*Паліцыянт* Ласьне пана, а ня хлопаў.

*Ясь* Дык выбірайцеся к чортавай матары, інакш накладом колькі ўлезе

*2 паліцыянт* (накіраваўшы рэвольвэр на Яся). Што?! Кіраўнічы бандытаў?! Ты арыштован.

*Ясь* (вымаючы рэвольвэр). Не брашы, цюцька, не завіхайся, бо не на такога напаў.

*Паліцыянт* А-а, дык вось яно што... Давай зброю, хамская морда, інакш застрэлю.

*Ясь* На!.. прадажнае стварэньне! (Страляе ў паліцыянта, ён падае. Іншыя паліцыянты з лаянкай і абурэньнем кідаюцца на Яся. У справу ўмешваюцца хлопцы, пачынаецца бойка. Чуюцца два стрэлы і цяжка паранены Ясь падае на зямлю Утраплёныя хлопцы адступілі).

*Паўлюк* Сыночак мой, Ясечка!.. Божа-ж мой, што гэта парабілася! (Плача нахіліўшыся над Ясем.)

*Паліцыянт* (да хлопцаў). Вы арыштованы! А ўсе іншыя разыходзьцеся, а то пастраляем. (Крык, плач).

*Нехта з грамады* Дык вось, якое панскае права!

Заслона

А. Аляксееў

# Хатнярка Лёнька

Поэма

I

Будынак белы.
Заагніў
Вачамі вокан двух паверхаў;
Калісьці тут былая гніль
Спраўляла цьмяныя пацехі.
Мінуў той час.
У Новы дзень
Народ, як волат, скінуў ковы;
Палац,—быў сумнай здані цень,
Цяпер глядзіць імклівы, новы.
Загінула яго смуга:
Як сьведка посьпехаў змагальных,
Маёнтак той цяпер саўгас,
А у палацы тым—чытальня.

II

У кузьні дзедаў малаток
Жалезам звоніць, ляскае,
А ўнучкі Лёнькі ясны зрок
Квітнее ціхай ласкаю.
Зары вясновай весялей
У Лёнькі твар бадзёры,
А погляд маладых вачэй,
Як цёмнай ноччу зоры.
На плечы хустачку зьняла,
Валос ускудраных ня крые,
Яны істужкай, як зьмяя,
Ляглі абапал белай шыі.
І люба так пад гук кавальны,
Як западзе на зямлю змрок,
Хатнярцы Лёньцы да чытальні
Накіраваць пружынны крок.

III

— Ой, у полі рунь,
Рунь,
Маладая рунь,
Рунь,
Забуяла, зазялёнела.
Гэй!—
Весяліся маладое жыцьцё!

Ой, вясною чараўніцаю
Раскудзеліў гольле лес,
Разгукаўся над крыніцаю
Малады хлапец Алесь:
— Ліся песьня пеpазовамі,
Вырві з сэрца боль і жаль;
Запаліла промні новыя
Разрунеючая даль.
Ой, пуцінай новай, вольнаю
Разьлягаецца мой шлях,
Гэй, туды, дзе сілай спольнаю
Люд будуе волі гмах!
Годзе сілачку юнацкую
Марнаваць дарэмна мне,
Парабкову долю цяжкую
Хай нядоля абміне.
Сэрца просіць волі вольнае,
Лес шуміць пра іншы лёс;
Дні сумлівыя, дні зольныя
Малады віхор разьнёс.

Ой, у полі рунь,
Рунь,
Маладая рунь,
Рунь,
Забуяла, зазялёнела.
Гэй!—
Весяліся маладое жыцьцё!

IV

Вы пакіньце, панурыя дрэвы,
Свой сумлівы лістоў ціхавей,
Гэй, ляцеце, вясёлыя сьпевы,
З маладых і бадзёрых грудзей!

Не насі, задуменны лесе,
Гучны водгук па столькі разоў,
Гэта мы з завірухаю песень
Да цябе, за тваёй дзеразой.
Мы прышлі за малою пазыкай,
Надышоў першамайскі дзень;
А ці помніш, як з ласкай вялікай
Прытуляў ты паўстанцаў у цень?
І цяпер ня круці верхавінай,
Разгарні свайго вецьця асець,
Бо мы хочам сям'ёю адзінай
Заўтра сьвята вялікае стрэць.

V

— Гэй, Лёнька! Кінь свае паперы!
Цягні у шафу са стала;
Хто напята пакінуў дзьверы?
Ідзі у кола, галава!
— Ой, рассыпся ды зьніштожся страхацьцё,
Сьпевам поўніся вясёлае жыцьцё,
Ня прысталі нам да твару сум і жаль,
Бо мы самі долі ўласнае каваль.
— А во' й Рыгорка! Сып-ка, Юрку!
Цяпер жыцьцё нам не ў мяху.
Хай твар не пацямнее хмуркай!
Музыка! Разгані тугу!
І гэтак сполкай рагатлівай,
З грудзей ссыпаецца жарства,
Сям'ёю дружнаю, імклівай
Гуляе наская братва.

VI

— Не хавайся, Баніфаце,
Ты яшчэ ня зломак,
А прайдзіся-ж раз па хаце,
Ой, музыка ёмак!—
Пан Тадэвуш просіць ласкі
Пана Баніфата,
Той у скоках ботам ляснуў,
Бочыцца заўзята.
— Пашляхецку тупні, пане,
Спрытны ты на ногі!—

І пад скрыпак надрываньне,
Аж гудзе падлога.
Аглядаючы адзеньне,
Граюць панны вокам,
З далікатным абхаджэньнем
Квола йдуць у скокі.

VII

— Лёньця, пойдзем са мною ў праходку,
Палядзім на Тадэвушаў сад;
Тут так гварна, дзяруць усе глотку,
Дым тытунны стаіць, нібы чад.
— Мне, прызнацца, зусім зразумела,
Што сумуеце,—нудненька тут,
Гулі гэтыя кінуў-бы сьмела,
Толькі сэрца маё—баламут!—
Лёнька слухае Янку няўважна,
Тут даўно надакучыла ёй,
Не яднацца ёй сэрцам адважным
З гэтай шляхтай задзірнай, чужой.
Гэты Янка гудзе над вухам
Надакучліва, як авады,
Сыпле блытаных слоў пацярухай,
Быццам ліха прынесла сюды.
— Маёй Лёньця ня чуе размовы?—
Голас Янкаў салодкі як мед,
— Ды скажы хоць адзінае слова,
Ты ня чуеш, бо сэрца, як лед!—
З разамлелаю постацьцю кволай
Ён шукае дзяўчыны плячо,
А Лёнька была невясёлай
І пагарда гарэла ў вачох.
— Кінь ты, Янка! Табе я ня роўна,
Галавы ты маёй ня бунтыр,
Я дачка удавы—бандароўны,
А твой бацька шляхцюк—багатыр!

VIII

Цымбалаў гучны звон—
Раз! Раз!
Ды ня выходзяць з сэрца вон
Словы абраз.
— Ды ладна, глянем надалей

Яе з Алесем лёс,
Пабачым хто каго здальней,
А я скакаць панёс.
Янінку, проша, вальс адзін,
Скакаць Вы вельмі здольны,
Хоць будзе злосьціць Бернардын
Затое—мы давольны!?

IX

Спаўночы поўнік твар узьняў
Нястомлены, яскравы;
Ой, позна! Сходу старшыня
Сьпяшае скончыць справы.
— Ніхто ня мае прапаноў?
Ёсьць? Дык кажы Мацею!
— Кажу я ўсім пайсьці дамоў,
Бо досыць папацелі!
— Ды кінь, Мацею, сьціхні там,
На ўсё ў нас ёсьць парадак!..
Хто? Лёнька нешта скажа нам,
Давай, паслухаць рады.
— Мы заўтрашні адзначым дзень
Прыгожаю навінкай.
Каб згінуў дзён мінулых цень
Над белым тым будынкам,
Хай заяскравіцца над ім
Агонь чырвонай „зоркі“:
Гартуе вобразам сваім
Працоўныя задворкі!
— Ды што тут! Згодны ўсе з табой!—
Гудзе людзкі супольны рой.

X

Раз!
Давай!!
Два!
Давай!!
Усьпёрлі.
Э-э-э-х-х!..
Узьлезла...
Высока трохі!
Дык што ты хочаш?—
Гэта-ж другі паверх.

У Лёнчыных руках ірдзіцца
Чырвонай „зоркі“ пяцірог.
— Гэй, хлопцы, хто наверх?—
А па драбіне бліскавіцай
Алесевых мільганьне ног.
— Сачэце, хлопцы, за драбінай!—
Зірнуў у ніз вясёлы твар,
З лагодай Лёньцы погляд кінуў,
І зрок гарэў, як дзень бяз хмар.
А Лёнька з нейкаю трывогай
Перавяла да нізу зрок...
Там Янка гэты ля суногі,
І ў сэрцы жудасьць шыбчыць крок.
А Янка туліць долу вочы,
Ён раптам, бяз ніякіх слоў,
Пачуў, пачуў спалох дзявочы,
І ў сэрцы хваляй б'ецца кроў.
Таму засталася... два крокі,
Вось зараз ступіць ён на дах;
Сьвятлее Лёнчын зрок глыбокі,
Вясёласьць бліскае ў вачах.
І чуе Янка—мімавольна
Рука ўздымае ніз драбін,
І ён спачатку ўсё павольна,
А раптам... момант вось адзін—
...драбіны ўпалі.
Алеся рукі замільгалі...
І Лёнчын праразьлівы крык...
Зьвязалі жудасьцю язык,
І сэрца ўскалыхнулі жалем...

XI

Не ў зялёным лесе, не ў гаі цямненькім
Пазагінула твая галованька,
Ты устань, устань, мой маладзенькі,
Ды прамові мне хоць слованька.
Я-ж твая адзіная каханая,
І адным табой мне сэрца ўзрушана,
Ды й нашто-ж цяпер твая жаданая
Гэткім болем—жалем скрушана.
Не цалуй ты, вецер, твару белага,
Ня зьвівай валос пярсьцёнкамі,
Ты ўзбудзі—ўзьнімі зьмярцьвелага,
Вярні вуснам словы звонкія!

А. Аляксеяў

# На прадвесьні

Раздарожжам лапоча ручэй,
Неба стала сафір з аксамітам,
Палахлівы птушыны узьвей
Размаўляе з высокім блакітам.

Атуляе пяшчотліва твар
Нясупынны, рухавы вятрыска,
Раскудлаціў кавалачкі хмар
Параскідываў белаю нізкай.

Мне з табою, вясёлы віхор,
Ой, ляцець-бы далёка, далёка,
Калі ў сэрцы нястрымлівы хор,
Веснавейнае радасьці клёкат!

Па абрусах суцішных палёў
Ой, ды й выбухнуць гучнаю песьняй,
Заімкліўленай хваляю слоў—
Прывітаць родны край на прадвесьні!



С. Законьнікаў

* * *

Песьні пахавальныя
Пралятаюць міма,
Адгалоскаў суму
Зьнікне ў сэрцы сьцень.
Лашчыцца сьмяецца
Сьветлымі вачыма
Шматчаканы новы
Прамяністы дзень.
Дзень ня той, што ўчора
Плакаў недародам
І ў парванай сьвітцы
На марозе стыў—
Новы дзень электрыкі,
Фабрык і заводаў,
Дзень шумліва-сьпелых
Ураджайных ніў.
І ў нямую цемень
Вузкіх перавулкаў
Пабяжыць электрыка
Па драту сьвятлом.
У куту, ня біблію,
Старэнькі дзядулька
Будзе чытаць Леніна
Або Маркса том...



У. Ермаковіч

* * *

Ціхі вечар абшары песьціў,
І над травамі слаліся цені...
Я душу разьліваў на песьні,
На жывыя жыцьця лятуценьні.

І каціліся песьні у далі,
Расьсьцілаліська, як сівы туман,
А сьцюдзёныя росы-крышталі
На травяны спушчаліська дыван.

Ў гэты вечар, чароўны вечар,
Мы спаткаліська з табою ля гаю...
Быццам ціхі гульлівы вецер,
Ты шаптала: „цябе кахаю“.

Я-ж казаў: трэба нам разьвітацца '
І салодыч каханьня забыць.
Мо' ня прыдзецца болей спаткацца
У жыцьці гэта ўсё можа быць...

Вунь на захадзе, ўсходзе, на поўдні
Кроў працоўных ліецца ракой.
Маладыя, бадзёрыя пойдзем
На змаганьне за волю сьцяной.

Ціхі вечар абшары акутаў,
І над травамі цені слаліся...
І, уносячы суму скутак,
На заўсёды мы з ёй разьвіталіся.

Гэнрых Гэйнэ

# Лёрэляй

Ня ведаю, што гэта значыць,
Што жаль агарнуў душу—
Адна старадаўняя казка
Зьвініць і зьвініць у вушшу.

У вохкім вячэрнім паветры
Над хвалямі Рэйну ўгары
Сьвіцяцца крутыя вяршыні
У зьяньні вячэрняй зары.

Сядзіць на гары дзяўчына
Чароўнай, дзівоснай красы:
Блішчаць залатыя пярсьцёнкі,
Рассыпаліся валасы.

Пяе яна песьню і чэша
Грэбенем іх залатым:
Ліецца, як сьветлыя хвалі,
Прызыўна-ласкавы мотыў.

Рыбак у чаўне маленькім
Вяслуе за песьняю ўсьлед:
Ня бачыць ні скал, ані рыфаў,
Забыўся на цэлы сьвет.

Дык-жа перакуліцца човен!
Рыбача, мой дружа, знай—
Ня першага так спакушае
Пяяньнем сваім Лёрэляй.

Пералажыў з нямецкай
мовы А. Мардвілка.

Уільлям Шэкспір

# Сонэты

## 1

Бывай, бывай! Ты надта дарагая
І надта ўжо сабою даражыш.
Замкнулася дарожка кругавая,
Спаткаліся з табою ля мяжы.

Ты з ласкі абяцала мне удачу,
Твайго багацьця я не заслужыў:
Нічым, нічым за ласку не аддзячыў,
І свой патэнт да ног тваіх злажыў.

Дала ты права мне, забыўшы кошты,
І зараз-жа адчула мой цяжар.
Незадаволена, памылка, дык чаго-ж ты?
Бяры сабе назад вялікі дар.

Я ў лятуценьнях радаваўся многа,
Я сьніў цябе—і вось няма нічога.

## 2

Скажы, няхай пакрышыць сэрца боль,
Што тут мая віна, мая загана,
Што недарэчны я перад табой—
Прыму твой доказ дужа паслухмяна.

Ты не пакрыўдзіш, любая, мяне,
Шукаючы сама сабе адказу,
Як дальні пыл, знаёмства праміне,
Я сам сябе пакрыўджу за абразу.

Шляхі расходзяцца, як-бы ніколі
Твайго імя прыгожага ня чуў.
Каб не зьняважыць памяць мімаволі,
Перад людзьмі пра шчасьце прамаўчу.

З сабою за цябе пачну змагацца:
З кім *ты* ня хочаш, *я* ня хочу знацца.

## 3

Цяпер мяне найлепей ненавідзець,
Калі жыцьцё зацiснула бадай.
Твая бяда з маёй бядою прыдуць
Як добрыя сябры. Не адкладай!

Яшчэ не перамог я лютай скрухі,
Сябе ў апошні шэраг ты ня стаў:
Не насылай вячэрняй завірухі,
Тады, як дожджык раньні перастаў.

Калі рашылася, чаго марудзіць?
Гасі каханьне, бо гараць агні.
Няхай шчымяць, няхай-жа рвуцца грудзі!
Адразу і навекі прагані.

Расколюцца пакуты на драбніцы
Ад пяруна растаннай навальніцы.

Пералажыў з ангельскай
мовы Ю. Гаўрук

Юрка Гаўрук

# Дума

Праходзім мы ў шуканьнях самых розных,
у дутай радасьці гатовыя старацца,
часамі сумам паліваем росным
мастацтва.

Адны здаволены, другія ў перамозе,
паперад бацькі хочуць паказацца.
І гнеў і ласка на тваёй дарозе,
мастацтва!

Няма на сьвеце крыўды больш балючай,
калі над праўдай можна ўсім сьмяяцца.
І пачалі таптаць пятой калючай
мастацтва.

Прапала дружба, ворагі ў завулках
скрывілі вочы, каб не адазвацца.
На Беларусі застагнала гулка
мастацтва.

Гурток і сход зьмянілі на дэбошы,
а шлях адзін—хутчэй каб надарвацца,
і выстаўляем брудныя галёшы:
мастацтва.

Цягнік жыцьця бяжыць па рэйках сьмерці,
а ня шукаем роспачы змагацца:
куплёнай гумачкай адважваемся церці
мастацтва.

Як брыдка, сорамна, ня сьмешна, браце,
навошта кулачкамі падпірацца?
Блісnуць на хвілю, але ў сьветлай шаце
мастацтва!

Мы гордыя, мы сілы многа маем,
па сьцежках топтаных ці нам таптацца?
Няхай зьвініць і плача па-над краем
мастацтва!

26/XI 1927 г.
г. Горкі

В. Бухаркін

# Лірычны фэномэн

## I.

Лірыка—пераважна суб'ектыўная поэзія. Такое найбольш распаўсюджанае вызначэньне гэтага жанру. Вядома, гэта верна. Але ў якім сэнсе? Толькі ў адным, а іменна: лірычны пачатак з усіх відаў поэтычнай творчасьці найменш зьвязаны прадстаўленьнем. Але ці ёсьць гэта аўтономія адносна вобразаў і тады ў чым-жа выяўляецца іманэнтная стыхія лірыкі? Хіба ў рытме? І сапраўды, чым дрэннае, прыкладам, такое вызначэньне: *лірыка* ёсьць слоўнае выяўленьне рытмічна настроенай „душы". Гэтае вызначэньне было-б зусім добрым, калі-б мы разумелі сапраўдны характар сувязі паміж тымі пачаткамі, якія намечаны ў прыведзенай формуле г. зн. паміж словам і рытмам. Іменна ў пастаноўцы гэтага пытаньня і знаходзіцца проблема лірыкі, як поэтычнага жанру.

Разгледзім з гэтага пункту гледжаньня адрывак з Пушкінскай „Осени", якраз X і XI стансы.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
И забываю мир, и в сладкой тишине
Я сладко усыплен моим воображеньем,
И пробуждается поэзия во мне:
Душа стесняется лирическим волненьем,
Трепещет и звучит и ищет, как во сне,
Излиться наконец свободным проявленьем—
И тут ко мне идет незримый рой гостей,
Знакомцы давние, плоды мечты моей.

XI.

И мысли в голове волнуются в отваге,
И рифмы легкие навстречу им бегут,
И пальцы просятся к перу, перо к бумаге,
Минута и стихи свободно потекут.

Так дремлет недвижим корабль в недвижной влаге;
Но чу!... матросы вдруг кидаются, ползут
Вверх, вниз—и паруса надулись, ветра полны:
Громада двинулась и рассекает волны.

XII

Плывет... Куда-ж нам плыть?—Какие берега
Теперь мы посетим? Египет колоссальный,
Скалы Шотландии, иль вечные снега!..

У гэтых славутых стансах Пушкін дае нам ня толькі поэтычную фэномэнолёгію лірыкі, але ён раскрывае і *ансамбль* лірычнага настрою кля-

сычнае пары. Яго можна выразіць адным словам,—*пэйзаж*, як адзінства прыроды і быту. Лірычны настрой поэты зараджаецца ў абстаноўцы вольнага сузіраньня „шырокага“ пэйзажу і разгортваецца ў прытульнасьці асабовага быту:

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Но гаснет краткий день и в камельке забытом
Огонь опять горит; то яркий свет лиет,
То тлеет медленно; а я под ним читаю,
Иль думы долгие в душе моей питаю.

X.

И забываю мир і г. д...

Пры ўсёй рознастайнасьці мотываў клясычнай лірыкі, ня гледзячы на выключную вастрату і паглыблёнасьць перажываньняў, замацаваных у любым з вершаў Пушкіна, Тютчава, Фэта і др., гэта,—перш-на перш скульптурныя цэлыя. Яны *накіраваны* не прозаічна абмеркаванай мэтай. У аснове іх ляжыць домінанта *закончанай* і саманакіраванай формы. Гэта магчыма толькі таму, што сьвядомасьць клясычнай пары ёсьць формальная сьвядомасьць: чалавек ня проста робіць так ці гэтак, яго паводзіны „адліваюцца“. Пэйзаж і зьяўляецца такой унівэрсальнай формай перажываньня клясычнага індывідууму.

Бязумоўна, такая структура „душы“ адбівае якіясьці і монумэнтальныя устоі соцыяльнага быту; адбівае і, разам з тым, пачывае на іх. Гэта—*арыстократычная культура*. Бо ўсе-ж расейскія клясычныя поэты (да Буніна уключна)—поэты шляхецкай сядзібы. *Гэта* ў іх зьяўляецца соцыолёгічна найбольш характэрным.

Зьвярнеце увагу, напр., на наступныя моманты Пушкінскай поэтыкі: 1) культ „рэштак“ старасьветчыны; 2) культ маёнтку; 3) лірычная інтымнасьць дробязяй.

Пяройдзем цяпер да аналізу лірычнага процэсу, паскольki ён выражаны ў зьмесьце адрыўку:

— И забываю мир, и в сладкой тишине
Я сладко усыплен моим воображеньем.

Значыцца, каб увайсьці ў лірычны стан патрэбны дзьве папярэднія і, як відаць, неабходныя умовы: „забыцьцё“ сьвету і „салодкая“ цішыня, усыпленьне.

Аб якім сьвеце гаворыць поэта? Што трэба дзеля таго, каб лірычна настроіцца? З вершаванага контэксту відаць, што пад сьветам поэта разумее надворную і прадметную сувязь здарэньняў... Той сьвет бясконца рознастайных і *об'ектыўна* абумоўленых зьяў, што заўсёды гэтак пагражаюць *асабоваму* настрою.

Такім чынам, першы акт лірычнага *перадпроцэсу* складаецца з таго, што лірычны суб'ект вольнай актыўнасьцю выбражэньня выключае сябе з бяссуб'ектнага асяродзішча. Тое, што надыходзіць пасьля гэтага, г. зн. ужо 2-і і апошні акт лірычнай увэртуры,—ёсьць салодкая цішыня, салодкае усыпленьне...

Але тут важна, ізноў-жа, адзначыць, што гэтая цішыня і гэтае усыпленьне не ад пасыўных лятуценьняў, а ад выбражэньня,—пачатку творчага і вялявога. І мне здаецца, што найбольш правільнае тлумачэньне

гэтага месца зводзіцца да наступнага: поэта бясспрэчна гаворыць аб супакоі, які надыходзіць за рэзыньяцыяй „сьвету“, але гэты супакой ёсьць толькі вызваленьне ад прывычнага парадку думак, а магчыма і *ведаў* наогул. Гэта—інтэлектуальная няпрытомнасьць, ці яшчэ лепей, інтэлектуальны штыль.

Але таму, што прычына яго ляжыць у вольнай дзейнасьці выбражэньня, у нейкай творчай збытэчнасьці, то і цішыня душы, яе усыпленьне—насычаны валявою энэргіяй, якая няўхільна праявіць сябе, але пакуль што стрымліваецца. Што-ж яе стрымлівае? Чаму поэта ад рэзыньяцыі адразу не ўпадае ў лірычны стан?

Усё тлумачыцца адным словам—*прыемна*. Каб магчы лірычна, трэба адарвацца ад сьвету, забыць яго... Сіла, якая гэта можа зрабіць—выбражэньне.

Выбражэньне-ж толькі ў тым выпадку можа выканаць гэтую задачу, калі яно затамуе *звычайную* плынь псыхічнага процэсу, якая складаецца ня толькі з апэрцэпцыі сьвету, але і нутранога ўспрыйманьня самога нашэльніка псыхічнага акту—*асобы*. Дык вось, апроч забыцьця сьвету трэба ўкалыхаць і самога сябе і гэтае калыханьне прыемна. Атрымліваецца своеасаблівая замкнёнасьць шляху, які вядзе да лірычнага стану: 1) узмацненьне дзейнасьці выбражэньня за кошт аслабленьня другіх актаў нормальнай сьвядомасьці (паводзін); 2) рэзыньяцыя надворнага сьвету; 3) рэзыньяцыя нутранога псыхічнага сьвету,—салодкая цішыня, салодкае усыпленьне, якое зьяўляецца ў той-жа час поўнай перамогай творча напружанай, хоць яшчэ і непраяўленай волі (выбражэньня).

И пробуждается поэзія во мне—

Што гэты радок гаворыць не аб прабуджэньні мысьлі, а аб прарыве чыстай, хоць і творчай, волі даводзіцца далейшым:

> Душа *стесняется* лирическим *волненьнем*,
> Трепещет, и звучит, и *ищет как во сне*,
> Излиться наконец *свободным* проявленьнем.—

„Душа стесняется лирическим волненьем“... Гэта ясна пасьля ўсяго сказанага вышэй: „салодкая“ цішыня на справе хавае ў сабе найвялікшую буру, тайфун волі...

Але вось „трепещет“ і „звучит и ищет как во сне“...

Як зразумець гэтае месца? Бязумоўна, гэта ўжо не пачатак лірычнага процэсу, бо ён пачынаецца тады, як сьціскаецца хваляваньнем душа. Тут нейкі новы акт і, пры ўсім тым, надзвычайна важны дзеля разуменьня сутнасьці лірычнага процэсу. Адзначым галоўнейшыя моманты гэтага дзівоснага радка.

Па-першае, *несьвядомасьць* таго руху, што выклікаецца ўсхваляваньнем души ...„и ищет как во сне“. Шукае сама ня ведае чаго і зачым. Значыцца, лірычны рух яшчэ не мотываваны і бязвобразны нават і ў тэй яго фазе, на якую паказвае прыведзены радок.

Па-другое, рытмічнасьць руху. Душа „трепещет“ і „звучит“. Тое сьціскаваньне і хаотычнае хваляваньне, якое адчуваў поэта пасьля „салодкай“ цішыні душы, укалыханай выбражэньнем, набывае якуюсь *мернасьць* і, што асабліва важна адзначыць, мернасьць чыста *гукавога* парадку.

Излиться наконец свободным проявленьем.—

Мне здаецца якраз тут, і нідзе больш, дадзена мяжа, што падзяляе лірычны фэномэн і *музычны.* І сапраўды, душа, якая гучыць, душа мерная можа вольна выліцца і ў чыста тональнай мэлёдыі, г. зн.—складаны процэс узбуджэньня, асноўныя фазы якога мы зазначылі, можа праявіцца і музычна. У чым-жа асаблівасьць лірычнай праявы? Аб гэтым кажуць два заключныя радкі X стансу:

И тут ко мне идет незримый рой гостей,
Знакомцы давние, плоды мечты моей.

Зьяўляюцца вобразы. Толькі тут мы сустракаемся з імі, але яшчэ няясна, у якую-ж сувязь яны ўвойдуць з пачаткам рытмізаванай волі. Аўтар кажа пра рой думак, што, напэўна, трэба разумець як пэўнае багацьце і рухавую злучнасьць іх. Думкі яшчэ зблытаны, ім не хапае яскравасьці меж.... І затым гэта ня проста думкі, думкі наогул, а „знакомцы давние, плоды, мечты моей“. І ці не адсюль іх „ройнасьць“. Яны такія суб'ектыўныя, такія блізкія душы поэты, такія інтымныя, што тое ў іх, што ад мысьлі, зьліваецца з тым, што ад волі.

И мысли в голове волнуются в отваге
И рифмы легкие навстречу им бегут...

Раней душа сьціскалася лірычным хваляваньнем і шукала, як ва сьне, а цяпер думкі адважна хвалююцца. Туманны рой вобразаў гусьцее і ператвараецца ў *пэўныя* думкі. Што-ж зьяўляецца прынцыпам гэтага важнага процэсу раскладу *рою вобразаў* на *шэрагі думак.*

И рифмы легкие навстречу им бегут.—

Рыфма і ёсьць той прынцып, які, зьяўляючыся працягам гукавога рытму, неабходны дзеля мысьлявога вырашэньня „масы вобразаў“, якая ўводзіцца ў лірычны процэс на вядомай стадыі яго разьвіцьця.

Тут нам могуць супярэчыць так: ёсьць' асобныя вершы і нават цэлыя поэтычныя эпохі і нават поэтычныя культуры, якім неўласьціва рыфма.

Але гэтае пярэчаньне мела-б сур'езны сэнс толькі пры умове нязвычайна вузкага, хоць і вельмі распаўсюджанага разуменьня рыфмы, іменна, як *надворнай* рыфмы. На справе-ж функцыя рыфмы ляжыць у дапасаванасьці гукавых элемэнтаў і аднага радка і паміж сурова вызначанымі групамі радкоў, і з пункту гледжаньня такога разуменьня рыфмы ёй падлягаюць абсолютна ўсе лірычныя творы.

Значыцца, сутычка душы ў процэсе мернага гучаньня з роем думак, што адважна хвалююцца, пераходзіць у закончаны верш, дзякуючы рыфме. Як ідзе гэты процэс рыфмізацыі мы ня ведаем, пакуль важна толькі адзначыць новы прынцып і яго сапраўдную ролю ў процэсе станаўленьня вершу.

И пальцы просятся к перу, перо к бумаге,
Минута... и стихи свободно потекут.

У Пушкіна верш цячэ вольна. Для яго патрэбна толькі хвіліна, каб думкі адзеліся ў рытмічныя гукі (мэтра-рыфмы). Але гэта, так сказаць, ідэальныя умовы лірычнай творчасьці. Бывае і йначай (часьцей за ўсё): хвіліны робяцца гадзінамі, а вершы не цякуць „вольна“, прыходзіцца займацца перакрэсьліваньнямі і выпраўленьнямі. Але гэты бок справы

адносіцца ўжо да спэцыяльнай тэорыі майстэрства, сутнасьць-жа лірычнага фэномэну зводзіцца да сказанага вышэй. На адрыўку з Пушкінскай „Осени“ мы разгледзелі лірычны фэномэн клясычнай пары з чыста эмбрыолёгічнага пункту гледжаньня, г. зн., мы разгледзелі яго ў процэсе яго ўзьнікненьня і разьвіцьця. Але гэтым выканана толькі частка задачы хоць і вельмі важная. Застаецца прааналізаваць лірычную зьяву ў выглядзе *закончанага вершу*—статыка вершу.

У лірычным процэсе, узятым у цэлым, можна намеціць тры фазы:

I фаза. Лірычны уступ (перадпроцэс), які характарызуецца трыма актамі, што складаюць разам цэльны і бесьперарыўна-дынамічны кругазварот: 1) узмацненьне дзейнасьці выбражэньня за кошт аслабленьня другіх актаў нормальнай сьвядомасьці; 2) рэзыньяцыя навакольнага сьвету; 3) рэзыньяцыя „нутранога“ сьвету.

II фаза. 4) Лірычны хаос. 5) Мэтрызацыя лірычнага процэсу і яго падсьвядомае імкненьне да разьвязваньня.

III фаза. 6) Зьяўленьне конкрэтных вобразаў. 7) Сутычка мэтраванага ліра-процэсу з „роем“ вобразаў. 8) Зьяўленьне рыфмы. 9) Рыфмаваны верш.

IV фаза. Тэхніка літаратурнага выразу, выходзячы за межы ўласна лірычнага перажываньня, можа скласьці чацьвёртую фазу працы над вершам.

## II.

Цалкам навуковая агульнага значэньня поэтыка вершу можа быць створана толькі на падставе тэорыі лірычнага процэсу. Будаваць-жа гэту тэорыю трэба не на аналізе поэтычнай творчасьці аднэй, хоць-бы і самай цікавай эпохі, а, па магчымасьці, на аналізе розных эпох, ці хоць-бы эпох, найбольш тыповых. Таму для проверкі і „выпраўленьня“ нашай схэмы лірычнага процэсу мы зьвернемся да поэтычнай творчасьці двух расейскіх поэтаў, якія, з аднаго боку, у высокай ступені чужыя духу Пушкінскай лірыкі, а з другога—зьяўляюцца прадстаўнікамі настолькі розных эпох, што разглядзеўшы іх, мы, сапраўды, вычарпаем усё лірычна тыповае. Мы разумеем Някрасава і Маякоўскага.

Мы ведаем як рэзка, амаль да процілегласьці, адрозьніваецца лірычная домінанта Някрасава ад домінанты Пушкіна, якія неаднолькавыя формы соцыяльных адносін яны выражаюць. Але ці можна ўкласьці поэтычную творчасьць другога ў схэму лірычнага процэсу першага? Адказ можа быць толькі станоўчы, але з аднэй істотнай папраўкай: *самаздаваленьне* Пушкінскага натхненьня ў Някрасава замяняецца надворна-вершавай мэтай, для якое лірычна разгорненая тэма ёсьць толькі сродак. Аполон заменьваецца разважлівым богам эмоцыянальнага разьліку. Наступнае супастаўленьне, не адкрываючы нічога новага, ўсё-ж надзвычайна характэрна:

„Поэт“ Пушкіна—

Пока не требует поэта
К священной жертве Аполлон,
В заботах суетнаго света
Он малодушно погружен.

„Рыцарь на час“ Някрасава—

*От ликующих, праздно болтающих,*
Обагряющих руки в крови,
*Уведи меня в стан погибающих*
За великое дело любви!

Поэта зьвяртаецца да маткі і яго просьба, як відаць, ня мае адносін да поэзіі. Нібы ён просіць дарагі вобраз натхніць яго не на лірычную творчасьць, а на грамадзянскі ўчынак.

Але гэта няверна. Усё развражаньне, выклікане магутным малюнкам расейскай прыроды ноччу і ўспамінам аб памершай мацеры (сымбаль пакутніцы Расеі), па сутнасьці наскрозь лірычная споведзь, грамадзянскае прызначэньне якое зводзіцца да стварэньня вершаў—„плачаў“.

В эту ночь я хотел бы рыдать
На могиле далекой,
Где лежит моя бедная мать...

Такі характар Някрасаўскай лірыкі: не асалоду, ня ўцеху душэўную дае яна, а *пакуту*.

І Някрасаў і Пушкін, як поэты, сходзяцца ў сваёй нянавісьці да нікчэмнай і бруднай абыдзеннасьці, але тут-жа вызначаецца і грунтоўная розьніца. Пушкін у натхненьні адкідае сьвет цалкам. Ён—

К ногам народного кумира
Не клонит гордой головы.

Ясна, што ў народныя куміры пападае і сам народ, чалавецтва, увесь сьвет наогул у яго прывычнай інэртнасьці, якая паглынае ўсё індывідуальна-значнае, яркае.

И звуков и смятенья полн—

Поэта ўцякае ад сьвету, каб сузіраць яго, як „пэйзаж“. Някрасаў-жа ненавідзіць людзкі сьвет таму, што ён яго любіць і натхніць яго можа толькі ачышчаны, ідэалізаваны вобраз чалавецтва, на фоне магутнай прыроды.

Але гэтай розьніцай лірычных процэсаў усё і вычэрпваецца. Устаноўка „прозаічнай“ мэты домінуе ў Някрасава над процэсам натхненьня, якое разьвіваецца зусім не прозаічна і не па разьліку.

На жаль мы ня маем у літаратурнай спадчыне Някрасава такіх твораў, каб зьяўляліся прадуктам лірычнай самасправаздачы. Але ёсьць тысячы бясспрэчных паказаньняў, пасьведчаньняў істотнай аднолькавасьці схэм лірычнага процэсу абодвых поэтаў.

Агульнавядома, напр., што ўлюбёным звычаем Някрасава было вымаўленьне пры складаньні вершаў у голас, спацыруючы па пакоі. Зразумець-жа гэту асаблівасьць яго поэзіі можна толькі ў тым выпадку, калі дзеля яго словы і вобразы былі толькі *рытмаваным* разьвязваньнем адвечнай у „душы“ поэты барацьбы паміж рытмічным імпэтам і хаосам думак, праўда, у дадзеным выпадку ўзятых пад абстракцыю „грамадзянскай павіннасьці“.

III.

Але, каб дасканала і канчаткова давесьці наша палажэньне аб аднастайнасьці лірычнага процэсу, пры ўсіх адменах яго ансамбляй у розных поэтаў, у розныя эпохі, мы зьвернемся да разгляду творчасьці поэты, які, з аднаго боку,—трубадур сучаснай лірыкі і ў той жа час найбольш чужы духу клясычнай поэзіі. Гэта—Маякоўскі.

На шчасьце, сам поэта зрабіў спробу, і надзвычайна ўдалую ў арт. „В Мастерской стиха“*) разабрацца ў процэсе сваёй лірычнай твор-

*) Новый Мир № 8–9 за 1927 г.

часьці. Яго дадзеныя вельмі добра сьцьвярджаюць сапраўднасьць нашай схэмы лірычнага процэсу. Важнасьць гэтых дадзеных прымушае спыніцца на іх крыху падрабязьней.

„Найбольш актуальна-чынным з апошніх маіх вершаў—піша Маякоўскі,—я лічу—„Сяргею Есеніну“.

Для яго ня прыйшлося шукаць ні журналу, ні выдаўца—яго перапісвалі да надрукаваньня, яго цішком выцягнулі з набору і надрукавалі ў провінцыяльнай газэце, чытаць яго вымагае сама аўдыторыя, у часе чытаньня чутна як лётаюць мухі, пасьля чытаньня людзі цiснуць лапы, у кулуарах шалеюць і выхваляюць, у дзень выхаду зьявілася рэцэнзія, адначасова з лаянкай і з компліментамі.

Мы прыводзім частку гэтага вершу:

Вы ушли
как говорится
в мир иной.
Пустота...
летите,
в звезды врезываясь.
Ни тебе аванса,
ни пивной.
Трезвость.
Нет, Есенин,
это
не насмешка,
в горле комом
не смешок.
Вижу!
взрезанной рукой, помешкав,
собственных
костей
качаете мешок.
Прекратите,
бросьте!
вы
в своем уме ли?
Дать,
чтоб щеки
заливал
смертельный мел?
Вы-ж
такое загибать умели,
Что другой
на свете
не умел.
. . . . . . . . . . . . . . . .

„Як рабіўся гэты верш?“ Верш Маякоўскага напісаны з прычыны сьмерці асобы, з якой ён быў „знаёмы дауно“—гадоў дзесяць—дванаццаць. Але гэта акалічнасьць занадта агульная. Аўтар паказвае, што вельмі важна, і на бліжэйшы імпульс да творчасьці,—на апошнія радкі Есеніна:

В этой жизни умирать не ново.
Но и жить, конечно, не новей...

Яны выклікалі рэакцыю творчага адпору, адначасова, і соцыяльнага і індывідуальна-псыхолёгічнага.

„Пасьля гэтых радкоў сьмерць Есеніна стала літаратурным фактам. Адразу стала ясна—колькі хісткіх гэты моцны верш, іменна верш, падвядзе пад пятлю і рэвольвэр. І ніякімі, ніякімі газэтнымі аналізамі ды артыкуламі гэты верш не скасуеш. З гэтым вершам можна і неабходна змагацца вершам і толькі вершам. Так поэтам быў дадзены *соцыяльны заказ* (падкр. мною) напісаць вершы пра Есеніна. Заказ выключна важны і тэрміновы, бо есенінскія радкі распачалі справу хутка і трапна. Заказ шмат хто прыняў. *Але што напісаць? Як напісаць?*" (падкр. мною).

Прыведзены намі ўрывак вельмы паказальны. Замест Пушкінскай, клясычнай, несьвядомасьці натхненьня, якое нечакана і бурна захоплівае поэту—

Но вот божественный глагол
До слуха чуткого коснется
Душа поэта встрепянется
Как пробудившийся орел...

замест яснай мяжы між бытам і яго лірычным перажываньнем, мы бачым тут поўную адсутнасьць такой мяжы. Есьць рацыяналістычнае афармленьне пераходу. Над усім пануе прынцып *па-за лірычнай мэты*.

„Што-ж і як напісаць пра Есеніна? Аглядаючы з усіх бакоў гэту сьмерць і чужы матар'ял (маюцца на увазе вершы Безыменскага, Жарава ды інш. поэтаў, напісаныя пра Есеніна) я сформуляваў і паставіў сабе задачу.

*Мэтавая устаноўка* (падкр. мною): абдумана паралізаваць уплыў апошніх Есенінскіх вершаў, зрабіць есенінскі канец няцікавым, паказаць замест лёгкай прыгожасьці сьмерці іншую прыгожасьць, бо ўсе сілы патрэбны рабочаму чалавецтву дзеля рэвалюцыі, і яно, ня гледзячы на цяжкасьці, на контрасты нэпу, патрабуе, каб мы славілі радасьць жыцьця вясёласьць працоўнага маршу і камунізм".

Як кажа аўтар, пачынаць было да болю цяжка. Праходзілі тыдні, а работа не пасоўвалася. „За тры месяцы я ня прыдумаў ніводнага радка". Аднэй з прычын такога затрыманьня лірычнага процэсу поэта лічыць абставіны. „Абставіны ўкручвалі, не давалі выбрацца, не давалі ні адчуваньняў, ні слоў.... Адгэтуль амаль правіла: каб зрабіць поэтычную рэч неабходна зьмяніць месца альбо час"...

„Добра пачынаць пісаць верш пра першае мая так у лістападзе ці ў сьнежні, калі гэтага маю сапраўды да зарэзу хочацца. Каб напісаць верш пра ціхае каханьне, едзьце ў аўтабусе № 7 ад Лубянкі да плошчы Ногіна. Гэта агідная трасяніна найлепш дапаможа ўявіць вам прыгожасьць іншага жыцьця. Трасяніна неабходна для параўнаньня. ...Уменьне ствараць адлегласьці і арганізоўваць час (а ня ямбы ды харэі) павінна стаць асноўным правілам усякага вытворчага поэтычнага падручніка".

Верш пра Есеніна поэту ўдалося „крануць" на контрасьце перажываньня „Мясьніцкая і провінцыя", бо ў апошняй яму давялося правесьці некалькі месяцаў. Зьяўляецца *рытм*—„аснова ўсякай поэтычнай рэчы, які прасякае яе *гулам*. Паступова з гэтага гулу пачынаеш выцягваць паасобныя словы". Дальш ідзе прыгожае апісаньне лірычнага процэсу. —„Некаторыя словы проста адскакваюць і не вяртаюцца ніколі, другія затрымліваюцца, варочаюцца і выварочваюцца па некалькі дзесяткаў разоў, пакуль не пачуеш, што слова стала на месца... Першым. часьцей за ўсё, выдзяляецца галоўнае слова—галоўнае слова, якое *характары-*

*зуе сэнс вершу* (падкр. мною), альбо слова, што пойдзе на *рыфмоўку* (падкр. мною). Рэшта слоў прыходзіць і ўстаўляецца ў залежнасьці ад галоўнага. Калі ўжо асноўнае гатова, раптам зьяўляецца адчуваньне, што рытм рвецца—не хапае нейкага *складзіку*, *гучыку* (падкр. мною). Зноў пачынаеш перакройваць усе словы, і работа даводзіць да шаленства".

Але адкуль бярэцца асноўны гул—рытм? Поэту гэта *невядома*, але ён лічыць яго не па-за сабой, а ўнутры сябе. Для абуджэньня яго павінен быць нейкі знадворны штуршок. Маякоўскі лічыць, што рытм можа быць *нязьменным* у самых рознастайных вершах. Цікавае прызнаньне— „З мэтраў — я ня ведаю ніводнага... Мэтр у мяне — вынік пакрыцьця гэтага рытмычнага гулу словамі, якія выклікаюцца мэтавай устаноўкай"... Такім чынам, мы бачым, што ў разьвіцьці вершавага раду кіруючую ролю адыгрывае мэтавая устаноўка і рыфма, ня толькі знадворная, але і ўнутраная—(„складзік", „гучык" паводле тэрмінолёгіі Маякоўскага).

Вось як апісвае гэты процэс Маякоўскі ў дачыненьні да вершу „Сяргею Есеніну":

„Спачатку верш Есеніна проста мармытаўся, прыблізна, так:

та-ра-ра̀ | ра-ра̀ | ра-ра̀ | ра-ра̀ | ра-ра̀... і т. д.

Пасьля выясьняюцца словы—

Вы ушли рара рарара, в мир, в иной і т. д...

Дзесяткі разоў паўтараю, прыслухоўваючыся да першага радка—

Вы ушли рарара в мир, в иной и т. д...

Ідзе падбор слоў і параўнаньне тыпаў слоўнага запаўненьня радка. Напр:

I. Вы ушли, Сережа, в мир в иной...
II. Вы ушли бесповоротно в мир в иной
III. Вы ушли, Есенин, в мир в иной.

Вынікі параўнаньня і агульнай ацэнкі рэзка адмоўныя.—„Усё дрэнь", бо не адпавядае мэтавай устаноўцы. Але ўведзена слова „как говорится", (уведзена абдумана, па прынцыпу мэтавай устаноўкі, якая патрабуе нібыта сур'ёзнага сэнсу ў радку), і радок *зроблены*.

Вы ушли, как говорится, в мир в иной.

Гэты радок асноўны, ад яго залежыць уся страфа. У далейшым вымаганьне мэтавай устаноўкі конкрэтызуецца: чатырохрадкоўе павінна быць двоістым. „Два ўрачыстыя радкі, два размоўныя, бытавыя, каб адценьвалі контрастам адны другіх. А таму, адразу, згодна з маім пераконаньнем, што для весялейшых радкоў трэба абрэзаць склад, я ўзяўся за канец чатырохрадкоўя:

Ни аванса вам, ни бабы, ни пивной
рарара̀ рара̀ рара̀ трезвость.

Пасьля даўгой працы першы радок (3) зямяняецца наступным:

Ни тебе аванса, ни пивной.

Крытэрыем выбору зноў-жа служылі два прынцыпы: мэтавая устаноўка (фальшыва ўводзіць слова „бабы") і *ўнутраная* рыфма (нехапала нейкага складзіку).

Ужо на падставе аднаго першага пачатку наступны радок скарачаецца да аднаго слова „трезвость“ і ўсё чатырохрадкоўе прыймае такі выгляд:

Вы ушли, как говорится, в мир в иной,
Может быть, летите рарарà ра
Ни тебе аванса, ни пивной—
Трезвость.

Застаецца другі радок, які неабходна неяк перапрацаваць, каб страфа была закончанай. Усе цяжкасьці падаюць на *рыфму*. Незарыфмаванай пакінуць нельга: *рассыплецца верш*. „Рыфма зварочвае нас да папярэдняга радка, прымушае ўспомніць яго; прымушае ўсе радкі, што афармляюць адну думку, трымацца разам.“*)

Прызнаньне вельмі цікавае. Яно паказвае на выключную важнасьць пачатку рыфмы ў афармленьні лірычнай тэмы, што, як мы ведаем, падкрэсьлівае і Пушкін.

Але-ж, рыфма толькі ў тым выпадку можа аформіць радок, калі яна будзе адэкватная *мэтавай* установцы. Напр., наступнае злучэньне слоў, як нездавальняючае гэтаму вымаганьню, адкідаецца:

Может быть летите... знаю вашу резвость.

Закончана-поўнае зьдзейсьненьне вышэйпаказаных пачаткаў free вершавага афармленьня рытму—мэт. установкі і рыфмы —надае чатырохрадкоўю наступны выгляд:

Вы ушли, как говорится, в мир, в иной,
Пустота. Летите в звезды врезываясь...
Ни тебе аванса, ни пивной,—
Трезвость.

Першае чатырохрадкоўе вызначае ўвесь верш. „Маючы ў руках такое чатырохрадкоўе, я ўжо мяркую, колькі такіх трэба на дадзеную тэму і як іх разьмеркаваць для найлепшага эфэкту—*архітэктоніка* (падкр. мн.) вершу... Маючы асновы строф і склаўшы агульны архітэктурны плян, можна лічыць асноўную творчую працу выкананай... Дальш ідзе параўнальна лёгкая тэхнічная апрацоўка поэтычнай рэчы“.

Цікава, што сюды, да тэхнічнай апрацоўкі поэтычнай рэчы, Маякоўскі далучае і сродкі *выразнасьці* вершу. Замест традыцыйнай стылістыкі поэта лічыць асноўным сродкам выразнасьці вобраз (выяўл. тропіка). Далей, сюды ён далучае гукавую якасьць поэтычнай рэчы—злучэньне слова з словам—„магія“ гукаў і, апошняе, *інтонацыю*. Інтонацыя ў значнай меры залежыць ад аўдыторыі: яна можа „пераконваць, прасіць, загадваць альбо запытвацца“. Адзін і той-жа верш можна чытаць у розных інтонацыях. Значыцца, паводле Маякоўскага, інтонацыя зьяўляецца *ўнутрана-знадворным* фактарам вершу. Урэшце, яшчэ адзін тэхнічна цікавы момант. Гэта—пунктуацыя... Звычайнае разьбіваньне слоў коскамі, кропка з коскай і т. д... аўтар лічыць мала выразным. Пунктуацыя павінна падпарадкавацца рытму і выяўляць усе адценьні эмоцый. Адгэтуль ламаная графіка радкоў, прыём, асабліва ўлюбёны сучаснымі поэтамі. Такое дзяленьне не стварае ні новага рытму, ні мэтру, наадварот, яно толькі адценьвае ўжо зараней, у датэхнічную фазу, афармлены рытм, „за-

*) Аўтар разумее рыфму вельмі шырока—і зусім правільна, скажам мы—„канцавое сугучча, гэта толькі адзін з бясконцых спосабаў зьвязваць радкі“.

ганяе яго беспамылкова". Толькі прынцыпам „тэхнічнага" узмацненьня і апраўдвае аўтар сваю манеру разьбіваньня радкоў, напр., так:

Пустота...
летите
в звезды врезываясь.

а не шаблённа:

Пустота. Летите в звезды врезываясь.

Нарэшце Маякоўскі спыняецца яшчэ на канцоўцы, якую ён лічыць найважнейшым (вызначальным) момантам усёй архітэктонікі вершу, асабліва дэклямацыйнага. Так, два славутыя радкі Есеніна—

В этой жизни умирать не ново,
Но и жить, конечно, не новей

не давалі супакою поэту за ўвесь час яго поэтычнай работы, вызначаючы лірычнае разьвіцьцё тэмы („робячы іншыя радкі, я ўвесь час эварочваўся да гэтых, сьвядома альбо несьвадома"), пакуль не „адмяніліся" сваёй контр'парай:

В этой жизни умирать не трудно—
Сделать жизнь значительно трудней.

---

Мы скончылі найцікавейшае прызнаньне аднаго з найбольш таленавітых і характэрных лірыкаў Савецкай сучаснасьці. Мы наўмысьля імкнуліся не прапусьціць ніводнага, нават нязначнага, моманту і больш важныя перадавалі, па магчымасьці, словамі самога Маякоўскага.

Даём рэзюмэ.

Першае, што мы павінны адзначыць, гэта самы факт *лірычнасьці* вершаў Маякоўскага. Ня гледзячы на прозаізмы асноўнага мотыву, пры няўхільным панаваньні на працягу ўсёй працы прынцыпу *мэтавай устаноўкі* перажываньні поэты глыбока *рытмічны* і гэтая рытміка несьвядома. Яна не выцякае з мэтавай устаноўкі, а прадугадваецца ёю. „Адкуль паходзіць гэты асноўны гул—рытм,—невядома. Для мяне гэта—усякае паўтарэньне ўва мне гуку, шуму, ваганьня альбо, наогул, паўтарэньне кожнай зьявы, да якой я прыстасоўваю гук. Рытм можа прынесьці і паўторнасьць марскога шуму, і слуга, што кожную раніцу стукае дзьвярыма, паўтараючыся, цягнецца, ляпаючы ў маіх адчуваньнях; і нават кружэньне зямлі ў мяне карыкатурна чаргуецца і зьвязваецца абавязкова з посьвістам узьнятага ветру".

Такім чынам, рытмічная насычанасьць, унутрана-падсьвядомыя імкненьні афармляць навакольнасьць гукамі, прысутнасьць у адчуваньнях шэрагу „рытмічных загатовак"—усё гэта такія адзнакі літаратурнай працы, якія выводзяць яе з шырокай галіны літаратурнага рамяства ў вузкае кола поэтычнай творчасьці. Мы маем справу з літаратурай sui generis. Хоць гэта здольнасьць гукавой рытмізацыі вопыту і зьяўляецца рысай, бязумоўна, устойлівай, але функцыя яе адбываецца не з адвольнай сілай. Ей патрэбен імпульс, але імпульс гэты бывае, звычайна, падрыхтаваны па-першае, мэтавай устаноўкай,—усьвядомленым запатрабаваньнем поэты на лірычную рэч *абдуманага* прызначэньня, і па-другое, рэзыньяцыяй прывычнага навакольля і *самога сябе*. Абедзьве умовы

лірычнага процэсу, умовы, абсолютна абавязковыя, звычайна адарваны ад апошняга, знаходзяцца па-за ім, бо самі *лірычна не перажываюцца*, як гэта мы маем у Пушкіна (лірычны перад'процэс). Яны проста прыводзяць мэханізм рытму ў рух, штурхаюць яго. Толькі пасьля гэтага рытм перад намі ў сваім чыстым выглядзе. Ён захапляе ўсё поле сьвядомасьці, зьяўляючыся процэсам нічым не ускладнёнай, хоць і поўнай творчых парываньняў *волі*. „Я хаджу, махаючы рукамі і мармычу яшчэ *амаль бяз слоў!* (падкр. мн.), то *скарочваю* крок, каб не перашкаджаць мармытаньню, то пачынаю мармытаць *хутчэй* у такт хадзе" (падкр. мн.). Адгэтуль відаць, што рытм набывае сваю меру, робіцца разьмеранай воляй. Потым надыходзіць, так добра апісаны аўтарам, самы цяжкі момант лірычнага процэсу—зьяўленьне паасобных слоў. Яны стыкаюцца з рытмам, каб вырашыцца ў рыфмаваныя радкі. Раўняючы гэты акт з анолёгічным Пушкінскім, мы заўважваем паміж імі істотную розьніцу. У Пушкіна „рыфма" выводзіць конкрэтную масу думак у рады сугучных радкоў *самастойна*, у Маякоўскага-ж разам з ёй гэту функцыю выконвае і „галоўнае слова" (галоўнае слова—што характарызуе сэнс вершу) генэзіс якога, відавочна, трэба шукаць у *мэтавай устаноўцы*.

Заключнай фазай процэсу зьяўляецца яго тэхнізацыя, якую, што нам вядома, Маякоўскі апісвае вельмі падрабязна, лічыць яе асновай поэтычнай працы, профэсыянальным знакам, і аб чым Пушкін сказаў з гэтакай чароўнай прастатой:

И пальцы просятся к перу, перо к бумаге,
*Минута* и стихи *свободно* потекут.

Цяпер нам застаецца толькі параўнаць дзьве устаноўленыя намі схэмы лірычнага процэсу. Кожная з іх ахоплівае ў вышэйшай ступені арыгінальныя і непадобныя адзін на другі поэтычныя продукты, якія ўзьнiклі ў ансамблі сваёй культуры. Адну з іх мы назвалі культурай *пэйзажу*, другую трэба назваць культурай „соцыяльнай масы" альбо, лепш, культурай „соцыяльнага запатрабаваньня". І яны несумяшчальны. Але, ня гледзячы на гэта ў 2-й (Маякоўскага) схэме прысутнічаюць усе асноўныя моманты лірычнага процэсу першай, праўда ў значна спрошчаным і дэформаваным выглядзе. Спрашчэньне ў тым, што багаты і цікавы працэс „раеньня" конкрэтнай думкі (думкі нявымоўнай)*) заменены інтэнсыўным рухам і змаганьнем слоў, вядома, ня пустых, а надзеленых сэнсам.

---

*) Добрай ілюстрацыяй да гэтага палажэньня зьяўляецца вядомы верш Тютчава:

Silentium

Молчи, скрывайся и таи
И чувства и мечты свои!
*Пускай в душевной глубине*
И всходят и *зайдут* оне,
Как звезды вечныя в ночи!
*Любуйся ими* и молчи!

Два вялікіх поэты расейскага клясыцызму паказваюць дзіўную фэномэнолёгію сваёй поэтычнай культуры. Але тое, што ў Пушкінскай „Осени" апісана поўна і дасканальна, у „Silentium" Тютчава сконцэнтравана ў аднэй фазе, якая зьяўляецца найбольш характэрнай у лірычным процэсе клясыкаў: гэта—вольны рух „раеньня" думак, у коле рытмізаванай волі. „Конкрэтная" думка надзвычайна па рознастайнаму рухава, але, пакуль што, ня ведае слоў (і рыфм), лірычная тэма не разварочваецца ў мотывах.

Момант дэформацыі выступае вельмі яскрава. Па-першае прагматычныя акты лірычнага процэсу (мэт. устаноўка і „рэзыньяцыя“) ня толькі спрошчаны ў тым сэнсе, што ўжо не перажываюцца лірычна, але і аддзяляюцца ад уласна лірычнага руху тэмы значным працягам часу.

Па-другое, і гэта ўжо куды важней і танчэй, кожны акт лірычнага процэсу (момант тэмы) накіраваны да трансцэндэнтнай самому процэсу мэты. Гэты славуты прыцып *мэтавай устаноўкі*, які сапраўды, адыгрывае вялікую ролю ў сучасным вершаваньні—элемэнт зусім новы, адсутнічаў у Пушкінскай (і, наогул, клясычнай) схэме, акая ведае прынцып унутранай і формальна-вершавай мэты.

У Пушкіна кожны верш мотываваны, *апроч* ансамблю навакольля (трансцэндэнтная мотывацыя), *у сабе і для сябе*. Аднесенасьць лірычных актаў да прынцыпу мэтавай устаноўкі і стварае тое спэцыфічнае „разьмеркаваньне“ іх у часе, якое зусім адсутнічала ў творчасьці Пушкіна ды клясыкаў і так падкрэсьлена ў творчасьці Маякоўскага і, відавочна, Някрасава.

Грунтуючыся на зробленым параўнаньні мы можам зрабіць наступны агульны вывад—

*Другая схэма лірычнага процэсу (Маякоўска-Някрасаўская) зьяўляецца дэформацыяй варыянту першай*—Пушкінска-клясычнай).

Вядома, што, супастаўляючы гэтыя параўнаньні, мы маем на увазе *тыповыя* выяўленьні лірычных эпох, бо і ў дні Пушкіна маглі быць Маякоўскія, у наш-жа час прыклады устаноўкі на Пушкіна ды клясыцызм ня толькі магчымы, а нават сустракаюцца вельмі часта.

Ўл. Прыбыткоўскі

# Індывідуальнасьць і сучасная літаратура*).

## I.

Хто блізка стаіць да сучаснасьці, той зауважыць, што чым дальш, тым большая зьвяртаецца увага на формаваньне індывідуальнасьці патрэбнага нам чалавека. Наша-ж задача—культурны рост усёй грамады. Адгэтуль вынікае неабходнасьць адшуканьня ўзаемасувязі паміж колектывам і індывідуальнасьцю.

Нас найбольш цікавяць індывідуальнасьці двох тыпаў: мяшчанскія і пралетарскія.

Страшэнная аднастайнасьць штодзеннага жыцьця, адсутнасьць мажлівасьці орыгінальнага творчага разьвіцьця, замкнёнасьць у сваёй сям'і—усе гэтыя адзнакі мяшчанства прымушаюць сканцэнтраваць увагу мешчаніна на сваёй істоце. Сутнасьць мяшчанства у соцыолёгічным нарысе „Мещанство“ (Красная Новь № 1—27 г.) М. Рэйснэр вызначае так: „Мещанство держится за индивид, но индивид не есть личность. Индивид есть лишь средоточие животных потребностей, привычек и стадного порыва, живущего в нем помимо его воли“. Значыць, фактары, спрыючыя разьвіцьцю мяшчанства, канцэнтруюць увагу мешчаніна на сваёй істоце, на *істоце—жывёле*. Дальш „фізыолёгіі“ мешчанін ня ідзе. Калі-ж можна гаварыць аб „мяшчанскай культуры“, дык гэта культура ні больш, ні менш, як сродак задаваленьня фізыолёгічных патрэб.

Зусім іншае—ідывідуальнасьць пралетарская. Не ўваходзячы ў дэталёвыя розьніцы між пралетарыятам і мяшчанствам мы падамо тое, што найлепш адмяжуе пралетарыят ад мяшчанства. Такую мяжу праводзіць уласьцівы, як кажа Пляханаў (К вопросу о развитии монист. взгляда на историю), толькі пралетарыяту „найвышэйшы ідэалізм“.

А мяшчанству, што ўсім вядома, уласьцівы матар'ялізм у вульгарным сэнсе гэтага слова. Я гэтым хачу сказаць, што пралетарыят мае ідэю, якая ставіць перад пралетарыятам у розныя стратэгічныя і тактычныя пэрыоды розныя задачы, што вырашэньне гэтых задач разам з нормальнасьцю фізыолёгічных функцый—ёсьць сродак дасягненьня гістарычна пастаўленага ідэалу—камунізму.

Такім чынам, наш ідэал—камунізм—рэальна угрунтаваны, у той час калі мяшчанскі ідэал—уласнасьць, чалавек—матар'яльна забясьпечаная жывёла,—зьяўляецца перашкодай гістарычнаму разьвіцьцю.

Зробім цяпер вельмі важныя вывады. Мэта пралетарыяту камунізм. Пралетарыят набліжаецца да сваёй мэты адпаведна росту тэхнікі. Рост

*) Друкуецца ў дыскусыйным парадку.

тэхнікі патрабуе ад кожнага пралетарыя, а ня толькі пралетарыяту, максімум сьвядомасьці, кваліфікацыі і загартаванасьці волі. Варта падумаць толькі аб тэй ролі, якую павінен будзе кожны несьці ў будучай вайне, каб уявіць сабе значэньне патрэбнай індывідуальнасьці. З павялічэньнем колькасьці аэропляна́ў, хэмічных баявых прылад, усё большая колькасьць прымушана будзе выяўляць сваю індывідуальную здольнасьць. Кіраваць аэропляна́м—гэта ня тое, што быць нявольнікам слова камандзіра. Тут кожны *сам* кіруе стыхіяй. І чым дальш, тым больш розных высока складаных, удасканаленых машын перадаецца на адказнасьць аднаго рабочага і ад яго волі, розуму і сьвядомасьці залежаць тысячы і мільёны. Ад мешчаніна-ж ніхто не залежыць. Ён жыве сам сабой. А таму, чым яскравей пралетары выяўляе сваю індывідуальную самастойнасьць, тым лепш мы бачым наколькі ён прасякнуты гістарычна-правільным ідэалам. Чым багацей выяўляюць пралетарыі сваю творчую арыгінальнасьць, тым больш радасьці у пралетарыяту, што яго члены не авечкі, не нявольнікі, якімі нехта павінен кіраваць, але што ў кожны момант яны самі змогуць вырашыць розныя задачы.

Мы бачым, што пралетарыі, удасканальваючы сваю індывідуальнасьць, ні на хвіліну ня губляюць пэрспэктывы, вечна носяць у сабе ідэю, і што мэта колектыўная, прасякнуўшы пралетарыяў, прымушае іх максымум увагі зьвярнуць на „рэконструкцыю“ сваёй індывідуальнасьці.

Такім чынам, кожны пралетары, маючы спэцыфічны, індывідуальны падыход да будаваньня жыцьця з аднаго боку, прасякнуты ідэяй колектыву—з другога. Альбо, як кажа А. Багданаў: „методы пролетарского труда развиваются в направлении *монистичности* и *осознанного коллективизма*. В таком же направлении складываются естественно и методы пролетарского творчества“.

II.

Мы прыйшлі к выvаду, што кожны пралетары абавязан у інтарэсах усяго пралетарыяту выяўляць сваю індывідуальнасьць, бо ў кожнай індывідуальнасьці захаваны тыповыя рысы, рысы тыповыя для цэлай клясы. Ды яно, калі паразважаць, дык інакай і быць ня можа. Кожная індывідуальнасьць ёсьць вынік уплываў усіх жыцьцёвых праяў, а таму, чым глыбей яна сябе паказвае, тым лепш мы пазнаём чалавека, навакольнае жыцьцё і грамаду. У нас-жа некаторыя крытыкі, ня ўмеючы адрозьніваць індывід мяшчанскі ад індывідуальнасьці пралетарскай, ня могуць правільна падыйсьці да твору, а толькі лаюцца, альбо сьпяваюць „дыфірамбы“. А ў кожнай перадавой думцы яны, дзякуючы сваёй адсталасьці ды барбарству, бачаць контр-рэвалюцыю, і таму так балюча адчуваецца ў наш час неабходнасьць палепшаньня „кон'юнктуры“ для выяўленьня сапраўднай, а ня прыдушанай, зьніжанай індывідуальнасьці.

Ад проблемы пралетарскай індывідуальнасьці, абавязак кожнага, перайсьці да характарыстыкі таго матар'ялу, які формуе пралетарскую індывідуальнасьць. З усіх жыцьцёвых фактараў, здольных выканаць гэту задачу, возьмем мастацкую літаратуру.

Перад намі новая проблема: якой павінна быць літаратура, формуючая пралетарскую індывідуальнасьць,—літаратура пралетарская—і ці ёсьць яна ў нас?

На пытаньне, якой павінна быць пралетарская літаратура, адказана у агульных рысах словамі А. Багданава. Але задаволіцца, вядома, цытатай нельга.

Конкрэтна-ж падыходзячы да пытаньня і каб у далейшым ня было няяснасьці, першае на што неабходна адказаць, гэта: якую эпоху павінна адбіваць пралетарская літаратура і дзе пачатак і канец гэтай эпохі? Кожнаму ясна, што эпоха калі пралетарыят стаў клясай пачалася даўно і скончыцца тады, калі пралетарыяту ня будзе. Гэта элемэнтарнасьць, але яе неабходна заўважыць. Значыць, пралетарыят існуе даўно, а літаратуры, кажуць, няма. І разам з тым мы добра ведаем, што па літаратуры можна знаёміцца з *жыцьцём* пралетарыяту, бо літаратура—„люстра жыцьця“. Нехта недзе памыляецца.

А памыляюцца тыя, (каму пралетарскай літаратуры няма) таму, што не дыялектычна глядзяць на гісторыю. Няма ведама якой яны хочуць пралетарскай, чыстай літаратуры. Пралетарыят увесь час узмацняецца, але, як бы там ні было, пакуль існуе пралетарыят, будзе існаваць і не пралетарыят. А раз гэта так, то ня шукайце нейкай пралетарскай, чыстай літаратуры. Бо падаючы сваю чыстую, пралетарскую літаратуру, мы з жывога цела грамады вырываем чысьценькага, беленькага, „ідэолёгічна-вытрыманага“ „пралетарыя“, а пралетарыяту больш важна ўбачыць свайго члена ў атачэньні моральна-фізычных варожых соцыяльных сіл, бо тады ён ведае, як лягчэй іх перамагчы. Тыя, што „сумуюць“ аб пралетарскай літаратуры, як відаць, гэта забылі.

Цяпер, на пытаньне, якой павінна быць пралетарская літаратура, вынікае просты адказ. Раз у тым ці іншым творы паданы *думкі пралетарыяту*, яго жыцьцё, значыць, гэты твор у большай ці меншай меры—пралетарскі. Чым бліжэй да пачатку капіталістычнай эпохі, тым менш у літаратуры пралетарскіх мотываў, чым бліжэй да камунізму, тым больш пралетарскіх мотываў, а „чыста-пралетарскай“ літаратуры ніколі ня будзе і сумаваць аб гэтым дыялектыкам ня варта. Так вырашаецца пытаньне аб існаваньні пралетарскай літаратуры.

Не гаворачы аб замежных літаратурах, дзе пралетарская літаратура існуе даўно, спынімся на беларускай пралетарскай літаратуры. Ужо даволі спыняліся на творчасьці Цішкі Гартнага, Александровіча, М. Чарота. А варта паказаць пралетарскія матывы там, дзе іх шукаюць з меншай энэргіяй—пралетарскія матывы ў творчасьці Як. Коласа.

Што апавяданьне „На прасторы жыцьця“—пралетарскае, бясспрэчна. Самы факт паступленьня Сьцёпкі ў рабфак, факт, які адбыўся пасьля пралетарскай рэвалюцыі, дзякуючы пралетарскай рэвалюцыі, адбівае гістарычна-правільнае імкненьне прыгнечаных да ўзброеньня пралетарскай культурай, здольнай вывесьці іх на правільны шлях. І вось гэта імкненьне селяніна накіравацца за пралетарыятам і ёсьць пралетарскі элемэнт у паданым творы, бо яно (імкненьне)—функцыя пралетарскай заваёвы, а таму мы абавязаны гэты твор лічыць пралетарскім.

Багата пралетарскімі мотывамі апавяданьне „Агатка“. Агатчына захапленьне чырвонымі стужкамі, што на дзецях з гораду, імкненьне вырвацца на волю („на прасторы жыцьця“) з цеснай хаты, сымбалічна перадае імкненьне ўсіх прыгнечаных у яснае пасторнае жыцьцё. Контрабандысты, баючыся, што Агатка выкажа іх сховы, хочуць яе забіць, але „хлопцы з дому адпачынку“ перашкаджаюць гэтаму і Агатка ажывае. Контрабандысты—сымбаль пралетарскіх ворагаў. „Хлопцы з адпачынку“—сымбаль пралетарыяту, які аднэй сваёй прысутнасьцю не дазваляе зьдзекавацца над прыгнечаным селянінам, сымбаль якога—Агатка. І самы канец апавяданьня, дзе дзед кажа Агатцы „словы добрыя“: „Закіданае ты дзіця. Ма-

церы ў цябе няма. І галоўка твая дурная... Ды што зробіш? Ачуньвай—гадуйся. Жыві!"—У гэтых словах сутнасьць нашага часу. Нам такія „закіданыя дзеці" патрэбны! Нам патрэбны дзеці, якія прайшлі суровую школу жыцьця. Яны найглыбей здольны адчуваць жыцьцёвыя хібы і яны змогуць правільна падыйсьці да будаваньня лепшага жыцьця. Так, гэта вынік пралетарскай рэвалюцыі, калі маладое, покуль што несьвядомае пралетарскае дзіця ачуняла і робіцца сьвядомым. Адгэтуль, твор, у якім такое дзіця пададзена,—пралетарскі.

І спрачацца аб існаваньні беларускай пралетарскай літаратуры ня варта. Пралетарская літаратура ў нас ёсьць.

У нас на Беларусі пытаньне неабходна паставіць іначай. У нас няма камуністычнай, інтэрнацыянальнай, прасякнутай апошнімі культур. дасягненьнямі, літаратуры. Сьмех бярэ, калі параўнаць прымітыўна-сялянскую, сямейную філёзофію нашай беларускай літаратуры з сучаснымі філёзофскаідэёвымі дасягненьнямі. Толькі ўзброеныя сучаснай культурай пісьменьнікі створаць літаратуру сусьветнага значэньня.

## III.

Мы падыйшлі да вырашэньня проблемы залежнасьці літаратуры ад пісьменьніка.

У першай частцы я даводзіў значэньне для пралетарыяту індывідульнасьці, ролю яе ў сучаснасьці і вымаганьне ад індывідуальнасьці павышэньня і выяўленьня яе якасьцяй з прогрэсам тэхнікі.

Пісьменьнік ня ёсьць выключэньне. А як-жа ў нас на Беларусі падходзяць да пісьменьніка? З артыкулаў Дудара і Цішкі Гартнага, друкаваных у „Савецкай Беларусі", мы бачым, што іх цікавіць толькі матар'яльны стан пісьменьнікаў, а Дудар, апроч таго, разглядае рыфмы ды яшчэ там нейкае глупства. І яны абодва радуюцца, што ў нас ёсьць пісьменьнікі, якія жывуць выключна з ганарару.

Ясна, што так аднабока разглядаць пісьменьніка—значыць абмяшчаньваць яго. Пасадзіць пісьменьніка на ганарар, палепшыць яго матар'яльны стан, паказаць яму лепшую ды горшую рыфму—значыць паставіць крыж над пісьменьнікам і над літаратурай. Наша эпоха прымушае іначай падыйсьці да пісьменьніка.

Нам патрэбна камуністычная культура. Мастацкая літаратура—галіна агульнай культуры. Якое-ж становішча нашай савецкай культуры?

...„то, что у нас присходит, нельзя иначе назвать, как кризисом приспособления человеческого материала к новым производственным отношениям"... „Мы имеем явную диспропорцию... между тем огромным шагом вперед, который мы сделали в Октябре... и тем запасом людей, которые могли бы быть в полном смысле социалистическими строителями... Вот эту диспропорцию... нам предстоит преодолеть. Мы имеем здесь явный кризис". (Ком. Рев. № 7. 1927 г.)

З гэтага мы бачым, што савецкая культура перажывае крызіс. Разыходзіны паміж соцыялістычным будаўніцтвам і культурным станам пісьменьнікаў востра адчуваюцца на Беларусі. Не матар'яльны стан, не рыфма, а толькі культура пісьменьніка, як пралетарскай індывідуальнасьці, здолее даць на Беларусі адэкватную сучаснасьці літаратуру.

Хто ня ведае як узыходзіў на узвышша культуры Горкі? Жорсткае змаганьне за кожны кавалак хлеба, суровая жыцьцёвая школа, розныя спэцыяльнасьці, палітычная і навуковая самаадукацыя, азнаямленьне з

мастацтвам і ўрэшце літаратурныя узоры сусьветнага значэньня. От жывы прыклад формаваньня пісьменьніка. І гэты самы чалавек, у якога няшчырых слоў няма, кажа, што поэзія, калі яна робіцца профэсіяй, ужо ня ёсьць поэзія. Што профэсія ў кожнага пісьменьніка павінна быць інакшая, аб гэтым у „Новым Лефе“ гаворыць і Шклоўскі. Бо кожная спэцыяльнасьць уводзіць пісьменьніка ў самы процэс соцыялістычнай творчасьці, бо ён тады балюча і глыбей перажывае жыцьцёвыя хібы, і затое мацней, з большай упэўненасьцю, пераконваньнем чытача, будзе гучаць кожнае слова ў такога пісьменьніка. Хай ён напіша менш, але гэта менш будзе жывая, а ня мёртвая пісаніна, бо яна будзе напісана самім удзельнікам жыцьця, тым хто перажыў напісанае, а не профэсіяналам-пісьменьнікам, які, ня прымаючы удзелу ў самым творчым процэсе жыцьця, няправільна псыхолёгічна і ідэолёгічна падае нам гэта-ж жыцьцё.

Наш Якуб Колас па профэсіі—настаўнік, і толькі, дзякуючы гэтаму, ён так дасканала перадаў у сваіх творах дзіцячую псыхіку і, жывучы ў атачэньні новага, маладога пакаленьня, ён не адстае ад сучаснасьці і правільна падае нам будаваньне новага, маладога жыцьця.

І Максім Горкі, каб не прайшоў такую школу, ня даў бы таго, што даў. Кожны крок—змаганьне. Упартае змаганьне за кожнае культурнае, альбо матар'яльнае дасягненьне, самастойнасьць у перамозе матар'яльна-культурных недахопаў—гэта фактары, якія формуюць пісьменьніка.

Канкрэтна ў нашых умовах пытаньне вырашаецца так: паставіць пісьменьніка ня ў горшыя і ня ў лепшыя умовы, а ў звычайныя. Даць яму магчымасьць, як і кожнаму грамадзяніну, вучыцца, каб ён мог усебакова-культурна разьвіцца. Хай вучыцца і абярэ сабе якую-небудзь спэцыяльнасьць. Як мага менш спадзявацца на ганарары. Менш разважаць аб рыфме. І калі тая ці іншая асоба—сапраўдны пісьменьнік, яна ўзыйдзе на вышэйшую ступень сучасных навукова-ідэолёгічных дасягненьняў і дасьць нам творы, здольныя асьвятліць жыцьцёвую дарогу ня толькі Янку ды Міхалку, але ўсяму сьвету. Ад формаваньня індывідуальнасьці нашага пісьменьніка ў вышэй паданым сэнсе залежыць беларуская, а калі лічыць, што мы ідзём глыбей, дык і ўсясьветная літаратура. Толькі так мы мінем ідэёвы крызіс беларускай літаратуры.

Соцыяльная організацыя асобы, да якой вельмі цікава падыходзіць М. Рэйснэр, павышэньне кваліфікацыі ды іншыя спосабы вырашэньня культурнага крызісу, у дастасаваньні да беларускага пісьменьніка, выяўляюцца ў культуры яго асобы у вышэй паданым сэнсе, у выяўленьні яго індывідуальных здольнасьцяй у процэсе будаваньня жыцьця, а пытаньне аб рыфме ёсьць пытаньне аб аднэй з выводных культурнай галіны, і спэцыфічнасьць яе—вынік аформленай індывідуальнасьці.

## IV.

Пралетарская літаратура ў нас ёсьць. Нам патрэбна камуністычная літаратура. Якасьць літаратуры залежыць ад якасьці пісьменьнікаў. Паглыбленьнем культуры і ўвязваньнем яе з пэрспэктывамі соц. будаўніцтва ствараюцца патрэбныя нам пісьменьнікі. Нашы-ж некаторыя літаратурныя працаўнікі не ўявілі сабе глыбіні маршу ў камунізм. А той хто перарос іх, таго яны лічаць рэакцыйным. Ясна, што яны ня здольны вывесьці беларускую літаратуру на шырокую дарогу. Ня ім весьці рэй. Адчуваецца ў беларускай літаратуры неабходнасьць эпохі „Sturm und Drang-у“.

*М. Гарэцкі*

# Бядуля пасьля Кастрычніка

Гісторыка-літаратурныя нататкі

Калі ў 1915 г. Вільню забралі немцы, Бядуля нейкі час жыў у м. Пасадзец, у бацькі. У 1916—17 г. г. ён працаваў у менскім беларускім камітэце дапамогі пацярпеўшым ад вайны. Каля гэтага камітэту гуртаваліся тады беларускія культурнікі ў Менску. У 1918 г., пад нямецкай акупацыяй, Бядуля супрацоўнічаў у газэтах („Вольная Беларусь", „Беларускі шлях"). У 1919 г., да польскае акупацыі працаваў у савецкіх установах, а потым, у 1919—20 г. г., пад польскай акупацыяй, ізноў мусіў перайсьці ў газэту („Беларусь"). У 1921—22 г. г. Бядуля быў рэдактарам першае беларускае савецкае дзіцячае часопісі („Зоркі"), а ў 1922—24 г. г. кіраваў літаратурным аддзелам у „Савецкай Беларусі", на старонках якой гэтым часам расьлі выдатнейшыя сілы літаратурнага маладняка. З 1924 г. ён працуе ў Інстытуце беларускае культуры, як рэдактар краязнаўчае часопісі „Наш край". У 1926 г. Бядуля езьдзіў лячыцца на Каўказ. З гэтага-ж году увайшоў ён ў склад літаратурнага аб'яднаньня „Узвышша".

---

Праз увесь гэты час Бядуля піша лірычныя вершы і вершаваныя паэмкі пад псэўданімам *Ясакар*, а таксама, як і раней, апавядальныя рэчы мастацкаю прозаю. Найменшая прадукцыя за гэты час прыпадае ў яго на 1918 г. і на 1919—20 г. г., калі ў умовах нямецкае, а потым польскае акупацыі жыць і тварыць беларускаму пісьменьніку было надта цяжка. За гэты час трэба адзначыць гэткія творы Бядулі: 1) *Пад родным небам* (1922 г.)—зборнік вершаў, галоўн. чын., з 1921—22 г. г.; 2) *На зачарованых гонях* (1923 г.)—зборнік апавяданьняў, галоўн. чын., з 1917—23 г. г.; 3) *Буралом* (1925 г.)—зборнік рэвалюцыйных вершаў, галоўн. чын., з 1917—25 г. г.; 4) *Апавяданьні* (1926 г.)—зборнік апавяданьняў ад 1923 г.; 5) *Танзілія* (1927 г.)—зборнік апавяданьняў ад 1926 г.; 6) *Салавей* (1927 г.)—аповесьць, друкавалася ў часопісі „Узвышша".

---

*Вершы* ў Бядулі—слабейшыя за яго мастацкую прозу. Рэвалюцыйныя вершы—слабейшыя за іншыя. У іх мала музыкальнасьці і наогул лірычнасьці. Прычына слабасьці рэвалюцыйных вобразаў у яго, мусіць, тая, што ён перажываў цяпер ідэалягічны крызіс, ад нацыянал-адраджанізму прышоў да пралятарскіх настрояў, а таксама пісаў хапаючыся, у тлумных газэтных абставінах. Асабліва нявысока з мастацкага боку стаяць рэвалюцыйныя вершы, сабраныя ў зборніку „Буралом". Бядуля

захапіўся навіною, але яшчэ ня вынасіў, ня выпесьціў гэтых вобразаў у сваім сэрцы, не перахварэў на іх.

Цікава параўнаць яго верш „Беларусь“, напісаны ў 1922 г. і зьмешчаны ў зборніку „Пад родным небам“, з вершам „Беларусь“, напісаным ў 1923 г. і зьмешчаным у зборніку „Буралом“. У першым—любоў да беларускае прыроды і народнае беларускае творчасьці, зьвязваньне беларускае мінуўшчыны з сучасным культурна-нацыянальным адраджэньнем, злосьць на ворагаў беларускае культуры, палітычны момант у нацыянальным пытаньні—усё яшчэ ў духу нашаніўства. Другі верш—блізу тыя самыя матывы, але ўжо з клясавым падыходам да справы, з кірункам на чырвоную Маскву. Параўнаньне гэтых двух вершаў, з аднакімі назвамі, дае вельмі яскравы малюнак крутога ідэалягічнага пералому ў настроях Бядулі.

Галоўныя тэмы і матывы ў зборніку вершаў „Пад родным небам“: любоў да Беларусі, любоў да жанчыны і мастацкае апрацаваньне беларускага фальклёру, прычым апрацаваньне гэтае здавальняе імкненьні аўтара да хараства. Верш „На прадвесьні“ (1922 г.)—адзін з характэрных вершаў. Тут русалка пад лёдам—можа, ідэя аўтара, што ня мае магчымасьці выявіцца; можа, Беларусь; можа, увасабленьне аўтарскага ідэалу ў каханьні; можа, што іншае, несьвядома адлюстраванае праз стылізацыю вобразаў з беларускага фальклёру. Выразы: „як мордачкі ягнят, тырчэлі яе грудкі“, „разрэзаным грыбком былі адкрыты губкі“ і інш., сьведчаць, магчыма, аб некаторым уплыве біблейнае „Песьні песень“ і аб некаторых індывідуальных асаблівасьцях аўтара.

Галоўнае ў зборніку вершаў „Буралом“—гэта жаданьне аўтара даць рэвалюцыйныя вершы ў беларускай мове.

---

Што да *апавядальных рэчаў мастацкаю прозаю*, якія напісаў Бядуля пасьля Кастрычніка, дык у іх таксама—у даўнейшых малюецца яшчэ дакастрычнікавае жыцьцё і найбольш у нашаніўскіх настроях, і толькі ў пазьнейшых знаходзім жыцьцё пасьля Кастрычніка і ўплывы Кастрычнікавае рэвалюцыі

Да гэтых даўнейшых рэчаў трэба залічыць частку апавяданьняў у зборніку „На зачарованых гонях“. Тут знаходзім гэткія, напрыклад, рэчы: „Дзе канец зямлі?“ (1917 г.)—пакора чалавека перад бязьмежнасьцю зёмных прастораў і магутным хараством прыроды; „Бондар“ (1920 г.)—погляд аўтара на мастацтва, на яго значаньне ў жыцьці чалавека, прычым перажываньні мастака даюцца ў перажываньнях бондара Данілы; у гэтым апавяданьні выяўляецца адна з уласьцівых Бядулі тэм, гэта—любоў да хараства, імкненьні да яго і наогул праблема творчасьці; найлепшыя, аднак, у яго апавяданьні—„Дванаццацігоднікі“ (1921 г.) і „Сярод ночы“ (1921 г.); яны таксама найбольш характэрныя ў тэматыцы Бядулі, апрача таго, маюць глыбокі сацыяльны зьмест і моцную мастацкую форму; у першым—адносіны паноў і мужыкоў, змаганьне бяздушнага зла з распачліваю, бядулеўскаю, праўдаю, а ў другім—змаганьне добрых і нядобрых пачуцьцяў у сэрцы людзей, сялян, на грунце горкае долі іхнага суседа, беднага злодзея Ігналі.

У 1922—24 г., як ужо было казана, Бядуля кіруе літаратурным аддзелам у „Савецкай Беларусі“; ён выхоўвае наш літаратурны маладняк,

псуе сабе мову і нэрвы, разьменьваецца на драбніцы, але затое і ў яго самога расьце палітычная сьвядомасьць і настроі ў кірунку пралятарскае ідэалёгіі. Да апавяданьняў, узятых ужо з пасьля-кастрычнікавага жыцьця і напісаных пад уплывам Кастрычніка, належыць некалькі зьмешчаных яшчэ ў зборніку „На зачарованых гонях". Напісаны яны якраз у 1922—1923 г. г. Гэта: нарыс „На зачарованых гонях" (1922 г.), назва якога ўзята назваю дзеля ўсяго зборніка, потым „Панскі дух" (1922 г.). „Аднаго разу ў нядзелю" (1922 г.), „На балоце" (1923 г.) і „Воўк" (1923 г.). Нарэшце, выключна жыцьцё пасьля Кастрычнікавае рэвалюцыі малюецца ў зборніку „Апавяданьні" (1923—26 г. г.).

Галоўнае ў бядулевых апавяданьнях з пасьлякастрычнікавага жыцьця, гэта—рэвалюцыя, вайна з белапалякамі, змаганьне з бандытамі („На зачарованых гонях", „Панскі дух", „На балоце", „Аднаго разу ў нядзелю"), змаганьне з кантрабандыстамі („Воўк", „На варце", „Як я зрабіўся кантрабандыстам"), быт духавенства ў савецкіх умовах, антырэлігійная прапаганда („У глушы", „Летапісец", „Пуд жыта"), новы быт на вёсцы (Дэлегатка"), праца камсамолу („У глушы"), ліквідацыя няпісьменнасьці („Тры крыжыкі"), вызваленьне жанчыны („Дэлегатка"), савецкія тыпы, прычым адмоўнае спаміж іх бачым толькі ў адным апавяданьні („Галіфэ").

Шмат якія з савецкіх апавяданьняў у Бядулі пісаны, як відаць, хапаючыся, у іх ёсьць розныя недагляды і неапрацаваныя месцы, а галоўнае—чуецца, што аўтар зьбіваецца з уласьцівай яму тэматыкі і пераходзіць на тое, што патрабавалася жыцьцём і газэтным характарам літаратуры. Мусіць, у новых умовах жыцьця ён яшчэ не знайшоў ці не хацеў браць такога матар'ялу, які адпавядаў-бы яго індывідуальнай тэматыцы. Гэтым-жа часам, у газэтных абставінах творчасьці, зьнізіў ён і літаратурныя вымаганьні сабе ў галіне стылю і мовы. Нешта падобнае наглядаецца часам і на яго творах, друкаваных у часопісе „Узвышша". Цяпер гэта тлумачыцца, мусіць, тым, што ён піша вельмі шмат і ня мае належнае дапамогі з боку крытыкі.

---

Добра характарызуе творчасьць Бядулі за апошні час неразгледжаны яшчэ нашымі крытыкамі зборнічак апавяданьняў „Танзілія" (1927 г.). Тут адны апавяданьні або нават толькі пэўныя часткі аднаго апавяданьня напісаны ў даўнейшым бядулеўскім тэматычным і стылістычнім духу, а на другіх апавяданьнях або толькі пэўных частках іх ляжыць ужо сьлед пазьнейшага часу ў яго творчасьці. Так, апавяданьні „Танзілія", „У гарах" і „Іслам-бэй", сваім супакойным і глыбокім псыхалягізмам, крайняю датклівасьцю пачуцьця і багатаю мастацкаю сакавітасьцю малюнкаў—узятыя ў суцэльнасьці належаць да апавяданьняў з тымі даўнейшымі бядулеўскімі дасягненьнямі. А пэўныя часткі гэтых самых апавяданьняў і ўзятае ў суцэльнасьці апавяданьне „Powledz, dzie jest twój syn?" („Кажы, дзе твой сын")—больш нагадваюць прыёмы, якія Бядуля выявіў у зборніку пад назваю „Апавяданьні". Канец апав. „Танзілія" лішне жудасны, а ў параўнаньні з усім творам—скамечаны і ня зусім увязаны. Апав. „У гарах" ня мае сюжэтнай цэльнасьці, але перажываньні хворага Арнаута і яго маці дадзены памастацку. „Ісламі-Бэй"—цікавы і добра зроблены партрэт каўкаскага чалавека, хоць прычына душэўнае драмы ў Ісламі-Бэя лішне выкручаная, каб быць зусім праўдападобнаю (не гаворачы ўжо аб

тыповасьці). Апав. „Powiedz, dzie jest twój syn?“ („Кажы, дзе твой сын“), хоць і мае на сабе налёт фэльетоннага жанру, але-ж пры тых нязвычайных цяжкасьцях, якія ставіць падобны сюжэт свайму аўтару, напісана яно моцна і зьяўляецца адным з найбольш мастацкіх у сваёй галіне. Нарэшце, трэба адзначыць, што Бядуля закрануў у гэтым зборнічку новае дзеля беларускае літаратуры жыцьцё: татарскае жыцьцё на Беларусі, жыцьцё горцаў на Каўказе і панскія зьдзекі над беларускім селянінам у Заходняй Беларусі, як яны выглядаюць сёньня, пасьля ўсіх лямантацый ураду Пілсудзкага аб аздараўленьні жыцьця ў Польшчы. Тут малюнак такога страшнога катаваньня ў польскай дэфэнзыве, перад якім здрыгнуўся-б самы дзікі барбар даўна-мінулых вякоў. І каб мы ня ведалі, што гэтак запраўды ёсьць у сучаснай Польшчы, дык і гэты малюнак назвалі-б самаю неправўдападобнаю і фантастычнаю выдумкаю.

---

Аповесьць „Салавей“, друкаваная ў 1927 г. ў „Узвышшы“—першая даўгая рэч у Бядулі. Жыцьцё ў аповесьці ўзята з часоў паншчыны на Беларусі,—і тут маем, запраўды, шмат мастацкіх тыпізацый з гэтых часоў, хаця ў асяродку сюжэту і тут стаіць асоба прыроднага мастака, яго пераживаньні ў неадпаведных дзеля яго таленту умовах і г. д., што мы ўжо бачылі ў некалькіх даўнейшых творах Бядулі. Аповесьць „Салавей“ трэбуе спэцыяльнага досьледу ці хаця паважных крытычных артыкулаў у чарговых нумарох часопісяй, але ўжо зараз трэба сказаць, што пры ўсіх сваіх недахопах яна з цікавасьцю чытаецца і, бязумоўна, зьяўляецца каштоўным укладам у беларускую літаратуру, так бедную пакуль што мастацкімі творамі з часоў паншчыны. Гэта з аднаго боку. А з другога боку яна зьяўляецца, можна сказаць, ужо выразна афармаваным новым этапам у творчасьці Бядулі ў галіне стылістычных прыёмаў, далёкіх ад яго стылю ў даўнейшых апавяданьнях. Адмоўнае ў гэтых новых яго стылістычных прыёмах—тое,, што часам чуецца ў іх нейкі фэльетонны, бойкі публіцыстычны тон, а дадатнае, пэўна-ж, тое, што яго новая пабудова сказаў надае дзеяньням і ўсяму апавяданьню больш рухавасьці і напружанасьці.

Пачакаем, што скажуць у гэтай справе крытыкі.

# НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЬЦЬ і МОВА

## Чаму ходзяць па месяцу

(Казка)

Прыляцела з пушчы сава і села ў садзе, калі змрок ахапіў яго. Села закугакала:

— Ку-га! Ку-га!..

Вешчавала маладусе кугакалку.

Пасядзела троху і кінулась між яблынак, між лісьця, залопаўшы, запіліпкаўшы:

— Піліп! Пі-ліп!..

Дый паляцела з саду назад у пушчу.

„Будзе-ж у мяне *піліпка*",—з любасьцю маладуха падумала.

І тады котка па начох на падворак выходзіла і драпала сьценку кіпцямі, пры якой маладуха спала. Сьніла маладуха трусікаў, вавёрак і маленькіх мышанятак. Часам пчолкі ёй ува сьне зьвінелі. Часам каравых ракаў, здаецца, шчупала ў пячурах, і гладкую стайную рыбку ў чысьценькай лавіла вадзе. А з пятага месяца сталі сьніцца ёй голенькія пузаценькія вуцяняткі.

Сьцераглася маладуха глядзець на мерцьвяка, хадзіўшы на хаўтуры, каб ня быў яе піліпка цьмяненькі. Пільнавалась ня ўзірацца на калекіх і не дражніла заіклівых. Ня штурхала ні авечкі, ні кароўкі, ні сьвіньні. Так пільна сьцераглася цяжарная пярвосьцінка.

* *
*

Ды ў тым леце затужыў лясун. А-ткі за нешта ён загневаўся. На начлезе коні ганяў, позна-вечара каровак у пушчы па кустох вадзіў.

І мусілі супыніць яго. Грамадою надумаліся аджалець яму казла.

Тэй начою, калі меліся рабіць, усе-чыста ў хатах сваіх былі, але спаць нікому ня спалася.

Месяц у поўні стаяў. Невялічкі ветрык веяў. І спачатку ціха-ціха сумаваў лясун.

Ды ўсплывалі хмаркі на месяц, як месяц плыў, і цямнела, а ветрык веяў ямчэй. Глушэла ўсё бяз месяца. Па тэй глушы дужэйшы чуўся ў пушчы гоман, галасьней а галасьней тужыў лясун, ажно гуд і ляскат разьлягаліся па ўсім лесе і якатаў пошчак у самай гушчэчы.

Табалою выскачылі дзеўкі з вулкі на аселіцу з зарэзаным казлом.

— Ха-ха-ха! Ха-ха-ха!—як русалкі, рагаталі яны ў полі, цягнучы крывянага казла пад дуб.

— Ха-ха-ха! Ха-ха-ха!—спагадліва адгукалася ім лясунова панства.

* * *

З тэй прыгоды-перапуду цяжарная маладуха доўга заснуць не магла.

Вярнуліся з-пад дубу дзеўкі, разьбегліся па сваіх хатах. Сьціхла ўсё. Паснулі супакоеныя людцы. І ночка пацішэла, і ветрык аблёгся. Выплыў месяц ясны ўва ўсёй поўні, харошаю нямотаю асьветліў хаткі і ваконцы.

І з вялікай няведамай вышыні пасьвяціў скрозь незавешаныя шыбы ў сонную хату.

Неспакойна спала маладуха на сьвятле, а прахапіцца ня мела сілы. Панямелі рукі й ногі, млявая зьнямога разьлілася па ўсім целе.

І сьвяціў і сьвяціў нéмы месячык на сонную, слаўся ў вочы, і на грудзі, і на ўсю...

* * *

І радзіўся з тэй прычыны ў маладухі луньнік.

Апрацаваў М. Г.

---

# Медавы кум

Быў бедны чалавек. І нарадзілася ў яго дзіця. І пашоў ён кума шукаць багатага. Узяў медавога. І тое дзіця плакала: ме да й ме:

А бацька з мацераю адумаліся, што гэта яно просіць мéду. І пашоў гаспадар па м'ёд.

Той кум наклаў. А ён абмочыць палец у саладок—смачна, пакуль данёс, дак і зьеў.

Посьле пашоў другі раз, посьле й трэці раз пашоў і ўсё есь. Кум кажа: калі мой хрышчэнік гэтак м'ёд любіць, то, пакуль узрасьце, дарую яму пчолы, там і там, хадзем і ты будзеш падглядаць.

Узяў стрызіну*). Вот, кумок, лезь падглядай, і даў яму курыдло. Ён карпануў, вылецела, адна, ён кажа: да бога, вылецела другая: да божае маткі, а трэцяя вылецела, ён кажа: да сто д'яблаў. І кажа: куме, падай стрызіну.

А кум ні за стрызіну, а за галіну. Дак ён і зваліўся.

От, кажа, кумок, бачыш: табе адзін раз давялося падглядаць да й зваліўся, а я мо' дзесяць раз падглядаў.

Дак той кажа: цяпер ніхай твой хрышчэнік крычыць, хоць і здохне, то ні панясу—ні хачу й пчол і м'ёду.

Запісаў у в. Шалавічах на Случчыне
ад старога Кавальчука Ю. Гаўрук.

---

*) Стрызіна—відаць, сапсаванае—стрыжына, ад слова стрыжань: яліна з недасечанымі сукамі, у пчаляроў замяняе лескі.

# Пяюць вясною

Каб я знала-ведыла*),
Сваю долю горькыю,

Сваю долю горькыю,
Жанідбу нішчасную, —

Век-бы замуж ні пышла,
Жыла-б я у дзевычкых.

Жыла-б я у дзевычых,
Расьціла-б я косыхну.

Расьціла-б я косыхну,
Да сівыга волысу.

Буйніла-б буйносьць сваю
У полі сы краскымі.

Аддыла-б я ножынькі
Серінькыму зайчыку.

Аддыла-б я ручынькі
Мыладому кроўчыку**).

Аддыла-б я вочынькі
Ясныму саколіку.

Буйнуйся, буйносьць мыя,
У полі сы краскымі.

Красуйся, крыса мыя,
У полі сы краскымі.

А бегыйця, ножынькі,
Як серінькі зайчыкі.

Работыйця, ручынькі,
Як молыды кроўчыкі.

А глядзіця, вочынькі,
Як ясны саколікі!

*) Кожны першы радок пяюць два разы.
**) „Крату, кроціку" (?)

Сяло Слаўнае, 25 вёрст на паўночны захад ад Амсьціслава.

Запісаў ад Юлі Паповай М. Гарэцкі.

* * *

Як паехаў мой міленькі
у поле araці—
ды забыў ён арала.
А я маладзёшанька дагадліва была—
ухапіла тое арала
ды за ім драла, драла.
— Забыў ты, мой міленькі, арала,
а я ўсьлед за табою
драла, драла.
Як паехаў мой міленькі
ў поле скарадзіці—
ды забыў ён сваю барану.
А я маладзёшанька дагадліва была—
Ухапіла тую барану
ды за ім як дзірану, дзірану.
— Забыў ты, мой міленькі, барану,
а я ўсьлед за табою
як дзірану, дзірану.

## Заручыны

Як пайдзём мы на заручаны,
Аж там сенцы закручыны.
Пакуль сенцы адкруцілі,
Дык Ганначку заручылі.
Пакуль сенцы адамкнулі,
Дык Ганначку прыгукнулі.
А куды-ж яна пашла:
Ці ў бор па брушніцы,
Ці ў меж' па суніцы?
Калі ў бор па брушніцы—
Яна бор асьлязіла.
Калі ў меж' па суніцы—
Яна меж' асьлязіла.

Запісаў у с. Саве, Горацкага раёну
В. Каваль.

## Жніўная калыханка

А я жала, жала жыцечка
пры дарозе,
Павесіла калысачку
на бярозе,

А будзе буен ветрык
павяваці,
Будзе маю калысачку
калыхаці.

А я жала, жала жыцечка
пры даліне,
Павесіла калысачку
на галіне,

А буен ветрык
павявае,
Маю калысачку
ён люляе.

А я жала, жала жыцечка
пры лясочку,
Павесіла калысачку
на дубочку,

А будзе буен ветрык
павяваці,
Мае беднае дзіцятка
будзе спаці.

Запісаў на Мазыршыне М. Змушка

## Сірочая

Да забіў казак да сваю жану,
Пахаваў яе у шчыром бару, (2 р.)
У шчыром бару пад сасонкаю.
Пашлі дзетачкі к бацьку плачачы:
— Ты наш татачка, ты наш родненькі, (2 р.)
Куды-ж ты дзеваў нашу матачку?
— Ваша матачка да у хлеў пашла,
Да у хлеў пашла кароўку даіць.
Пашлі дзетачкі туды глядзеці:
Аж даёначка ні памочана, (2 р.)
І каровачка да ні доена.

Пашлі дзетачкі к бацьку плачачы:
— Ты наш татачка, ты наш родненькі, (2 р.)
Скажы праўдачку, дзе дзеў матачку?
— Ваша матачка на кірмаш пашла:
Купіць спаднічку вам навенькую, (2 р.)
Купіць хустачку чырваненькую.
Селі дзетачкі да пад хатачку,
Чакаюць яны родну матачку.
Доўга сядзелі да пад хатачкай—
Ні дождаліся роднай матачкі.
— Ужэ соўнейка загарнулася—
Наша матачка ні вярнулася.
Пашлі дзетачкі к бацьку плачачы:
— Ты наш татачка, ты наш родненькі, (2 р.)
Скажы праўдачку, дзе дзеў матачку?
— Цыцьце, дзетачкі, вы маленькія:
Збудую хатачку я й навенькую, (2 р.)
Прывязу матачку маладзенькую!
— Згары-ж ты, татка, з новаю хаткай,
З новаю хаткай, з маладой маткай!
Пашлі дзетачкі ў поле, гукаючы,
Роднай матачкі магілкі шукаючы.
Знашлі дзетачкі лебядзіначку:
Роднай матачкі да магілачку.
— Устань, матачка, устань, родная,
Пачашы-ш ты нам да галовачкі, (2 р.)
Да памый-жа нам да сарочачкі.
— З богам, дзетачкі, вы маленькія,
Ні магу устаць галоўкі часаць: (2 р.)
Дубовы дошкі скавалі ножкі, (2 р.)
Жоўты пясочкі засыпалі вочкі.

Запісаў са слоў Волькі Крывадубскай на Случчыне
Ю. Гаўрук.

Сама яна пераняла гэту песьню на Віленшчыне ў м. Смаргоні.

---

## Сірочая вясельная

Знаць ты, зязюлінька, па палятанью,
Што нізінька ты лятаеш;
Знаць ты, Танячка, па паходаньцэ,
Што роднае маткі ты ня маеш.
Да двор шырокі, а збор нівялікі—
Ні ўся мая радзіначка:
Німа радзіны ні палавіны—
Роднае маткі нету.
Да пашлю-ж я салаўя з саду,
Да па матку на параду,

Сіву заўзюльку на ўкраіначку
Па сваю радзіначку.
Зяўзюлька ляціць—радзіна едзе,
Да хвалю-ж цібе, божа!
Салавейка ляціць—маей маткі нет,
Ах, мой моцны божа!
Яшчэ-ж салавей ні прылятае,
Мая матка й сама знае:
— Дзякуй, Танячка, дзякуй, дзіцятка,
За вясёлыя наказы...
Сырая зямля дзьверы залягла,
Акенечка засланіла:
Ні магу ўстаці к свайму дзіцяці
Парадунькі яму даці*).

*) Гэтая песьня мае шмат варыянтаў. Прыведзены—найлепшы па сіле патосу і эмоцыянальнай насычанасьці. Зьвярнеце увагу на выраз: —Ах, мой моцны божа! У другіх варыянтах гэтай песьні клічных зваротаў няма.

## Вясельныя

* *
*

Да каціўся крыштал да па сенажаці,
Меўся Мікалайка да Параску ўзяці,
Яна яму атказала: ні умею жаці,
Ні умею жаці, ячменю вязаці,
Хіба твая пшаніца ў полі зімавацьме,
Хіба твой ячменю на прасту ляжацьме.

* *
*

Да каціўся крыштал да па сенажаці,
Меўся Мікалайка да Параску ўзяці.
Ты-ж, мая Параска, як белая лілея:
Як я цібе ні бачу, маё сэрца млея,
Як я цібе пабачу, мне й павесялея.
Ты-ж, мая Параска, як ружовы кветы,
Як я цібе ні бачу, мне ні жыць на сьвеце.

## Пяюць па вясельлі

Прыляцелі два галупчыкі,
Селі-палі на акенячку,
Сталі яны буркаваці
Да Таняцэ праўду казаці,
Што Іванка п'яніца,
Вялікая нідбайніца:
Да што дзень то ў карчомцэ,
Што нідзелі ў карты йграе,

А дадому да ні думае.
Мілы-ж мае два галупчыкі,
Чаму тагды да ні казалі
Як міне да ні заручалі,
А ціпер да ні кажэце,
Майго сэрца ні сушэце:
Мае сэрца пірасушана,
Мой Іванка пірасужаны.

## На вячорках пяюць

Памру я, памру,
Да буду дзівіцца,
Ці будзе мой мілы
Да па мне журыцца.
Мілы ні журыўся,
Панам нарадзіўся,
Як прышлі дзеўчата
Цела навешчаці.
Дак ён выглядае
Каторую ўзяці:
— Узяў-бы дзеўчыну
С чорнымі ачыма.
Да ні магу ўзяці
За прыяцеліма.
Узяў-бы дзеўчыну
С чорнымі брывамі.
Да ні магу ўзяці
Да за варагамі.
Узяў-бы дзеўчыну
З русаю касою,
Да ні магу ўзяці
За яе сястрою.
— Каб яно ні даждала,
Штоб я умірала,
Каб я сваіх дзетачак
Ні пагадавала.
— Міла-ж мая, міла,
Што-ш ты мне зрабіла,
Ўчора была ўмершы,
А сягоньня жыва.
— Да я ні ўмірала,
Толькі так ляжала,
Да я ў цебе, мой міленькі,
Праўдунькі шукала.

Астатнія пяць песень запісаны на Случчыне ад З. Анташэўскай.

Ю. Гаўрук.

# Тэрміны: квас, кіслата і кісьліна

Нязвычайная блытаніна ва ўжываньні гэтых тэрмінаў патрабуе нарэшце конкрэтнага вырашэньня. Справа ідзе не аб тым, што правільна: квас, кіслата, кісьліна, кісьля ці кіслаць—усе пяць слоў беларускія і ўсе яны так ці йначай пашыраны. Важна, якое з гэтых слоў найбольш адпавядае навуковаму тэрміну acidum, якое з іх больш падыходзіць да ўжытку ў сэнсе мілагучнасьці, дастасаванасьці суфіксу, лёгказьменнасьці пры вытворных словах, якое з іх можа стаць рабочым тэрмінам. Тэрмін acidum у мовах ангельскай, француcкай, а таксама ў італьянскай перакладаецца так: the acid, l'acide, il acido, як бачыце, латынскі корань застаўлены бяз зьмены. Acidum—і як іменьнік і як прыметнік, азначае наогул нешта кіслае. Такім чынам гэта слова мае шырокі, усеахопны сэнс.

У беларускай мове корань латынскага acidum захаваўся ў слове воцат (acetum, le vinaigre), і можна было-б ужываць гэты тэрмін замест вышэй памянёных пяці слоў у сэнсе acidum, каб не перашкаджала гэтаму яго конкрэтнае значэньне (рас.—уксус).

Панямецку acidum—die Säure, (скарочаны прыметнік sauere, ад слова sauer—кіслы). Папольску acidum перадаецца словам kwas, паукраінску, паводле слоўніку Ізюмава, таксама. Парасійску—кислота. А як пабеларуску? У слоўніку Байкова і Гарэцкага чытаем: рас.—кислота, бел.—кісьля, квас.

Падручнік хэміі Сазонава і Вярхоўскага—усюды квас. Навуковыя выданьні Бел. Дзярж. Акад. Сел. Гаспадаркі—кісьля, кісьліна, кіслата.

Прапанова В. Ластоўскага—кіслаць.

У новым проэкце хэмічнай тэрмінолёгіі (выд. Інбелкульту)—кіслата.

Мы-б нічога ня мелі супраць перакладу тэрміну acidum словам квас, пашыраным і паукраінску і папольску, каб ня дзьве перашкоды, настолькі значныя, што нейк самі сабой адбіраюць ад гэтага слова правы грамадзянства ў сэнсе acidum.

Як і воцат, слова квас мае дужа прадметны, свой сэнс: квас—пітво асаблівага гатунку. Такім чынам конкрэтная асоцыяцыя, зьвязаная са словам квас, не супадае з агульнасьцю тэрміну acidum. У рабочым ужытку хэмікаў назіраецца безьліч іменьнікаў, дзеясловаў, і т. д., вытвараных ад тэрміну acidum. Прыняўшы тэрмін квас у сэнсе acidum, цяжка знайсьці адпаведныя суфіксы да кораню „квас“; каб перадаць гэтыя вытворныя словы, прыходзіцца зварочвацца да кораню „кісл“, а, значыцца, утвараць лішнюю падвойнасьць, пазбавіцца ад якой—наша задача.

Корань „кісл“ маюць чатыры словы: кісьля, кіслаць, кіслата і кісьліна. Трэба выбіраць з гэтых.

Кісьля не адпавядае тэрміну acidum, як слова задужа вобразнае. Можна абазваць чалавека кісьляй, можна сказаць—гэта ня кісель, а кісьля. Гіранічнае адценьне слова кісьля шкодзіць агульнасьці тэрміну.

Слова кіслаць больш адпавядае тэрміну acidum, але ўсё-ж пабеларуску мае ня столькі матар'яльнае, колькі якаснае значэньне. (Кінь есьці гэтую кіслаць. Нажэрліся кіслоцьця, а цяпер на жываты качаюцца). Прыняцьце слова кіслаць у сэнсе acidum, на наш погляд, было-б нацяжкай, ды й усёроўна суфікс „аць“ у словах вытворных павінен перайсьці

ў суфікс „от“—(кісьлаць, кісьлотны, кісьлотнасьць), што набліжае гэтае слова да слова кісьлата.

Самы галоўны довад супраць слова кісьлата ў сэнсе acidum,—гэта яго запазычанасьць з расійскае мовы. Мы ня хочам сказаць, што ў беларускай мове няма суфіксу „ат“, пад націскам „от“—такі суфікс ёсьць, але ён нехарактэрны. Апрача таго, суфікс „ат“, „от“, таксама як і суфікс „асьць“ служыць для азначэньня якасьці: гарката, белата, маркота, горкасьць і г. д. Значыцца, у беларускім разуменьні слова „кісьлата“, таксама як і „кісьласьць“, трэба успрыймаць не як матэрыю, а як якасьць, што супярэчыць тэрміну acidum.

Застановімся на разглядзе слова кісьліна. У народнай мове слова кісьліна часьцей ужываецца ў множным ліку—кісьліны і якраз азначае хэмічную матэрыю.

Вось прыклад:—Нешта самавар зазеляне́ў, чым-бы пачысьціць?—А ў цябе кісьлін няма?—Няма.—То добра, я дам—у мяне цэлая чаропка.

Кісьліны чысьціць самавар робяцца з хлеба альбо з ягад Sambucus'у (бэз, бузина). Скарынкі хлеба крышаць, мочаць і ставяць кіснуць, пакуль не атрымаецца кашка моцная, як воцат. Тое-ж самае і з ягадамі Sambucus'у,—іх цісьнуць і квасяць. Суфікс „ін“ конкрэтызуе слова: галіна, дубіна, баравіна, сыравіна, садовіна, гародніна і т. д. Суфікс „ін“ больш набліжаецца да беларускай мовы, чым суфікс „ат“. Суфікс „ін“—мілагучны і, як нельга лепей, дапасоўваецца да вытворных слоў—(кісьлінны, кісьліністы, кісьліннасьць і г. д.)

Такім чынам слова *кісьліна* найбольш падыходзіць, як рабочы тэрмін, у сэнсе acidum.

*Ю. Гаўрук.*

# БІБЛІАГРАФІЯ

## Крапіва. БАЙКІ.

БДВ. Менск. 1927. Ц. 45 кап. Тыр. 3000. Ст. 88.

Перадача чалавечых падзей праз перанясеньне іх на характэрныя асаблівасьці іншых істот, галоўным чынам на жывёлу альбо расьліну, надзвычайна раньні прыём у творчасьці. Пахаджэньне яго зразумела, калі ўявіць сабе соцыяльнае становішча чалавека ў пару яго поўнай залежнасьці ад прыроды. Прырода навакол, ён сам прырода—адсюль праявы надворнага парадку параўноўваюцца з праявамі ўласнымі і сынтэзуюцца як нешта аднолькава прычыннае. Пэўная заўсёдная якасьць жывёлы альбо расьліны спалучаецца з такою-ж чалавечаю і тады жывёла альбо расьліна робяцца сымбалем гэтай якасьці. Параўнаньні—х і т р ы, як л і с і ц а, м о ц н ы, як д у б, значна пазьнейшай формацыі; першыя чалавечыя параўнаньні былі: х і т р ы—л і с і ц а, м о ц н ы—д у б, што дае поўную анолёгію якасьці і прадмету. Якасьць уяўлялася толькі праз прадмет, шляхам конкрэтным, сынтэтычным, а не адцягненым слоўным, як гэта пры высокай матар'яльнай культуры з разьвітаю мовай.

Байка, як жанр, бязумоўна—прымітыў. Складанасьць нашага жыцьця выклікае складаныя процэсы і ў творчасьці. Байка, таксама, як песьня, быліна, казка, адыходзіць да народных памятнікаў і захоўваецца традыцыйна, галоўным чынам у вуснай перадачы. Але яна ня страціла сваёй вартасьці, яна і да гэтага часу прыводзіць у захапленьне самыя шырокія масы, вывучаецца на памяць хутчэй за лірыку. У школах, як непарушны мэтад, пры першым навучаньні пераважае над лірыкай байка. А таму, ня гледзячы на ўсё багацьце вершаў і ўбогасьць баек, мы ведаем апошнія куды лепш. Папулярнасьць байкі тлумачыцца яе даступнасьцю: баечныя сымбалі ня чытаюцца між радкоў, яны дадзены ў самых радкох настолькі ясна і проста, з такою выстарчальнаю паўнатой, што разумеюцца адразу і абы-кім.

Даступнасьць формы—не адзіная заслуга байкі: сюды далучаецца яшчэ і вастрата зьместу, неабходная для ўсякага сатырычнага жанру, а для байкі тым больш. Байка бяз солі—дрэнная байка. Адраджэньне байкі цяпер ідзе якраз ня столькі шляхам спрашчэньня формы і зьместу, сколькі шляхам максімальнага завастрэньня сатырычнага моманту.

З кароценькіх Эзопавых прозаічных сказаў байка разьвінулася ў досыць даўгое вершаванае апавяданьне, якое можна дзяліць і на часткі: накшталт уступу, дзеі, вываду і да т. п., якое мае цэлую сыстэму ня толькі асноўных, але і ўбочных, часта надзвычайна тонкіх вобразаў.

Байка вельмі моцная бронь для нападаньня. Але і другі бок прываблівае сатырыка пісаць байку—гэта яе недатыкальнасьць. Да байкі ня так лёгка прычапіцца як да звычайнае сатыры. Сатыра разьбірае прыватныя праявы, байка бярэ за тэму агульнае. Такім чынам, гэрой байкі, надзелены пэўнымі асаблівасьцямі характару, зьяўляецца тыпам для дадзеных асаблівасьцяй усюды.

Калі ў байцы выведзена неахайнасьць сьвіньні ў якасьці конкрэтнага прыкладу, дадзены вобраз зьяўляецца ўзорам для кожнага неахайніка: у гэтым агульнае байкі, адсюль і яе недатыкальнасьць.

Будзе гневацца хто, можа,
Толькі вышлі—акурат:
Калі самі няпрыгожы—
Ня вінуйце апарат.

—кажа Крапіва.

І ніхто ня мае права гневацца на яго пасобку, бо ён высьмейвае ўсіх, бо кожны можа знайсьці тую ці іншую сваю дрэнную рыску пад выведзеным усеахватным вобразам. У гэтым соцыяльнае значэньне байкі, у гэтым яе актуальнасьць для ўсіх часоў і народаў, яе доўгавечнасьць.

Дзяржавіна забываюць. Крылова не забудуць, хоць сабе ён і менш орыгінальны за Дзяржавіна.

Чым, чым, а рознастайнасьцю тыпаў байка ня можа пахваліцца—яна ўся грунтуецца на перайманьні: Ляфонтэн браў у Эзопа, Крылоў браў у Ляфонтэна, Крапіва бярэ ў Крылова і т. д.

Асноўныя чалавечыя тыпы, замацаваныя пэўным насьмешлівым сымбалем, як, напрыклад: асёл, казёл, конь, мядзьведзь, певень, салавей ды інш., ня выходзяць са сваіх

рамак і трэба вялікае ўмельства, каб рамкі былі няпрыкметнымі. Найбольш правільны прыём, якім карыстаецца і Крапіва,—гэта вызваць новую асоцыяцыю шляхам перамяшчэньня гэрояў у васяродак, знаёмы нам, але няпрывычны для іх.

Аслы былі заўсёды, а вось з мандатам аслы маглі зьявіцца толькі цяпер. Дзякуючы мандату, застарэлы тып ня траціць значэньня.

Як бачыце, Крапіва паказвае свайго „дзядзю пры с а в е ц к а й уладзе“.

Грунт, на якім топчуцца, скачуць і лётаюць яго гэроі,—гэта вёска, часам-жа і места, але не прамысловае буйнае места, а, так сказаць, тое места, адкуль паходзіць слова „мяшчанства“. Прышчэпка новых форм грамадзкага ладу да людзей старасьвецкага укладу—тэма Крапівы.

Вось крама, а ў краме мерае марксысцкім аршынам гандляр-павучок.

У савецкай гаспадарцы старшынёю брахун Жук. А то яшчэ казёл, які ўсіх лічыць шовіністымі, апрача сябе.

Крывыя людзі даюць крывыя парасткі, гнюсяць савецкі быт; да змаганьня з імі абуджае думку Крапіва, тыпізуючы елкім словам прыкрыя зьявы нашай сучаснасьці.

У Крапівы багаты, на рэдкасьць сакавіты народны лексікон. Беларуская мова, незаграмужджаная штучнасьцю наогул, у яго ачышчаецца да празрыстай конкрэтнасьці. Кожны сказ даведзены да пагаворкі, загушчаны да цытаты—рыса, агульная для ўсіх добрых байкапісцаў.

Нельга назваць мову Крапівы орыгінальнай, бо нічога свайго ён не падкідае ў тую крыніцу, адкуль чэрпае. Крапіва адзін з найбольш залежных ад колектыву пісьменьнікаў, як з боку слоўнага матар'ялу, так і тэматыкі, ён як павялічальнае шкло, у якім люструецца навакольле, а таму ён і блізкі масе.

Вось узоры мовы:

Ня страш ты бабу цяжкай працаі,—
Падласка кажа да быка.

Нібы ён не жадзён і цесту.

У мастакі каршун палез,
І стаў хваліцца на ўвесь лес.

Ну й розум! Вось дык галава!—
Ня раз гучэлі хвалы словы;
Другі дык чуць не цалаваў
Капыцікі асловы.

Парсюк наставіў хіб, парсюк разьюшан:
— Цераз цябе я чырванець прымушан!

Прабавіўшы ў хвасьце нямала часу,
Дабраўся ён, нарэшце, да вaконца,
Падаў і ліст і грошы ў касу.

Асьвятленьне быту розумам—неадкладная і важная задача для нашага будаўніцтва; творчасьць Крапівы дзейна дапамагае гэтаму, бо шмат каму „коле вочы“ голая праўда байкі. Шкодзіць разгледжанай кніжцы часамі грубасьць некаторых зваротаў, прыстасаваных бадай выключна на эфэкт, так, напрыклад—злоўжываньне словам б р ы д а.

Гэта—слабое месца Крапівы, але, ведаючы „Біблію“, ня можна, каб не павярнуцца тварам да „Баек“ і ў „Байках“ радасна вітаць рост сатырыка.

*Ю. Гаўрук.*

---

## Міхайла Грамыка. П Л Ы Н Ь.
## Лірычныя вершы і поэмы. БДВ. Менск. 1927. Ст. 138. Цана 80 кап.

*Сунічка і сэрца маё перагрэты.*
*М. Грамыка.*

Цяжка ўявіць Грамыку як поэта. Вершы яго друкаваліся па розных журналах і газэтах з даўняга часу. Як нашанівец, ён задужа малады, як маладняковец—задужа стары. Паасобных зборнікаў ня выпушчаў, акрэсьленага напрамку ня меў. Прабаваў быў калісьці зрабіць „гвалт над формай“, гвалт зрабіў, а форма разваліася, з таго часу блытаецца бяз формы, склейваючы словы „в поте лица своего“. Сумны лёс і сумныя вынікі.

Ня ведаем навошта Бел. Дзярж. Выд. ў 1927 г. выдала кніжку „Плынь“, таксама як перад гэтым кніжку „Дзьве поэмы“. У зборнік „Дзьве поэмы“ ўвайшлі „Крылан і Лясьнічанка“—творы, друкаваныя некалькі год назад у „Полымі“, пасьля перадрукаваныя ў „Выпісах“ Дзяржынскага (поэма „Лясьнічанка“). У зборніку „Плынь“ зноў перадрукі —тут мы спаткаем і „Гвалт над формай“ і „Сямімільнымі крокамі“ і „Мільён“ і... і... і яшчэ цэлую нізку твораў, выцягнутых з „Леты“. Гэтыя творы не заслугоўвалі вялікай увагі калісьці, а цяпер, дык і зусім непатрэбны. А тым часам Бел. Дзярж. Выд. скардзіцца на кніжную заваль.

Спачатку аб назьве. Што за „плынь“? Якая „плынь“?—рэволюцыйная, адраджэнцкая, формальна-мастацкая? З якога боку не пачынайце чытаць зборнік—ніякай плыні, усё перамешана, пераблытана: многа шуканьняў, жаднай вынаходкі.

Каб М. Грамыка быў пачынальнік—тады можна прабачыць, але-ж ён пісьменьнік са стажам і чытач мае поўнае права крыўдзіцца на БДВ за дарэмна патрачаныя 80 кап. Замест сьвежай і моцнай плыні, набоўтацца ў „азярынцы - балоцейку“—невялікае шчасьце. Ах, як вузка, ах, як плытка і пуста ў зборніку! Калі і ёсьць дзе кропля поэзіі, дык хіба толькі ў матывах павяданьня ды дзіцячых калыханках.

Падаём дальве такія кроплі:

...Але бывае зацішнаю, вольнай парою
Сьцісьнецца нешта ў грудзёх, і балючай што раз на вяку.
Сокі палёў пераймаюцца неяк ў сьлязіну.
Сонца заходзіць. Рыхтуецца выляцець шпак.
Сумна гляджу на чырвоную ўдоўку рабіну.
Многа стаіць іх на восень па нашай краіне.
Сьпіць пад аднэй шэравокая Ванда Карсак.
(Ванда Карсак. Ст. 80.)

...„Люлі, люлі. Жыў каток,
Хадзіў, шэры, у садок,
У садочку птушачкі,
Мышачкі—зьвярушачкі
Коціка спужаліся,
Раптам пахаваліся.
Верабейка скок на плот
—„Гі-гі... гу!“
(Дзіця. Ст. 40.)

Гэта поэма чамусьці папала ў разьдзел „грамадзкае“ (!?).

Яшчэ нічога, каб у Грамыкі пападаліся закончаныя добрыя рэчы, але ён абавязкова прыпсуе твор альбо няправільным звароткам, альбо дрэнным вобразам альбо яшчэ чымнебудзь. Нікнуць кроплі, пакрываюцца іржою агульнага „балоцейка“.

У поэме „Ванда Карсак“ вы спаткаеце:

...Слоў ня было. Толькі вочкі ды зубкі —пачатак.
—„Ванда Карсак!“, свой дзяўчына азначыла род.
Што за імя? Мо‘ прыдумала зубкам ўдадатак.

Дзіўная асоцыяцыя! Мы ўпэўнены, што Ванда прыдумала сваё імя „зубкам ў дадатак“ толькі для рыфмы к слову „пачатак“, а, правільней, сама аўтар за яе прыдумаў.

А вось зноў, адтуль-жа:

— Вам як здалося?—пытаньнем я даў на пытаньне.

Які сынтакс!

У поэме „Дзіця“ наколецеся на сапраўдныя пэрлы:

. Малпаў нам кроўных цікавы язык (!?),
Пра-пра-арыйскія мяккія гукі...
— „Аа мма-а-нна-а-льле“—

Тут Грамыка прабуе аздобіць поэзію навукай.

У яго творчасьці ёсьць плыні *мовазнаўчыя*—(пра-пра-арыйскія мяккія (?) гукі), *геаграфічныя:*

Поўнач мінулася. Дзіцятка сьпіць.
Нешта пад чэрапам мякенькім сьніць—
І усьміхаецца антыцыклёну.

*Мінэралёгічныя:*

Гайкі і паркі—на парад!
Гараць струмені ў сто карат.

Першы раз чуем, каб струмені, гарэлі, і нідзе, апрача Грамыкі, не маглі даведацца, каб струмені важылі на караты.

І ногі мне сякуць пад пенай кругдякі.

Кругдякі не сякуць, а муляюцца.

*Піротэхнічныя:*

Моцна гранаткі трымае пояс;
Добра пад хвойкаю сьпіцца.

Чаму гранаткі, а не гранаты? Небясьпечная цацка!

*Сельска-гаспадарчыя:*

Праз Польшчу, Рыгу, Сэвастоплі
Паразьляталіся ў бакі,
Бо быў народ гатовы кроплі
Праліць з суровае рукі,
Каб зьберагчы свае каноплі.

Кроплі чаго? поту ці крыві? хіба можа алею? Ня трэба так захпляцца рыфмай т. Грамыка: Сэвастоплі, кроплі, каноплі—багатая рыфма, але ў вас яна ні да ладу, ні да складу, асабліва гэтыя каноплі, сьмех адзін!

На вогнішчах босыя маюць
Ужо слуцкія бэры,—ня дулі.

На вогнішчах ігрушы растуць,—як скора! Адно запытаньне: як разумець слова „дулі“? ці гэта „хвігі“ такога гатунку як у Ядвігіна Ш., ці гэта тыя „дулі“, што ядуць, напрыклад—украінскія? Калі украінскія, дык параўнаньне Грамыкі—бязглуздзіца. Украінскія дулі ня горшыя ад слуцкіх бэр.

Калючы дрот пайшоў ў атосы.

Трэба—„на атосы“. Ды й хто гэта робіць з калючага дроту атосы? Гэта-ж людзей і жывёлу пакалечыць можна.

Газэта шмат чаго нясе
Ад цэнтру-рупнага—касе.

Газэта нясе касе? Аўтар мабыць хацеў сказаць касцу, дык трэба было і гаварыць касцу.

*Зоолёгічныя:*

Эх, добра і жабкаю шэраю быць,
Эх, добра ў вірочку між аіраў жыць!
Ня хочу быць птушкай, арлом-сакалом,
Ды лётаць у вершах за іхнім хвастом.

Вельмі пахвальна! Ня поп—не адзявайся ў рызу. А ўсё-ж хацелася-б быць арлом-сакалом, хацелася-б, ды, мабыць, не ўдаецца.

*Па мітолёгіі:*

Слова народнае—Ф р ы н а
З поэтай прыдбае нам сына.

Нешта ня верыцца!

*Па гісторыі:*

...дзяўчына,
Што песьні ў полі сьпявае
І творчыя словы раджае
Ляпей за старога С к а р ы н у.

Не здагадаешся як разумець: ці конкрэтна ці агульна. Брыдкі, недарэчны вобраз! Дзяўчына раджае лепш за старога Скарыну—ай, ай!

*Па гігіене і соц. выхаваньні:*

— „Зараз малому я естачкі дам!“
Грудзі малому—і в е р а і х р а м.

т. Грамыка вы іронізуеце ці сур'ёзна?

Ужо скачуць малыя,
Рассуньцесь старыя,—
П а р к е т у, п а р к е т у дзяцём!

Навошта гэта старамоднае слова „паркету“?

*Па літаратуры:*

Гартны, Гартны, пясьняр пролетарыяў,
Што злучыліся вось а д т а т а р ы і.

Слова „татарыя“, відаць, сымболізуе „ўсход“!. Няма чаго сказаць—ясны вобраз, дужа ясны. Вы думаеце няма *космографічнай плыні?* Ёсьць, паважаны чытач. Думаеце няма *крапіла і кадзіла?* Таксама ёсьць, але Грамыка заменьвае гэты опіум роснымі травамі хвойнымі пахамі.

Росныя травы—хай будуць к р а п і л а м!
Хвойныя пахі—нязьменным (!) к а д з і л а м!
Сьвечкамі—Зоркі: між іх: В а л а п а с,
Р э я, і Р ы б ы, і Р у ж а, П э г а с...
Прага да ведаў—і звонам і білам!

Ніхто ня будзе спрачацца адносна прагі да ведаў, толькі навошта аджыўляць дыдактыку? Каму карысьць ад вершаванага падручніка, ці ня лепш прозаю?—а то сапраўды выходзіць, як кажа аўтар,—і звонам і білам.

Адным словам Грамыка хоча:

Каб ў вёску трапляла
Дасьледзьдзе навукі
І словы Купалы,
І Гартнага г у к і.

Добрае пажаданьне, але ня новае. Чытайце ў Някрасава:

... Придет ли времячко,
Когда мужик не Блюхера
И не милорда глупого—
Белинского и Гоголя
С базара понесет.

Грамыка—*рэво.люцыйны народнік-романтык:* аднэй нагою стаіць *на Някрасаве,* другою ўпёрся *ў Блока.*

Дык-жа на ўсім сьвеце
Вецер, братка, вецер,
Завіруха круціць.—

Поэма „Мільён“, а мы думалі „Дванаццаць“. І ня сорамна аўтару, хоць-бы спаслаўся на об'ект натхненьня.

Пушкін калісьці ўдала назваў Княжніна „переимчивым“. Грамыка можа ня столькі *пераймальнік,* сколькі *аналітык:* хоча паказаць у сваёй творчасьці ўсіх і ўсё, але не ператравіў уплываў.

У кніжцы „Плынь“ вы знойдзеце тое-сёе *ад Гаруна:*

Вогнік, вогнік
Скача ноччу
Патарочай і т. д.

Тое-сёе ад *М. Багдановіча:* „Мініятуркі“. І, трэба зазначыць,—брыдкія мініятуркі, хоцьбы такі вобраз:

Чэрава з чэравам ціха суседзяць—
гэта на могілках.

Ці-ж нябожчыкаў кладуць чэрава з чэравам? Побач кладуць, т. Грамыка, побач!

Альбо—

Портрэт, ці бюст ці слоў вянок,—
Хіба мо' с п а ц ь л а т в е й, я к г э н і?!

Дадушы ня ведаем прычым тут гэні, а што спаць латвей—гэта праўда. т. Грамыка сам любіць „летнія адпачынкі“ (гл. ст. 52).

На стар. 6 чытайце:

Усё цікавіць зрок: пахілыя хібаркі,
Чаўны, што заляглі н а б р э з е (!)
адпачыць,
Як самавітыя, бязмоўныя таварк',
Ды і рыбалка сам, што ў н е б а
т в а р а м с ь п і ц ь.

Хто як! Некаторыя сапраўды сьпяць у неба тварам.

Тое-сёе *ад Коласа:*

Ганна—любая дзяўчына.
У Ганны вочкі, што вірок.
Калі-ж хлопец—малайчына,
Знойдзе ў сэрцы ён куток.

Тое-сёе *ад Лермантава:*

Далі нязнаныя, хмарачкі зноў тыя
Ветрам ад захаду дзесь адарваныя,
Голыя сьцежкі дажатых палян.
(Тучки небесные, вечные странники!)

І нават тое-сёе *ад Жукоўскага* і *Дунін-Марцінкевіча:*

„Пад б у б я н ц ы (!)“—(засьцянковыя матывы), поэма „Дзіця“ — (баляднага тыпу), не памінаючы, таго-сяго *ад „Чароціка“* (!), *„Ясакарыка“* (!) ды іншых.

Нарэшце падаём невялічкі конгломэрат паасобных недарэчнасьцяй, падалі-б вялікі, ды баімся замарыць чытача—і без таго заморыцца, калі прачытае кніжку.

1) Бязьберажжа твае а б ш а р н а е (!)
прасторы.

Навошта „абшарнае“, калі ёсьць „бязьберажжа“ і „прастора“?

2) Браток яе г у л я е ц ц а (!) ў пясочку.
3) Ён ім паверыў, ён і м (?) варт.
4) Ёй адно толькі,—жыць ёй ахвота,
Г р ы з ь ц і к н і ж к у (!?), стаяць
каля плоту.

Можна грызьці граніт навукі. Кніжку таксама

можна грызьці. Адзін дэрвіш, каб стаць мудрэйшым, зьеў коран—атрымаў нястраўнасьць і ня стаў мудрэйшым.

5) А званіца у попел (!) крышыцца.

6) Цені ходзяць ўздоўж аборы,—

Вунь пільнуюць с т а й н і ў х о д (?).

Хто пільнуе ўход, цені ці стайні? Чаму „ўход“, а не ўвахол?

7) Зноў на коні, зноў на сані!
У грудзі белыя сьнягоў!
П а з д а р о в а (!), вёска-пані,
Разьвіталіся : б о ў-б о ў (!)!

Чаму ня „бом-бом“? Так толькі сабакі брэшуць— „боў-боў“. Ах, гэтая рыфма, да чаго яна даводзіць!

Нацяжка для рыфмы—у Грамыкі звычайная рэч. Ён любіць рыфмы *барабанныя*:

Тра-та! Ля-ля!
Гудзіць зямля!

*дзеяслоўныя*: з ь в я р н у с ь, м а л ю с ь, д з і ў л ю с ь, х в а л ю с ь — (гэта ўсё ў аднэй страфе),
*трайныя*: б е р а г і н я м, б а г і н я м' к н я г і н я м. (Які нясмачны падбор!)
А часамі ўвесь верш цягне на *аднолькавыя* рыфмы, не дацягне: рыфмы ня хопіць, саб'ецца, некалькі раз паўторыцца і пяройдзе на рознастайныя— („Касавіца“).

Слабасьць рыфмы цесна зьвязана з агульнай немілагучнасьцю вершаў. Колькі „//“ там, дзе ня трэба. Некаторыя звароткі нагадваюць сьлібізаваньне:

Гэта май, гэта май! Мо' і мой гэта час!

Ёсьць мясьціны, у якіх, дзякуючы няправільнаму словаўпарадкаваньню, пападаюцца дзікія шурпатасьці:

Раскьвеціўся к а б зноў.
Аблакоў грамады я к чакалі.

У Грамыкі ёсьць „эмоцыянальнасьць, але яна не вызывае эмоцый у тым напрамку, у якім-бы хацелася гэтага аўтару.

Ножкі ў скочкі, вочкі ў вочкі,
Гэта-ж полечка, браточкі!

Ня ведаеш ці сьмяяцца, ці аднесьціся сур'ёзна, ці праняцца пяшчотна - ласкавым настроем.

Браточкі, браточкі мае!
У вочкі, у вашыя вочкі
Дайце цяпер зазірнуць!
Вашага с у д у г л ы н у ц ь.

Колькі гэтых вочак, пісклятак ды ягнятак! („Ой, ягняткі, ой, піскляткі!“) Аўтару—пяшчоты, а чытачу—сьмех і злосьць.

Грамыка шмат увагі аддае мотывам прыроды, моліцца паганскім багом: Пяруну, Велесу, адчувае, што ён сам—бог, сёньня ён—Адам у раю, а заўтра—Ярыла-ігрун, калі што ўздумаецца. Мы-б не палічылі за адмоўнае пантэістычны сьветагляд Грамыкі, каб былі ўпэўнены, што ён не стылізуецца. А то як тут верыць, калі ў другім месцы вы пачуеце:

Над „купалаў“ усіх я Купала.—

Гэта нават не бахвальства, а проста неразуменьне свайго „я“—адсутнасьць філёзофскага стрыжню, бо як можна іначай тлумачыць такую супярэчнасьць:

Ня хочу быць птушкай, арлом-сакалом,
Ды лётаць у вершах за іхнім хвастом,

хочу быць шэраю жабкаю, і раптам сказаць над „купалаў“.

У разьдзеле „Грамадзкае“ ён прабуе вызначыць істотныя рысы беларуса ў досыць добрым вершы „Нашая кроў“, прабуе прасьпяваць маладняцкі гімн, прабуе вітаць Кастрычнік, але далей — „Ура Кастрычніку ура!“ — не пайшоў.
У другіх вершах спасылаецца на сівізну і трактуе мотывы каханьня: разьдзел „Рытмы каханьня“. (Чаму рытмы?)
У разьдзел „Асабістае“ Грамыка загнаў поэмы. Назвы разьдзелаў прыцягнены за вушы і ня зьвязаны з композыцыяй кніжкі, ды гэта заразумела, бо вершы пісаліся без орыентацыі на цэлае. Як іх не ператасоўвае аўтар, яны ўсёроўна адсыпаюцца назад на старонкі старых журналаў.
Слабей за ўсё лірыка, крышку мацней поэмы.

Грамыка радзіць:

...К і н ь л і р н і к л і р н і ч а ц ь
л і р ы ч н а,
Сьпявай мацней!
Смык нацягні, а драматычна,
А весялей!
А л е ю л і, а л е ю х о п і ц ь
У д у ш ы т в а ё й.

З канапель цісьнуць алей можна, але на вошта залівадь алеем душу—вершы на алезанадта посныя.
Сумна, таварышы.

*Ю. Гайрук.*

---

# У З В Ы Ш Ш А.

**Часопіс літаратуры, мастацтва і крытыкі беларускага літаратурна-мастацкага згуртаваньня „Узвышша“ № 3. Менск—1927. 192 стар. Цана 1 руб. 25 кап.**

Часопіс літаратурна-мастацкага згуртаваньня „Узвышша“, выступіўшы на арэну беларускай літаратуры ў ролі трэцяй тоўстай часопісі выклікала была адразу некаторае ажыўленьне ў нашым літаратурным жыцьці. Тут можна напамянуць тую, ня зусім у нас звычайную, зацікаўленасьць да новага літаратурнага зьявішча, якая была выказана грамадтвам у часе разгляду часопісі „Узвышша“ на першых сходах Беларускай фэдэрацыі

пісьменьнікаў. Гэтая зацікаўленасьць можа быць растлумачана з аднаго боку досыць павольным поступам разьвіцьця літаратуры ў апошні час, а з другога боку стараннай і ўважлівай працай над „Узвышшам“ яго выдаўцоў. Ва ўсякім разе новая часопісь была прынята нашым грамадзтвам і чытачамі і да некаторае ступені заваявала іх сымпатыі. Гэта ставіць перад рэдакцыйнай колегіяй заданьне клапаціцца аб тым, каб задаволіць прагнасьць чытачоў да мастацкай літаратуры вытрыманым па зьместу і па форме матар'ялам.

Наша мастацкая проза доўга чакала буйных твораў і загэтым зразумела, што, калі ў апошнія часы яны пачалі зьяўляцца ў друку, чытачы адносяцца да іх асабліва ўважліва. З буйных твораў друкуюцца ў „Узвышшы“ (у гэтым нумары ўжо працягам) аповесьць З. Бядулі „Салавей“ і роман Кузьмы Чорнага „Сястра“.

„Салавей“ З. Бядулі мае здольнасьць заінтрыгаваць і аповесьць чытаецца з цікавасьцю, але яна мае орыгінальную асаблівасьць, за якою ўсё-ж такі нельга прызнаць станоўчы характар. Чытаючы гістарычную аповесьць, зусім зразумела ўзьнікае жаданьне адчуць подых гэнай эпохі, калі можна гэтак сказаць, перанясьціся ў яе. Гэта патрабуе ад пісьменьніка выяўленьня ў выразных рысах фону эпохі ў грамадзка-соцыяльных і культурна-бытавых пераламленьнях яе жыцьця, але ў „Салаўі“ пераважная увага аддадзена абмалёўцы характараў пэрсонажаў аповесьці, напр., пана Вашамірскага, самога Салаўя, ксяндза Марцэвіча, пані Вашамірскай, а ў нумары, які разглядаем, розных гасьцей на балі у пана Вашамірскага, як „фальварковага поэты“ Вольскага, шляхціца Завішшы і іншых. Наогул гістарычны колёрыт у „Салаўі“ нейкі надта рэдкі, некаторыя мясьціны нагадваюць якраз не васемнаццатае стагодзьдзе, а сучаснае, так што яшчэ невядома ці вытрымае аповесьць строгую крытыку, але напісана яна з майстэрствам і чытаецца цікава і лёгка.

Кузьма Чорны ўзяўся пісаць вялікі і паважны твор—роман у чатырох частках пад назваю „Сястра“. Як ён здолее выканаць гэтую працу сказаць яшчэ нельга, можна толькі адзначыць імкненьне аўтара да падрабязнага аналізу бытавых і псыхічных праяў жыцьця сучасных людзей, пакуль толькі ў гарадзкім асяродзьдзі. Відаць, лепш за ўсё ўдадуцца характары заўсёды вясёлага нейкаю нутраной вясёласьцю старога мешчаніна Радзівона Цівунчыка і задумённа-бясклопатнага маладога таксатара Вацi Браніслаўца. Чытаецца „Сястра“ даволі цяжка, можа затым, што падрабязны аналіз наогул рэч крапатлівая і трошкі нудная. Было-б на наш погляд ня дрэнна, каб аўтар ажывіў свой роман ну хаця-б хутчэйшым разьвіцьцём сюжэту, а то бывае часам вось як:

... „між Абрамам Ватасонам і Вацем Браніслаўцам адбылася кароценькая выпадковая гаворка, яна нічога ня высьветліла ні аднаму ні другому“ і ў романе таксама адбываюцца нават і доўгія гутаркі, якія нічога не высьвятляюць чытачу, затым што папярэднім разьвіцьцём роману ён да іх зусім не падрыхтаваны, і яны даносяцца да яго як быццам аднекуль з-за кулісаў.

Шчыра раілі-б аўтару унікаць падобных рэчаў, бо яны робяць і так ня надта вясёлы роман,—агорнуты колёрытам прадвясеньняга шэрага дню і чорнае ночы,—часам лішне нудным. Але будзем спадзявацца, што тое „здарэньне“, якое аўтар абяцае даць у далейшым, будзе пададзена жыва і цікава.

Апрача буйных прозаічных твораў, у часопісі зьмешчана некалькі дробных. З іх самае лепшае ўражаньне робіць вельмі мастацкі і прыгожы верш у прозе—імпрэсія В. Гараўскага „Скрыпка“. Гэты твор дае поўную мажлівасьць прызнаць аўтара таленавітым і пажадаць новаму пісьменьніку прогрэсыўнага разьвіцьця.

Побач з гэтым толькі дзіву даешся якім чынам магло зьявіцца на старонках „Узвышша“ апавяданьне—новэля Г. А. Мрыя „Няпросты чалавек“. Некалькімі мазкамі неяк насьпех намалёван характар гэтага „няпростага чалавека“, пры чым т. Г. А. Мрый ня мог ніяк абыйсьціся без простытутак. Мы гэтай заўвагай далёка ня хочам абмяжоўваць творчасьць нават такіх новэлістых, як т. Г. А. Мрый, але ва ўсякім разе трэба памятаць, што, закранаючы якую-небудзь балючую зьяву соцыяльнага парадку, пісьменьніку неабходна мець належныя соцыяльны крытэры і выстарчальна разьвітую соцыяльную чуласьць—толькі тады ён здолее падаць гэтую зьяву ў належным асьвятленьні. Падаваць-жа падобныя рэчы фотографічна, як гэта зрабіў т. Г. А. Мрый, справа досыць рызыкоўная, нават і тады калі такая фотографія будзе тыповай.

Справа ў тым, што чытачы могуць не згадзіцца з абыякавым поглядам новэлістага на такую зьяву і яна тады можа выклікаць у іх тую эмоцыю, што парасейску завецца „отвращение“.

Апрача гэтых твораў у часопісі зьмешчаны цікавыя новэлі Крапівы і адрывак з аповесьці Тараса Гушчы „У глыбі Палесься“. Адрывак, у якім малюецца рэвалюцыйнае усьведамленьне маладога настаўніка ў гады рэакцыі, чытаецца з захопнай цікавасьцю, але ўсё-ж ці варта друкаваць у часопісі адрыўкі ў несыстэматычным парадку.

Пяройдзем цяпер да разгляду зьмешчаных у часопісі поэзій або вершаў. Першымі ідуць тры вершы Язэпа Пушчы пад назваю „З поэмы „Песьня вайны“ (1915 г.)“, ёю пачынаецца часопісь. Лепшае ўражаньне пакідае

досыць прыгожы і моцна напісаны другі верш „У хмарах зьвіліся маланкі намітусь,"— чытаючы яго, жыва адчуваецца жах і роспач і сум, які нясе з сабою вайна і толькі, калі падыдзеш да патэтычнага выкрыку „Плянэту катуюць!" то міжвольна хочацца крыкнуць: „Ратуйце!" Першы верш „Гарматны гром кругом" трошкі непадобны да другога, але, чытаючы і яго, адчуваецца сапраўдная жудасьць—такі гарматны бой узьняў там поэта. Праўда, так жудасна толькі спачатку, а пад канец калі ўгледзіш здалёк „п о м н і к ч о р н ы х д з ё н, ж а л о б н ы д у х с а л ю т" робіцца крыху весялей. Якое дачыненьне да песьні вайны мае „м а я п р ы г о ж а я!... з г р а ц ы я й а н т ы ч н а й л е с ь б і я н к і" (трэці верш)—згадаць даволі цяжка.

Ліра Уладзімера Дубоўкі, Пятра Глебкі і Сяргея Дарожнага звонка і часам прыгожа гучыць мэлёдыяй асабовае лірыкі, ім падпявае вузорным прымітывам Максім Лужанін і „нібыта" Кляшторны і Янка Бобрык. За лёс апошняга поэты поўнага палкіх імкненьняў робіцца неяк боязна, калі ён пасьля урачыстага абяцаньня „галаву над чаркаю ня зьвешу" зьбіраецца ляцець у вагонь. У вершы Сяргея Дарожнага „Веянь" спыняе на сябе увагу цікавая антытэза—васеньнія мотывы і бадзёрыя маладыя настроі. У вершах Уладзімера Жылкі захапляе паглыблёнасьць думкі і мастацкая вытрыманасьць разам з эмоцыянальнай сілай. Асобна стаяць Алесь Звонак і Крапіва. Першы дае урбанічны мотыў у вершы „Бяспрытульнаму", а другі дзьве сатыры—байкі: „Чорт"—„прысьвечаная" некаторым крытыкам і „Саманадзейны конь". У аддзеле мастацтва і крытыкі зьмешчаны досьледы Уладзімера Дубоўкі „Рыфма ў беларускай народнай творчасьці" і А. Бабарэкі „Поэма „Сымон Музыка" Якуба Коласа". Юры Бярозка даў утылітарна—практычны артыкул „Проблемы прыгодніцкага роману", далей друкуецца працяг нарысу проф. І. Замоціна „М. А. Багдановіч"; К. Кундзіш даў агляд поэзіі Цішкі Гартнага ў артыкуле „Sine ira et studio", латынская назва якога не пакідае, мабыць, ніякага месца для сумненьня ў яго навуковасьці. Зьмешчаны яшчэ інформацыйныя нарысы аб сучасным беларускім тэатры, армянскай і японскай літаратуры, што зьяўляецца вельмі карысным, і ў канцы часопісі артыкул С. Замбржыцкага „Нацягваньне чужога халата", у якім аўтар полемізуе з проф. Піотуховічам адносна разуменьня творчасьці Максіма Багдановіча.

Наогул нумар багаты і рознастайны па зьместу, як бачым, у галіне прозы пададзены амаль ня ўсе жанры ад імпрэсіі да роману, далей рознастайныя мотывы ў вершах і рознастайны зьмест крытычна-мастацкага аддзелу. Гэта робіць часопісь карыснай і патрэбнай.

*А. Лясны.*

---

## Р О С К В І Т № 1.

**Вытворчасьць Беларускае Літаратурна-Мастацкае Камуны. Менск. Сьнежань 1927—студзень 1928. Тыр. 2000. Ст. 144. Цана 1 руб.**

З выхадам у сьвет часоп. „Росквіт", група маладых беларускіх поэтаў і пісьменьнікаў выкінула сьцяг левага літаратурнага фронту. Мінаючы традыцыйнасьць абвяшчэньня дэклярацыі, новае літаратурнае згуртаваньне выставіла лёзунгам: „не дэклярацыяй, а творчасьцю" і гэткім чынам адсылае чытача да азнаямленьня з ідэёвым і мастацкім напрамкам непасрэдна да самое часопісі.

Часопісь адчыняецца шэрагам вершаў Паўлюка Шукайлы, якія заклікаюць да новага будаўніцтва:

Эх,
націсьнем хлопцы
на баянах,
Кулямі сэрца
страляй адважней
па людзях
васількова—бур'янных. (6)
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Браткі мае,
у мазгох і душы
адчынеце вентылятары,
вочы палкія
накіруйце на жыцьцё (5)

Найбольш мастацкі-вытрыманым з вершаў П. Шукайлы прыходзіцца лічыць „Паравоз":

Гэта было
ў семнаццатым годзе
На чыгунцы,
што называецца жыцьцё.
Мы выехалі
на чорным паравозе
Грукочучы
сталёвасьцю калёс... (7)

Гэты верш адрозьніваецца ад іншых большай рытмічнасьцю, але, на жаль, слабой рыфмай. Апошняе шкодзіць, наогул, амаль усім, зьмешчаным у часоп. вершам П. Шукайлы. Таксама мінусам мастацкасьці трэба лічыць суб'ектывісцкі падыход да распрацоўкі тэм, што асабліва адбіваецца ў трох апошніх вершах: „Аднаму з Заходняй Беларусі", „Я іду наперад!" „Сястрыцы Любе".

За П. Шукайлам у часоп. зьвяртаюць на сябе увагу вершы Я. Відука:

Жыцьцё ня нуль
і ня гульня ў шахматы—
тут трэба больш
мазгамі шавяліць. (72)

Можна згадзіцца поўнасьцю, і мала хто будзе спрачацца з гэтым. Але мусіць сам Я. Відук памятае аб гэтым не заўсёды, бо ў іншым выпадку ён-бы ніколі не прагледзеў, што горад багаты ня толькі наступнымі малюнкамі і псыхолёгічнымі момантамі:

Што Вы сягоньня
такі нейкі хмурны,
скажыце
разьвесяліць Вас
можна?..
З цемнаты голас буркнуў:
„курррва",
а за ім пракаціўся
рогат (77)

Горад—асяродак прамысловасьці і культуры і бясспрэчна можа даць тэму і матар'ял і апроч гэткага малюнку, тыповага для тых, хто піша „пад Есеніна".

Вершы іншых аўтараў, менавіта: А. Атавы, Я. Сукалы, Р. Казака і П. Броўкі—падтрымліваюць агульны лейт-мотыў усіх вершаваных твораў, які проста можа быць выражаны так: „Я іду наперад, я малады, я бадзёры". Гэткая імпэтнасьць бязумоўна дадатна, але бяз шчыльнай мастацкай сувязі з сучасным жыцьцём і будаўніцтвам мітынговасьць, характэрная для твораў большасьці з памянёных поэтаў, ня можа быць у здавальняючай ступені актуальнай у эпоху соцыялістычнага будаўніцтва.

Некаторыя вершы не пазбаўлены недахопаў у галіне стылістыкі і вобразнасьці:

Здаволена,
'Шчэ й як здаволена!
Сама казала
— Кахаю музыку
На вуліцы
У вечары;
І з ёю,
І з песьнямі—
Жыцьцё сваё зьвязала:
Піць золак—
Віно піць
Шчасьлівае пары...
(„Ганя". А. Атава. ст. 94)

Па-першае: музыку можна „любіць", а не „кахаць", „кахаць" можна толькі музыку; па-другое: млявасьць адчуваньня не ўласьцівая для „дачкі жвірыстых гоняў"—руйнуе мастацкае адзінства пабудовы вершу, а таксама выбівае аўтара з лефаўскага сядла.

Амаль тое самае можна сказаць і адносна вершу Р. Казака „У вагоне":

— Ня ведаю чаму,
ня ведаю сама...
Чаўхірку пацалункаў
хочацца гатовую
атрымаць. (108)

Паміж вершамі варты увагі чытача добры пераклад А. М. з Уот Уітмэна „Песьня пра радасьць".

З прозаічных твораў у першую чаргу трэба адзначыць апов. А. Гародні „Варта на Рэйне". Аповесьць ахоплівае падзеі ў Нямеччыне, Расіі і на Беларусі з даваенных часоў і да часу перамогі Носке над паўстаньнем Спартакаўцаў.

Аўтар прымушвае чытача вандраваць з краю ў край, з гораду ў горад у залежнасьці ад перасоўваньня гэроя апов. Альфрэда Кляйна.

Аповесьць пабудавана па сцэнарыйнаму прынцыпу, што часам шкодзіць мастацкасьці эпізодаў, з якіх складаецца ўвесь твор, і якія зьвязваюцца аднэй тэмай і цэнтральнымі пэрсонажамі. Слаба распрацаваны малюнкі перадваеннага жыцьця Нямеччыны, а таксама ня поўна пададзены галоўныя рысы нямецкай окупацыі на Беларусі. Напр., толькі зьлёгку крануты вельмі дзейны момант—беларускі паўстанцкі рух—у часы окупацыі.

„Фэльетон аб сапраўднасьці, (Дзядок), які ідзе пад назвай „Падхалім" можна-б было назваць досыць добрым апав. у жанры Чэхава, каб яму ня шкодзілі дыдактычная назва і рыторычны канчатак.

Крытычная частка прадстаўлена ў часоп. арт. проф. М. М. Піотуховіча „Творчасьць Цішкі Гартнага" і войстрым артыкулам—памфлетам П. Шукайлы „Літаратурнае сёньня".

Апроч усяго памянёнага ў часоп. сустракаем пераклад арт. М. Бухарына: „Аб даўніх традыцыях і сучасным культурным будаўніцтве.

Бібліаграфічны аддзел слабы: усяго на ўсяго адна рэцэнзія на зборнік А. Аляксандровіча: „Угрунь"

Агульнае ўражаньне:
з выхадам часоп. „Росквіт" № 1, новае літаратурнае згуртаваньне ня выявіла, як належыць, свайго сталага твару.

Але бадзёрасьць і мэтаімкнёнасьць беларускіх лефаўцаў даваляюць спадзявацца, што можа калі-небудзь яны заменяць свае вершаваныя лёзунгі сапраўды „не дэкларацыяй, а творчасьцю". Пажывём—пабачым.

*А. Аляксеяў.*

## СЬВІТАНЬНЕ № 1 (2)

**Літаратурны зборнік Віцебскай філіі „Маладняка“ пад рэдакцыяй Я. І. Мазуркевіча. Віцебск 1927 г. Цана 50 кап.**

Першае, што кідаецца ў вочы ў гэтым зборніку—вялікая колькасьць вершаў і пры тым разьмяркованых так, што прадстаўляюць некалькі мініятурных зборнічкаў некалькіх поэтаў, якія іх выдалі ў аднэй кніжцы. З боку настрояў і тэматыкі яны аднастайныя, як наогул у альманахах, якія выходзяць у наш час. Справа ў тым, што наша эпоха патрабуе ад пісьменьнікаў самага шчытнага набліжэньня да актуальных задач дня, да вырашэньня гэтых задач праз творчасьць, альманах-жа заўсёды зьяўляецца на кніжным рынку больш-менш выпадкова, констатуючы асобныя літаратурныя факты. У гэтым яго слабасьць, але мы не адмаўляем права альманахаў даваць моцны і багаты матар'ял, які сам па сабе заўсёды зьяўляецца актуальным.

Як жа падыходзяць да сучаснасьці аўтары твораў у „Сьвітаньні“?

Яны бясспрэчна лічаць літаратуру клясавай зброяй і кожны з іх стараецца аддаць сваю ліру на карысьць пролетарыяту для пабудаваньня соцыялізму. Горад з машынамі і дынамічным жыцьцём, які абяцае ашчасьлівіць жыцьцё чалавека праз машыну—гэта агульны мотыў для ўсёй групы пісьменьнікаў. Не забываецца і вёска з васількамі, як саюз з горадам.

Такое аднолькавае замілаваньне і вёскай і горадам яскрава выказана ў Сівака ў вершы „Цёмнай ночча“:

Мае думкі—шлях вясёлка,  
Мае шопаты—гудок.  
Сам я чую шопат звонкі,  
Мушу слухаць, як пяюць  
Век шумлівыя сасонкі  
Вечна песеньку сваю.

Затое-ж у вершы „Думкі“ Базылёнка зусім ня зьвіняць васількі і толькі трубы даюць імпульс да жыцьця.

Васількі ня зьвіняць пераразвонамі  
Ня ўсьцілаюць мне шлях да жыцьця,  
У вачох маіх трубы калёнамі  
Сноп'ем дыму пад неба шасьцяць.

Але і ён прарочыць сваёй краіне:

Табе, Беларусь, вяшчую  
Машынамі быць узоранай,

дзе відна сувязь гэтага поэты з зямлёй і з сялянскімі вобразамі. Часамі нашы поэты адчуваюць сябе гэроямі, як, напр., Сівак у сваім вершы „Камунар“ да дзесятай гадавіны Кастрычніка піша:

Я вышаў на поле, дзе пуста бяз конца,  
Адважным і сьмелым іду працаваць.

Чаму-ж гэта „пуста бяз конца“? А дзе-ж масы? Гэрой бяз мас ня вяжэцца ў нашым уяўленьні.

Апавяданьне Цікавага „Віраплынь“ слабавата апрацована і старая тэма. У апавяданьні Васілеўскай „Будуем“ сапраўды адчуваецца будоўля і поэтычнасьць.

Наогул-жа апавяданьні зборніку ня дрэнныя і чытальныя. Трэба вітаць п'есу „Чырвоная Касынка“ Ганны Базылёнка за перадачу рэальнага сялянскага быту. Адмоўна тое, што п'еса расьцягнута і закончваецца без эфэкту.

Чацьвёртая дзея бадай залішняя, без яе можна было-б абыйсьціся.

Вітаючы рост у параўнаньні з мінулым, адзначаючы бадзёрасьць, цьвёрдую волю і веру ў будучыну, усё-ж такі неабходна пажадаць лепшага, бо якраз галоўны бок мастацкасьці—паказ жывога чалавека, асабліва ў вершах, ня выкананы. Творчасьць з боку тэматыкі аднастайная. Мова таксама мае хібы: дрэнная пабудова сказаў і русіцызмы.

Але з далейшым ростам гэтыя недругарадныя заганы, будзем спадзявацца, загінуць.

*М. Б—к.*

# ХРОНІКА

← 12 лютага г./г. ў г. Горках адбылася акруговая конфэрэнцыя Аршанскай філ і Маладняка сумесна з прадстаўнікамі літ. студый г. Амсьціславу, Воршы і Горак. Прысутнічала 15 дэлегатаў. Абгаворана і вырашана шмат пытаньняў, зьвязаных з разьвіцьцём літаратурнага жыцьця на Аршаншчыне. Па пытаньнях практычнай працы прынята наступная рэзалюцыя:

„Лічыць неабходным правесьці наступную працу па практычнаму правядзеньню задач пролетарскай літаратуры ў умовах Аршаншчыны:

а) Узмацніць сувязь з літ. студыямі, даючы ім шырокую магчымасьць выяўленьня на старонках „Арш. Маладн.“, а таксама наведваньнем і дапамогаю ў працы.

б) Неабходна, урэгуляваўшы сучасны стан грашовых сродкаў філіі, дабіцца з наступнага бюджэтнага году сталага каштарысу ад АВК на працу філіі, таму што няўпэўненасьць у магчымасьці падтрыманьня шкодна адбіваецца на выдавецкай справе філіі.

в) Зрабіць на працягу году шэраг выездаў у буйнейшыя цэнтры акругі з дакладамі пра сучасную літаратуру з мэтаю выяўленьня новых літар. сіл у рабочых цэнтрах і азнаямленьня шырокіх колаў насельніцтва з працаю філіі, дзеля чаго дагаварыцца з адпаведнымі установамі аб рэальнай магчымасьці правядзеньня вышэйпаказанага.

г) Увесьці ў практыку працы філіі наладжваньне літаратурных вечароў з шырокім удзелам рабоча-сялянскіх мас.“

Прадстаўнік Часовага Кіраўніцтва Маладняка т. Каваль зрабіў даклад аб стане Маладняка, як літаратурнай організацыі на Беларусі. На конфэрэнцыі было абрана ў новым складзе бюро філіі, куды ўвайшлі наступныя таварышы:

А. Вечар—кіраўнік філіі, Варончанка (Ворша), М. Ганчарык, Ю. Гаўрук—літ. кіраўнік і т. Прыбыткоўскі—сэкратар філіі.

На Ўсебеларускую конфэрэнцыю Маладняка былі дэлегіраваны: Вечар, Гаўрук і Прыбыткоўскі.

← 15 лютага г./г. ў Менску адбылася Ўсебеларуская конфэрэнцыя Маладняка, дзе прысутнічала 28 дэлегатаў, што складае палову сяброў аб'яднаньня. Конфэрэнцыя, скліканая Часовым Кіраўніцтвам Маладняка, палажыла канец організацыйнаму крызісу ў працы. Было абрана сталае Ц. Б. ў складзе 7 сяброў: Галавач, Ліманоўскі, Гаўрук, Вечар, Каваль, Лыньков, Мазуркевіч і 2-х кандыдатаў: Моркаўка і Барашка. На конфэрэнцыі прынята рэзалюцыя аб уваходзе Маладняка ва Ўсесаюзную Асоцыяцыю пролетарскіх пісьменьнікаў (ВАПП).

← У пачатку сакавіка г.г. ў Амсьціслаў наведаліся сябры бюро Арш. філіі А. Вечар і Ю. Гаўрук, якія правялі літаратурны вечар у Пэдтэхнікуме і занятак у літ. студыі.

Амсьціслаўская літ. студыя налічвае зараз 13 асоб, з якіх 9 студэнтаў Пэдтэхнікуму, 2 студэнты Пэдкурсаў і 2 вучні сямігодак. Амаль усе таварышы-студыйцы ўжо друкавалі свае творы ў розных акруговых і цэнтральных выданьнях—усяго 120 твораў, пераважна вершы. Аб працы студыі ў крытычных нататках маюцца добрыя водгукі. Зараз студыя выдала № 5 свае часопісі „Юнацкі Кліч“, якая друкуецца на машынцы. У маі м-цы г.г. студыя рыхтуецца адсьвяткаваць свой трохгадовы юбілей выстаўкай літаратуры і асобным літаратурным вечарам.

У гэтым нумары зьмешчаны вершы наступных т. т. з Амсьціслаўскай літ. студыі: З. Піваварава, З. Астапенкі, С. Калугіна, Л. Максімава, Ю. Таўбіна, Я. Гоманава і Ганны Сапрыкі. Перад студыяй паўстае задача выхаваць са сваіх шэрагаў некалькі таварышоў, якія працуюць у сучасны момант над прозай.

← У Воршы распачаў працу літ. студ. гурток, організаваны ў канцы сьнежня г. г. Праца пачала толькі разгортвацца, але гурток ужо выявіў сваю жыцьцяздольнасьць. Ставяцца даклады на занятках гуртка, робяцца разгляды сваіх твораў, выпраўляючы памылкі таварыскай самакрытыкай. У гэтым нумары з Аршанскага студ. гуртка зьмешчан верш т. Законьнікава.

Апроч памянёных дзьвюх студый Аршанская філія мае ў г. Горках яшчэ дзьве студыі: у Акадэміі і на агульна-адукацыйных курсах.

← Пасьля некаторага застою ў Горках ажывілася літаратурнае і культурнае жыцьцё ў шырокіх колах. За апошні м-ц праведзена шмат дакладаў, з якіх неабходна адзначыць:

Даклад т. Ігнатоўскага „Ленін і нацыянальная культура“, у якім дакладчык нязвычайна яскрава паказаў сутнасьць культуры пролетарскай па зьместу, нацыянальнай па форме.

Даклад т. Сянкевіча „Шляхі беларускай літаратуры“, дзе сапраўды об'ектыўная ацэнка і суровая аргумэнтацыя зрабілі ўплыў па ўнясеньні парадку ў думкі, дэзарганізаваныя некаторымі апошнімі падзеямі ў літаратурным жыцьці.

Дыспут „Аб новым чалавеку“ — асноўны дакладчык Бухаркін. Гэтая цікавая тэма выклікала многа спрэчак і выказваньняў.

← На юбілейным вечары М. Горкага ў Горках у тэатры Акадэміі былі зроблены даклады аб яго творчасьці і рэвалюцыйным значэньні. Сіламі драмгуртка быў пастаўлен твор М. Горкага „На дне“.

← 25 красавіка прыяжджае ў Горкі І-ы Беларускі Дзяржаўны Тэатр, які думае даць шэсьць наступных пастановак: „Каваль-ваявода“, „Кастусь Каліноўскі“, „Над Нёмнам“ (М. Грамыка), „Кар'ера таварыша Брызгаліна“, „Мешчанін у шляхецтве“ (Мольер) і „Стралок Тэль“.

## Ліст у рэдакцыю

ПАВАЖАНЫ т. РЭДАКТАР!

У № 5 „Літаратурнага дадатку“ да „Савецкае Беларусі“ (31 сакавіка 1928 г.) надрукавана ў хроніцы нататка аб артыкуле нейкага М. Г. у украінскай газэце „Діло“. Нататка гэтая напісана так, што неасьвядомленыя чытачы могуць падумаць, быццам у ліку беларускіх пісьменьнікаў, якіх аўтар артыкулу ставіць „на адну дошку з Янкам Купалам і Якубам Коласам“, ёсьць гэткія „мяшчане ў літаратуры“, што даюць некаму весткі аб беларускай літаратуры, карысныя толькі дзеля іх пэрсанальна, або нават у сваіх крытычных артыкулах самі сябе хваляць. Дык прашу надрукаваць у вадным з бліжэйшых нумароў „Савецкае Беларусі“, што ў жыцьці паказаных пісьменьнікаў і наогул у вядомай гісторыі беларускае літаратуры і крытыкі ніколі нічога падобнага ня было, і я пэўны, што і ня будзе, а калі апошнім часам у беларускіх літаратурных спрэчках здараліся выпадкі нясумленнага хаваньня пад псэўдонімы ці нават ніколі даўней ня чутага сьвядомага карыстаньня чужымі ініцыяламі, дык гэта былі толькі дробныя, запраўды мяшчанскія, выбрыкі, якіх, пры належнай увазе з боку рэдактароў, напэўна, больш ня будзе. Ня чытаўшы артыкулу М. Г., цяжка сказаць, ці ёсьць тут правакацыя ў адносінах да майго імя, але мушу заявіць, што абсалютна нічога супольнага з гэтым М. Г. я, вядома, ня маю.

Мімаходам, яшчэ адна папраўка. У № 78 „Савецкае Беларусі“ (1 красавіка 1928 г.) напісана, што знойдзены дакуманты, быццам паэма „Тарас на Парнасе“ „зьяўляецца творам нейкага Арцёма Вярыгі-Дарэўскага“. З кнігі акад. Е. Ф. Карскага „Белорусы“ том III, частка III, і з маей „Гісторыі беларускае літаратуры“ відаць, што гэты „нейкі“ ёсьць вядомым беларускім пісьменьнікам 19-га веку.

Прашу іншыя газэты і журналы перадрукаваць.

**Максім Гарэцкі.**

4-IV 1927 г.
Горкі.

## Выпіска з протаколу агульнага сходу Аршанскай філіі „Маладняка“ ад 10/IV—28 г.

С л у х а л і: Аб літаратурным дадатку да „Савецкай Беларусі“ № 5.

П а с т а н а в і л і: Перадрукаваць ліст Максіма Гарэцкага, зьмешчаны ў газэце „Сав. Беларусь“ ад 7 красавіка 1928 году.

Лічыць неабходным рашуча зьвярнуць увагу пролетарскага грамадзтва на тыя злосьніцкія анонімныя інсінуацыі, якія часамі дапушчаюцца на старонках нашае прэсы.

Пара скончыць абзываць пісьменьнікаў „мяшчанамі, борзапісцамі, контр-рэволюцыянэрамі“ і т. д. з мэтаю ўтаптаць іх у гразь дзеля свае пэрсанальнае альбо гурткавое выгады.

Трэба змагацца ня лаянкай, а об'ектыўным доказам, адкрыўшы твар перад масай, а не лякліва схаваўшыся за чужую сьпіну, альбо за псэўдонім.

**Аршанская філія „Маладняка“.**

## КУПЛЯЙЦЕ МАЛАДНЯКОЎСКІЯ ВЫДАНЬНІ



---

Усе ранейшыя нумары Арш. Маладняка разышліся.

Па першаму запатрабаваньню высылаем № 7 накладною платаю.


**Адрас рэдакцыі: Б. С. С. Р. г. Горкі, Арш. акругі, Беларуская Акадэмія С. Г., Арш. філіі Маладняка.**


---


Адказны рэдактар: **РЭДАКЦЫЙНАЯ КОЛЕГІЯ.**

